Гісторыю жыццья,
змаганьне,
дасягненьні—
зброшуруем
з сонечных
праменьняў!

Андрэй Александровіч

# УСТАНОЎКА

Як сонца — агніста,
як сэрца — няспынна,
працай віхрыстай
узьнята краіна.
Выбухам творчым,
як іскрамі горн, —
вышлі рабочых
брыгады
          на фронт.

Песьні, як вочы,
запалам гараць-..
— Таварыш, рабочы,
ты мусіш —
          — дагнаць!

Краіна ў паходзе!..
Рабочых брыгады
фабрыкі ўводзяць,
нібы барыкады.
Тлей векавая
балотаў пятля!
Межы зьнікаюць!
— Паўстала зямля!
Песьні, як вочы,
запалам гараць.

Рабочы,
настала
пара
          — перагнаць!
Паўстаньнем ахвачаны
скарбы абшараў.

Ня мілаваць спадчыну,
здаць качагару!
Знай,
цягні!
Няхай
цягнік,
як слава,
мчыцца —
навальніцай.
Першы ў сьвеце
ўсіх сталецьцяў!
Сьцяг
узьнянь
і дагнаць!
Наперад,
рацaverage —
Перагнаць!
Дагнаць і перагнаць!

Менск, 1930

## ЛЕНІНСКАЯ ПЕСЬНЯ

Сталёвым поступам жыцьця
мы творым дні нястрымнай лавай.
Ўзьнімайся вышай, працы сьцягі
Вялікай будучыне — слава!

Сілай магутнай, паводкай усьпененай,
зьнігнчым сьлед прошласьці:
з намі сьцяг Леніна!
З песьняй шматструннай
ў бой за Комуну,
ў бой!
Грамадой!

І дзень і ночь гудзі, завод,
ў паход, рабочыя паўстанцы!
І блізка час: сярод балот
пачуем гул электростанцый!

Сілай магутнай, паводкай усьпенецай,
зьнішчым сьлед прошласьці:
з намі сьцяг Леніна!
З песьняй шматструннай
ў бой за Комуну,
ў бой!
Грамадой!

І песьня волатаў — машын —
краіны нашай дасягненьне.
Пад сьцягам Леніна — і шыр
сусьвету ўбачыць вызваленьне!

Сілай магутнай, паводкай усьпененай,
зьцішчым сьлед прошласьці:

з намі сьцяг Леніна!
З песьняй шматсруннай
ў бой за Комуну,
ў бой!
Грамадой!

1929 г.

## ДВА СЬВЕТЫ

Пад сонцам
два варожых сьветы:

агняцьветны
край Саветаў —

і другі,
дзе разьнята
зямля на краіны,
і, як краіна, —
на штаты.

Па штату
краіна
там
мець павінна
бронямашыны
і казэматы.

„Сыты галоднаму
не спагадае" —
векавая
пагаворка.

Церпяць рабочыя
і ў Шанхаі,
і ў Бэрліне,
і ў Нью-Ёрку.

За завесаю констытуцый
скрыгань і шквал барацьбы.

— „Паны між сабою б'юцца,
а трасуцца
ў мужыкоў чубы".

Сокалу крыльля абрэзаць —
Сокал ня будзе лётаць.

Ня стрымаць пролетарскіх узьлётаў —
ні мітральезай,
ні кулямётам.

Ад зор і да зор суткі,
дваццаць чатыры гадзіны.
Кожная краіна,
там —
як простытутка
прабіваецца на рынак.

Рабочы бяз працы.
Чуеш, —
у муках народзіцца радасьць.
Галодны паход — будуе
рэволюцыі
людзкую
барыкаду.

Якая розьніца?
Адна-ж бяда-пакута
у ткачоў і Беластоку,
і Ліоны,
і Калькуты.

Якая розьніца?
(хоць шлях змагаяньня свой там!)
Ці токар з Токіо,
ці з Вены,
ці з Дэтройту?!

Адным агнём гараць
(агнём зазыўным!) вочы.
Ніякай розьніцы. І там —
і там —
рабочыя!

На фронт, таварышыі
На фронт, — энтузыясты!
Такія дні
стракаюцца
ня часта...

У барацьбе, за працаю
што дзень, сабе
Прыблізім —
заваёваны
ў баёх
соцыялізм!

1930 г.

# С А С Н А

1

Вось адно, як струна,
сасонка расла
у бязьмежным
бары-гушчары.
А сягоньня яна
пачарнеўшы лягла
на асьнежным
фабрычным двары.

Загудзела піла,
застагнала сасна;
пры дарозе,
як сьлёзы, апілкі.
Сасонка расла,
як струна,
не адна —
з ёй і сёстры, як тыя асілкі.

Расла маладзіцай,
вяршынаю сьмела
зьвінела
і ў сьцюжу-завею.
Бывала, імчыцца
вей-вецер
і вецьце
лёгкім павевам авее...
І птушкі зайграюць
сасонцы
да сонца,
як быццам на гусьлях зялёных...
Цяпер, як скала,

скамянеўшы лягла,
закрыўшы галінкамі скроні.

2

Эх, сасоньніца сасна,
дні суровыя..
Бервяно да бервяна —
хата новая!
Ды спрадвечная дрыгва,
нібы раніца,
Буйным цьветам харасва
зарумяніцца.
Гаратлівасьці былой
час пазбыцца нам!
Забудуем шыр балот
камяніцамі!
Эх, сасоньніца-сасна,
дні суровыя..
Бервяно да бервяна —
хата новая.

3

Цяжкая праца, нялёгкая праца,
цяжка, браты, беднаце будавацца.
Капейку, другую за працай зьбярэм мы,
злыдзень змарнуе, — зьбіралі дарэмна.
Шмат каму нашас сёньня варожа —
гатовы атрутай,
— чорнай пакутай,
— чорнай пакутай,
стрыножыць!
Чэшуцца рукі спрадвечных зладзеяў,
рвуцца стрыножыць, дый сіл не стае ім.
Корчыцца помста ў іх сэрцы здрантвелым.
А глянеш наўкола — будуюцца сьмела.
Праца віхрыста ўзьняла завіруху —
і хочаш ня хочаш:
— а песьню рабочых.

песьню рабочых,
— слухай:

4

Гэй-жа, разам
Гэй-жа, разам!
Гэй, адразу
возьмем
разам!
Гуртам!
Дружна!
— Хлопцы, здужым!
Гэй, яшчэ!
Яшчэ!
Яшчэ!
Будзе сонца
зьзяць ярчэй!
Што ня стане
ў час рабочы?
ў нас і камень
зарагоча!
Гэй,
адважна!
Ўсё для нас!
Дай, наляжам,
друж-на!
... Раз!

5

Эх, сасоньніца сасна, —
                    нашы дні суровыя,
бервяно да бервяна, —
                    хата новая.
Дзе-ж раскінута багна,
                    вырастуць дуброваю
за сасонкаю сасна —
сосны новыя!

1926 г.

ВЕКАПОМНЫЯ ПАХОДЫ
(Шлях поэмы)

*

Хай бяз ботаў, бяз шынэлі,
у мяцелі, сьцюжы,
дружна біліся, гарэлі,
агнявелі — здужыць!
Як штыхі ад сонца, стальлю
вочы зырка зьзялі.
Што Кастрычнік горда даў нам,
адстаялі слаўна!

*

На разваліны-руіны
ўзвод за ўзводам,
выйшла армія краіны
баявым паходам!
Загаілі фабрык раны
працай дружнаю, стараннай.
Загулі-былі машыны
песьняй радаснай, нястрымнай,

*

Замест патронаў — зерне!
Замест бранявіка —
трактар пераверне
хутар кулака!
За прасторы, за абшары
і на межы-дрот —
Армія Чырвоная —
    — Аграпаход!

*

Бяз працы ў голадзе гінуць
мільёны рабочых краіны.
На біржах працы
зьлёт.

Выходзіць змагацца
галодны паход!
На барыкады,
засесьці ў акопы, клічуць
рабочых
Эўропы!

*

Труціць, як калісьці,
імкнуцца народ.
Зьбіраюцца выйсьці
ў „крыжовы паход".

Разам з прадажным
штандарам хрыстовым
крыжам зьляжа —
„паход крыжовы"!

*

Мы закон жыцьця зьмянілі!
Ня стрымаць нас! Не асіліць!
Рух — на Захад! Мусім там быць!
Узарвем заставы-дамбы!

Хто ня верыў, што ўзараем
поле безгранічна?
Што пачуецца над краем
гул машын фабрычных?

Хто ня верыў, што краіну
з векавых балот і ціны
прывядуць байцы-паўстанцы
ў край электрастанцый?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чырвонасьцяжныя паходы
год за годам — лавай —
новых дзён цьвітуць усходы
бальшавіцкай славай!

1930 г.

## ГЭРОЙ ПРАЦЫ

Закалыхалася сірэна ў белых сецях,
узбудзіўшы раніцу зімы...
На лядзянках коўзаюцца дзеці,
як калісьці коўзаліся мы.

Аздобілі бель-сьнежаныя ўзоры
шыбіны застыўшых камяніц.
На фабрыцы
        машынным звонкім хорам
кіраваў
        сівенькі машыніст...

Асьнежаны бязьмежныя даліны,
Асьнежаны фабрычных труб квартал.
З шаснаццаці гадоў ён ля машыны,
з шаснаццаці за працай каратаў.

Павевам гордай радасьці — ўрачыстаць
рабочы клюб прыветліва спаткаў:
— Гэроя працы — машыніста —
насіла моладзь на руках!..

1926 г.

# АКЦЯБРЫНЫ

Галаву сваю вечар павесіў,
заскрыпела адлігай зіма...
А за працаю гучна і весела,-
нудлівасьці ў працы няма!

Сёньня Максім з Кацярынай
з фабрыкі „Ўдарны фронт"
справілі баль-акцябрыны —
новае нашых дзён.

Піонэр ад рабочых падросткаў
гальштук чырвоны паднёс —
прамовай гарачай і простай
жадаў — каб вялікі рос!

Комсамолец з радасьцю кінуў:
— паслухай, таварыш, Максім —
нас — парадніла машына,
а з сынам — імя яго — КІМ.

Піонэр-комуніст-комсамолец —
разгортвайце — „Ударны фронт"!
Рух наш няспынны ніколі,
іскрыцца, як сонечны горн.

Радасьць працоўных усьпенена,
радасьць шчасьлівых хвілін.
Думкі бясьсьмертнага Леніна —
звонкія песьні машын.

12. IV. 25 г.

## СЬВЯТА ЖАНЧЫН

Па-над стрэхамі карагодзіць
аветраны вечар вясны.
Плыве гучная песьня ў заводзе, —
як на Нёмане ў буру чаўны.

На заводзе, на родным заводзе,
сёньня сьвята, ўрачыстасьць, парад.
Думкі Леніна сонцам усходзяць, —
Марта робіць жанчынам даклад.

Маладая работніца Марта,
яе словы ад сэрца зьвіняць:
— Ну, чаго мы раней былі варты?
Вечна сьлёзы, вечна грызьня.

Жыцьцё?.. А хто яго бачыў?
Дванаццаць гадзін за станком,
прыдзеш дамоў і... плачаш:
голад і сьмерць пад вакном.

Работніцы! Хто нас слухаў?
Фабрыкант, ён нам памагаў?
Скажам проста, — заедзе па вуху;
Душылі як толькі мага...

На задворках мы трэскі зьбіралі,
было-ж нам купіць шурку дроў?
Мы сухоты ў грудзёх гадавалі,
гадавалі ў сухотах сыноў.

Работніцы! Маткі! Жанчыны!
Мацнейшымі быць мы павінны!
Хай жыве правадыр наш Ільліч!
Ён узьняў нашай радасьці зьніч.

Дзе ні глянеш — уздымам палоніць:
няе грамада дзяўчат,
хлопцы жаргуюць. Сягоньня —
на заводзе ўрачыстасьць, парад...

1926.

# Д Р У К А Р

І дзень і ноч дрыжыць ліхтар,
сьвінцовы пыл у вокны звоніць.
Над касай стомлены друкар
трымае літары ў далоні.

Кладзе ў радкі, бы мосьціць брук:
за словам слова, — так артыкул.
Вясёлай песьняй творыць друк,
але баліць рука — матыка.

І дзень і ноч машынаў гул
цалуе горача рабочых.
Таму руку, таму нагу
прыцісьне, радасна рагоча:
— „Варштат заменіць сотні рук, —
што робіш ноч, ён дасьць хвілінай.
Гэй ты, крылаты вольны друк,
цябе вітаю я, машына!"

Студзень 1924 г.

## Ш А В Е Ц

Засядзеўся сягоньня, ажно да агня,
зьнемаглася рука, здранцьвела.
А глянеш — прыемна, як глянсам зьвіняць
камышы замшава-белыя.

Марудна штось праца сягоньня цякла,
пад сэрдцам сьпякота смактала.
На вуліцы лужамі восень лягла,
імглою брук ласкатала.

На варштаце начыньне, бяз іх, як бяз рук,
прападзеш за нішто, як бяз працы.
Шыла няма — спрабуй, зашнуруй,
без нажа — дарабі абсацы?

Фумаль, шпілёрт, нават шпандар і той
пры рабоце, як вінцік машынны.
І хром і шаўро прападуць за нішто;
Ні шавец — калі ён без начыньня...
Засядзеўся сягоньня, ўсё-ж скончыў заказ,
хоць агні ўжо ў вітрынах дрыжэлі...
Зьнямогся за дзень... Аслабела рука,
утомаю плечы самлелі.

А ў рань загудуць на заводах гудкі —
майстэрня ізноў забушуе.
Гручаць, куючы падашву, малаткі,
альбо калі дратвай шнуруеш...
Даволі сягоньня... Зьняў свой фартух.
На вуліцы з гулам спатканьне...
        Яшчэ адзін дзень у тумане патух,
а і вечара хутка ня стане.

26. XI. 1925 г.

# З А   І Г О Л К А Й

Песьні — гучныя вясёлкі
пацяшаюць, як ніхто.
Дашывай, мая іголка
новамоднае манто.

А як толькі зьвечарэе,
як заморыцца рука —
пабягу тады хутчэй я
свайго любага спаткаць.

Ой прысяду каля саду,
каля саду пры сасьне.
Загадае пяць загадак,
пяць загадак мілы мне:

— Каля дрэўца што віецца?
— А бяз цьвету што цьвіце?
— Што бяз голасу сьмяецца?
— Што бяз кораня расьце?
— Што бяжыць і сьлед зьнікае?

Загадае, мілы, мне.
Вечар ціха засьпявае,
вечар ласкава міргне.

Песьні — гучныя вясёлкі
пацяшаюць, як ніхто.
Дашывай, мая іголка,
новамоднае манто.

1926 г.

# БАЦЬКАВА РАДАСЬЦЬ

Гэй, шыпі, сьпявай, машына,
весялей гудзі, кацёл!
Сёньня сьвята, сьвята сына —
залічыўся ў комсамол.

Сёньня сходка фаб‘ячэйкі,
хлопцы — проста ў іх агні.
Эх, сталёвая жалейка,
маёй радасьцю зьвіні!

У віхуры, ў завірусе
ды фабрычнага жыцьця,
комсамольцам Беларусі
стала роднае дзіця.

І на фабрыцы рухомы
малады мой качагар.
Выбран членам фабзаўкому, —
весяліся ў домне жар!

Бацьку-ж радасьці хвіліна,
ў сэрцы шчасьця сытны стол.
Гэй, шыпі, сьпявай, машына, —
ў тваіх сьпевах — Комсамол!

1924 г.

# НА ЗАВОДЗЕ

Сонца пачне гушкацца,
або з хмарай вадзіць карагод.
А рабочы бяз сонца за працай,
яго газавы латчыць смурод.

Машыны ў разгоне няспынным,
ў катле б‘е-пеніцца вар.
У падвале, у печцы дымнай
крычыць малінавы жар.

Пераліваецца гул на заводзе,
люблю песьні заводу свайго.
А сонца ў „вялікім паходзе"
ў завод і ня ступіць нагой.

Прывозяць вагонамі камень,
выгружаць рабочы ідзе.
Уздымаецца пыл слупамі —
ў грудзёх, у рабочых гудзе.

А сонца, дзе-ж сонца бывае?
У завод ці-ж няма пуцявін?
Дагуляецца, што-ж, хай гуляе...
Наша сонца — песьня машын!

Хай сонца званіцы ліжа,
а нас электрычнасьці сьвет.
Наша мэта ўсё бліжай і бліжай,
перамогай наперад заве!

24. III. 25 г.

## У КНІГУ ЛЕТАПІСЦА

У кнігу старца-летапісца пяро пісаўшае вякі —
за век дваццаты, век сучасны, ўпісала новыя радкі.

Як люстра, ясна адбівае сівой мінуўшчыны прыгон
і шчасьце, волю, будаваньне — краіны роднай
нашых дзён.

27. VIII 22 г.

## ПАД СЫДЯГАМ РАДАСЬЦІ

Зьліпае бровы хмар
праменная далонь.
Кладзецца сонца спаць
пад мяккай коўдрай змроку.
Зямля запальвае
на зьмену
свой агонь,
як маці, кормячы
сваім уласным сокам.

Зямля і чалавек!
Штурм розуму і скарб!
Зямля і скарб!
Энэргія і згода!
І —
электрычнасьцю
зальлем зямлі абшар —
пад сьдягам радасьці,
пад сьцягам сонцаўсходу.

Угрунь, жыцьцё!
Разгортвай сілы скарб!
Як хвалі радыё
у поступе разьбежным —
захватывай абшар,
правамі ўладара,
каб, — як і сонцу, — нам
ня ведаць розных межаў!
І Беларусь,
        і Украіна,
            і Расія, —

магутнасьць пролетарская
паўстань!
Зьмянілі рух жыцьця,
законы векавыя, —
за Днепрабудам
цэмантуем
Сталінстан.

А бліжай
бліжай,
бліжай,
Што дзень,
што час,
што крок
Народы працы,
нацыі плянэты,
як вусны з вуснамі,
так сэрца,
думка,
зрок —
зьяднаюцца ў сям‘ю
Савецкага Сусьвету!

1. VIII. 29.

## НОВЫ ГОД

І з году ў год,
і кожны год
крыштальным стыжам
слаўся лёд.

Як з году ў год,
як кожны год,
прышоў на лыжах
Новы Год.

Мінае ноч,
прасьнецца дзень.
За працай, глянеш, —
градам пот.

Было адно,
як млявы цень,
ішоў хістаньнем
Новы Год.

Як цень ішоў,
пад лязг зубоў,
лілася кроў
над кручаю.

Была журба,
і галыцьба,
і барацьба
гаручая.

Мо‘ хто й ня рад-
на новы дад
вядзем мы
дні і ночы.

Ня ў першы год
к нам Новы Год
ідзе
чорнарабочым.

Імчыцца ўгрунь
жыцьця разьбег,
як сьнег
далінай
вольніцай.

Як з году ў год,
кожны год
Новы Год
клоніцца.

31. XII. 26.

# РЭСПУБЛІКІ СЬВЯТА

Разагнаў вецер дымныя хмары,
бліснулі сонца праменьні.
Тлеюць руіны пажараў —

Нашае хаты бярвеньні.
Ноч барацьбы прамінула,
бурная ноч — вызваленьне!

Адплату рацьбелых глынула —
Нявольніцтва зломаны краты...
Адплата агнём мільганула...

Вітайце Рэспублікі Сьвята!

Ліпепь, 1923 г.

## АПОШНЯЕ СЛОВА

*На сьмерць Сьцяпана Булата*

Вечная памяць табе, змагару!
Абарвана жывая струна...
Сьмерць так бязьлітасна, так не ў пару
цябе адабрала ад нас.

Зусім нечакана ня стала цябе,
але, не запомнім ніколі,
хто сэрца і сілу аддаў барацьбе
за сьцяг заваёванай волі!

Гарачая льлецца сьляза
ў акордах хаўтурнага маршу.
Мы сёньня
ідзем за труной,
                каб сказаць —
апошняе слова таварышу...

1921 г.

## К Р Ы Ў Д А

*Акадэмічнай конфэрэнцыі па пытаньні рэформы беларускага правапісу і азбукі.*

Няхай імгла,
няхай імклівіць восень,
няхай вятры ахутваюць выцьцём.
О, дні крылатыя!
Нікога мы ня просім
авеяць радасьцю юнацкае жыцьцё!

Паклоны біць?
— Вясьне вясёлка-тканай,
дый peралівам сонечных крыніц.
Як добра жыць!
Цаглінкаю румянай
будуем новыя, нязнаныя нам дні!

Пяшчоты радасьці
вірліва-творчай працы,
як песьня звонкая,
як прозалаць-агонь,
агорнуць ласкава
і нават дзіўна, братцы,
ня чуе зморнасьці юнацкая далонь!
Бывае ўсё-ж,
і сумна часам стане,
крыўдай лёгка сэрца разгнявіць.
Ёсьць-жа людзі з доўгімі вушамі,
дый ці варта толькі гаварыць?!

Няхай туга
зьвіе цябе часамі
увечар восені, увечар мітульгі,
тады прыпомніцца,
і жудасна мне стане,
— сьвет забыты, сьвет другі...

Сягоньня — мо таму, што восень
сьцюдзёным сьвістам
ладзіць звычай свой —
крыўду горкую прыпомніць давялося;
разгулам носіцца імгла бяды былой!

А слова мне
так дорага і блізка;
ў сугуччы гордых слоў
крыляцца дні цяпер!
Са-бра-лі-ся...
Няма гаручай іскры!
Гатовы выкрасьліць любімае мне „Р".

А хто адважыцца
поэму дзён бурлівых
бяз „Р" —
сьлюнявасьцю лірычнай апяваць?
Забыліся?
Забыліся, ой, дзі-ва!..
Ну, што-ж!
Раз цьвёрда сьцеляцца,
то й цьвёрда будуць спаць.
Адно, што сэрца радуе бязьмежна:
гучны гоман вуліц гарадзкіх, —
як зоркі ясныя,
як месяц беласьнежны,
як шэлест працы моцнае рукі.
Няхай імгла,
няхай імклівіць восень,
няхай вятры раскідваюць выцьцё.
О, дні крылатыя!
Нікога мы ня просім
авеяць радасьцю юнацкае жыцьцё!

Сьнежань, 1926 г.

# А У К Ц Ы Ё Н
## (ВЕРШАВЫ ФЭЛЬЕТОН)

Мы помнім, далакопы,
сьляды крывавых дзён, —
блудзілі вы Эўропай,
спраўлялі аўкцыён...

Вы гандлявалі, зграя,
окупаваным краем:
— Сьлюняўся Езавітаў —
ёсьць торф і фосфарыты.

Цьвікевіч кляўся богам,
ёсьць гліна, шкло і дзёгаць,

Лёсік голасам маршалкі —
ёсьць сярнічкі ці запалкі,

Пан Ластоўскі ў грудзі стукаў —
ёсьць сьпірытус, бульба, цукар.

Некрашэвіч сыпле ў жар —
ёсьць крухмал і шкіпідар.

І Грамыка вершаплясам —
ёсьць лясы — дубы і ясень...
А гандлёвая палата
расьпіналася заўзята:
— Ну, хто болей? Раз.
Хто болей?
Мы спаткаем
з хлебам-сольлю.
Два! Хто болей?
Выгад плённых
дасьць народ шматмільённы...

І крычалі, і пісалі,
чаргаваліся, лізалі..
генэралам, дэфэнзывам,
так пакорна, так лісьліва...

Краіну збыць яны хацелі, —
каб набыць сабе портфэлі...
Але...
Ня ўдаўся аўкцыён,
бальшавікі
перайшлі рубікон,
апавясьцілі свой закон —
новых савецкіх дзён!

Схавалі клыкі
растаўшчыкі,
адзелі маскі
і... калі ласка:

Адзін стаў палітрукам,
другі галоўнавука;
ды ўсе, як тыя п‘яўкі,
дабіліся спэцстаўкі.
І, як калісь, краіну
аплесьці павуцінай
жалезных ланцугоў
імкнуліся ізноў.

Але, ў пару якраз,
рукой рабочай з вас
сарвалі маскі
і... калі ласка.

1930 г.

## ПОЭМА ПРА ВОРАГА

*Если враг не сдается, его уничтожают.*
*М. Горький*

Векапомны сьлед налётаў.
Налятalі, як завея,
франкаў, стэрлінгаў
і злотаў
найміты-зладзеі.

Катавалі, рвалі жылы,
сьмерць душыла
ў муках лютых.
...Ўзнагароджвалі грамілаў
эўрапейскаю валютай.

*

Праляцелі сьмерчам-бурай
па тайзе сібірскай хмурай.

Фарбавалі кроўю шпоры
у грудзёх краін прымор‘я.

Размахночылі бясчынна
Шыр абшараў Украіны.

Захлыналіся запоем
беларускаю крывёю.

*

Ветры восеньскія вылі,
сэрца рвалі ўдзень і ўночы,
і разносілі на крыльлях
плач дзяцей і стогн жаночы.

У агнёвых хмарах рыжых
рабавалі людзі-зьверы —
па інструкцыях Парыжу,

пад контролем
Бэльвэдэру.

Галасілі ветры ў полі,
звалі выйсьці выгнаць пана.
        Кліч рабочага падпольля —
рушыў сілу партызанаў.

Ветры стукаліся ў шыбы
і заводаў, фабрык моладзь
зазывалі зьліцца ў выбух
сілы Комсамолу.

Хай і прогаладзь касіла
эпідэміяй бяз жалю.
На франтох краіны — сілу
барацьбою гартавалі!

І прышэльцаў і тутэйшых
катаў-ворагаў прагналі.
Хутка так, нібы дэпэша,
па краіне беглі хвалі
баявое песьні нашай
бальшавіцкім
        маршам.

*

У рыштаваньнях —
            Нашы дні,
Забінтаваны
            Нашы дні,
жыцьцё
гісторыяй нязнанае
ўзрастае.

Стрымаць?
        Спрабуй, крані!
Узарваць?
        Спрабуй, крані!
Наш кожны крок —
сьлед прошласьці
зьнішчае.

*

Мы адліваем сталь
упартасьці паходаў.
Жаданая вярста
маячыць сонцаўсходам!
Ударнаю, сквазной,
заводам бальшавіцкім —
узброеныя — біцца
за пяцігодку — ў бой!

*

...А зацярушан тыл
трухлёй варожых сіл...

*

Хто прагне крыві чалавечае мора —
наш клясавы вораг.
Хто мкнецца вярнуць нам забытае гора —
наш клясавы вораг.
Хто ў штурм пяцігодкі хаваецца ў норы —
наш клясавы вораг.
Хто хоча-ня-хоча, а ворагу ўторыць —
наш клясавы вораг.
Хто ў масках сягоньня, а вораг учора —
наш клясавы вораг.

*

Гады растуць, як патос
пролетарскае поэмы.
...Аселіся па хатах
беларускія нацдэмы.

Як цені, праўда, куцыя,
сяброў сваіх нязьменных.
Экс-кайзара, Пілсудзкага,
Керзона, Чэмбэрлена.

Яны вянком банкетаў
(Звычайна, вельмі проста...)

віталі сьмерць Саветам
блудлівым тонам тосту.

І кулакі, дзе ў хутар
зьбяруцца, точаць зубы:
гарыць назаўтра гута,
колгас ідзе на згубу...

І праз вакно — з нагану
у цьме начы імглістай
страляюць — партызана,
селькора, актывіста.

А ў шчыліне, хоць вузкай,
гняздо нажывы створаць:
з наццэмам беларускім —
расійскі царадворац.

Знайшлі і мову згоды
ў імгле сваіх клапотаў.
Злачынства іх — на продаж
і ў розьніцу і оптам.

Хто даражэй заплаціць,
таму і ўклон з пакорай.
Вораг той, што ў хаце,
самы люты вораг.

І шкодніцтва нястрымна
турму і голад несла
— „Единой неделимой" —
з... электрычным крэслам.

За Русь аслабнуць зборы,
узьнімуць сьцяг нажывы —
ад мора і да мора,
Падвалаў дэфэнзывы.

Распрацавалі „радай"
І тактыку і пляны —
крывавай лютай здрады
рабочым і сялянам.

У сэрцы гнеў штурмуе,
навальным б‘е прыбоем...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як клясу, ліквідуем
уласнаю рукою!

*

Злоўлены —
        за падрыхтоўкай вайны,
        за продажам лесу на труны.
Злоўлены —
        найміты таннай цаны,
магільшчыкі ўсходаў Комуны.

Злоўлены —
        ў масках сучасных прыблуд,
        шкоднікі справы і слова.

Маскі далоў!
        Рэволюцыі суд
        бязьлітасны і
К а н ч а т к о в ы .

Сьнежань, 1930 г.

## ТАВАРЫШЫ, З НАМІ ВЯСНА!

*Прысьвячаецца Беларускай*
*Рабоча-сялянскай грамадзе*

Стройся колёнай, жалезная сіла,
чуеш фабрычны гудок?
— З намі вясна!
Уздымам шматкрылым
сэрца гаручае запаланіла
бы электрычны ток.
З намі вясна! Таварышы, з намі!
Рукі прасьцерла праменьiем жыцьця,-
сонцам шматструнным
прадвесьняй Комуны
зьвіла пераможны Чырвоны сьцяг.
Колькі запалу, адвагі і веры
крыецца ў сіле рабочых колён.
Валамі шторму
рушацца ўперад;
на бой заклікае,
змаганьня закон!
Бяз страху —
жыцьцё аддавалі на плаху.
Бяз страху, бяз жалю
змаганьне вялі.
Ворагаў білі размахам
напорным,
          шляхам
               прасторным
                    наперад ішлі.

Славу здабытую дзён пераможных
стальлю гартуе фабрычны варштат.
А думкі крыляцца, імкнуцца трывожна
ў краіну, дзе голад, дзе тысячы крат.
ў краіну разьюшанай банды магнатаў,

дзе прагнуць, каб зьнішчыць, бясьследна, на звод,
прадажныя людзі: жандар, провокатар —
на суд вядучы працавіты народ.
Магнаты, панове — усе —
бязумоўна —
гнуцца ў паклон залатому рублю.
Рвуць скарыстаць,
каб суцішыць працоўных,
аэро, гідро —
ваду і зямлю!
І вырваць мову?
І вырваць рукі?
Хто?
Якой сілай
краіну сагне?!
— Дый не!
Ніколі!
Адны пагудкі!
Ня вырвуць мову!
Ніколі! Не!
Таварышы, гэй! Заўсёды адважна,
хай толькі...
Бяз панікі, ўперад, угрунь!
На полі, на бруку
загінем, паляжам,
адно ўсё-ж запалім
ў відалях
зару.
Думкі, як іскры, ружовым сьвітаньнем,
думкі, як іскры, асьвечваюць шлях.
— З намі вясна!
— Таварышы, з намі!
Вышай,
да сонца
Чырвоны сьцяг!

1928 г.

## ФАБРЫКА СЬМЕРЦІ

Краіна, родная! Дарогі крыжавыя,
скажэце гоманам нахмураных прысад:
— Глумілі нас фэльдфэбэлі Расіі,
як быццам поле ў буру буйны град.

Дарыла торбы нам, жабрачыя дарыла
„культура" чорная разьюшаных баяр.
На струйы з нас зьдзіралі нашы жылы,
смакталі кроў памешчык і жандар.

Сьвету яснага ня бачыў край вякамі,
грудзі кволыя сьціскаў халодны мур.
Слова роднае закоўвалася ў камень,
народ наш знаў: турму і сьмертны шнур.

А сёньня... там... у загранічных ботах
жандары-найміты крывавую разьнёй
нашых змучаных братоў за польскі „злоты"
зьвярына катуюць, накінуўшысь грунём.

Зарасьлі былі сьляды баяр праклятых,
загінуў бляск фэльдфэбэльскіх пагон.
А сёньня... там... будуюць казэматы!
А сёньня... там... няведамы прыгон!

Па сьпінах мужыкоў ангельскі сьвішча шомпал.
гуляе паншчына — нікчэмны чорнацьвет.
Чаго-ж маўчыць культурная Эўропа?
Крык зьняволеных даносіцца ў сусьвет!

Зноў Лукіскіх камэр не хапае,
зноў шляхі афарбавала кроў.
Што паноў разьюшаных стрымае?
Правіць турмамі Пілсудзкі-Мураўёў!

Але шляхі адважнага змаганьня
ня змые паншчына кіпучаю крывёй.
Надыйдзе новае, агністае сьвітаньне
Сярпа і Молата над Злучанай Зямлёй.

Краіна, родная! Дарогі крыжавыя,
гудзеце гоманам нахмураных прысад:
— Польшча сёньня, як царская Расія,
краіна сьмерці.... Краіна цёмных крат!

1926 г.

## В Е Ч А Р

Слухмяным хлопчыкам прышоў
у горад
вечар...
Вечар
зорак
тчэ павуціну сноў.
А ў глухой прасторнай сіні-ўзвышшы
вечар славу нашу
чырвонай ніткай вышыў.
Подых ветру вабіць радасьцю рабочай,
песьні вуліц цешаць штурмам барацьбы.
Сэрца ціха-ціха шэпча мне, прарочыць:
— Хутка мы павінны у Заходняй быць.

1926 г.

# ПАНСКІ ПАДАРУНАК

І ляпіць бязьмежжам
ведер, як на крыльлях.
— Межы, толькі межы
думкі засланілі.

Там забралі права
думаць, нават думаць!
Чорная расправа
панскі падарунак.

З панскага аблічча
дай сарвем завесу, —
колькі там налічым
жудасных працэсаў.

Чую крык нястрымны
полем і лясамі:
лепшы сын краіны
сёньня катаржанін.

Ляскаюць кайданы —
ў катаргу магнаты,
люд закатаваны
гоняць з казэматаў.

Знаем мы, ў палацах
крыецца яднаньне
майстраў провокацый,
лютасьці й выгнаныш.

Толькі дзеці працы
сёл, мястэчак, местаў —
сілай дэмонстрацый
шлюць свае протэсты.

Хай гучыць нястрымна
глеба пад начамі:
лепшы сын краіны
сёньня катаржанін!

Хай разьлёгся вужам
дрот, радзіўшы стогны.
Але не, ня здужаць
Беларусь мільёнаў!

Чую я заўсёды,
чую й ня дзіўлюся —
ўзойдзе й там пагода
Савецкай Беларусі.

1928 г.

# ПАДПОЛЬЛЮ

У глыбі, дзе сеткай карэньні,
комсамольцы выкоўваюць волю.
— Прынясе, прынясе вызваленьне
Комсамол Беларусі — падпольлю!

Падпольле -дзіця рабочых!
Вінтоўка — штых — наган...
Стальлю звоніць друкарня ноччу,
адбівае паўстаньня плян.

А на вуліцах панская варта —
ня нырне ў сустарэньне жыцьця!
Ёй ня ведаць, што там не на жарты
змагаецца волат-дзіця...

Эх, зможам мы паншчыну, зможам!
Сьмерць прыгорне яе ў свой прыпол;
без дарогі пашле ў падарожжа, —
разьвярнуўшы з пляча — Комсамол!

1923 г.

# БЕЛАРУСКАЯ МАРСЭЛЬЕЗА

На процэсе беларускай сялянска-рабочай Грамады ў Вільні абаронца Сьмяроўскі, руйнуючы тэзісы прокуратуры аб змове, якая нібыта была ў грамадаўцаў, сказаў:

— „Магчыма, змова была ў тым, што сьпявалі беларускі гімн. Прокуроры *кажуць, што ў гэтым гімне ёсьць вострыя і цьвёрдыя словы"*

(„Савецкая Беларусь", 13. V. 28)

Сілу забраўшы, параніўшы грудзі
родную мову імкнуцца забраць.
— „Сьмяюцца над намі багатыя людзі,
здаецца, панамі іх зваць".

Сьмяюцца — загнаўшы працоўных за краты,
сьмяюцца — да сьлёз над бядой галыцьбы.
Знаем мы — блізяцца штурмы расплаты,
віхры ліхой барацьбы.

— „Што трэба свабоды, зямлі чалавеку",
чуеш, гучыць над зямлёю, як гром?
Досыць, даволі! Мы спалі адвеку!
Запалім-жа сэрца агнём!

Бяз хлеба, бяз грошай, нібы ў бездарожжы,
усюды ганяюць, сьмяюцца і кпяць.
— „Мы доўга цярпелі, цярпець больш ня можам,
дык пойдзем мы долю шукаць".

Дык пойдзем, здабудзем агнём і мячамі.
Гэй, Беларусь, мы здабудзем, гэй!
— „Хай нас сустрэнуць палямі, лясамі
грамады працоўных людзей".

Час той настане, адкінем абрэзы,
і судзьдзямі будзем, ня шляхта, а мы.
І гучныя словы сваёй марсэльезы
з гордасьцю выйдуць з турмы!

1928 г.

# ПЕРШАМАЙСКАЯ

Дзень Першамая —
заводаў і фабрык!
Дзень Першамая —
бязьмежных палёў!
Сьвята вялікае...
Сонечнай фарбай
сьцелецца радасьць
бальшавікоў!

*

Дэманстрацыя
сонцам авіта.
Сонца — лёзунг.
Вясна — плякат.

На сьвяточны зьбіраюцца мітынг
колёны рабочых брыгад.

*

Крок за крокам
дружна, з верай,
сіла працы ўперад,
Раз!

Гэта песьня заводаў шэрых
на вітаньні была ў адказ.

*

Май шчасьлівы, ман зялёны,
колькі радасьці стазвоннай
ты прынёс сям‘і рабочай.

Ты як сьветач, цёмнай ноччу
шлях паказваеш мільёнам.

*

Новых дзён жыцьцё будуем,
радасьць нашая — крыляй!
Слухай песьню баявую
Пролетарскі Першы Май.

1925 г.

# КАВАЛЯМ ЖЫЦЬЦЯ

Гэй браты, кавалі жыцьця новага,
вы прыміце мяне ў грамаду сваю.
Разам з вамі пайду ўперад сьмела я,
нясучы сьветач волі здабытае.

Сам я выйшаў з народу працоўнага,
праца заўжды са мной неразлучная.
Мне знаёмы кавальскія молаты,
мне ня нова, што там — праца цяжкая.

З песьняй гучнай, бадзёрай, зазыўнаю —
я каваць буду долю шчасьлівую.
Дзецям працы — узьнятае полымя
прынясе вызваленьне сусьветнае.

Чырвань сонца зьвіе іх праменьнямі,
стануць дружна на шлях працы творчае.
І пальлецца па сьвеце крыніцаю
эры новае песьня вясёлая.

Дык браты, кавалі жыцьця новага,
вы прыміце мяне ў грамаду сваю.
Разам з вамі пайду ўперад сьмела я,
нясучы сьветач волі здабытае.

9. III. 23.

## МАЯ ПЕСЬНЯ

Выйду я ўвечары, выйду на вуліцу —
вуліца ўвечары сьпіць.
Песьня мая шмат каму муліцца —
ў сэрцы іх ветрам рыпіць.
І ня раз на мяне цкавалі,
ня змоўклі яшчэ і цяпер.
Мае-ж песьні мяне ўзгадавалі,
а грубыя, што літара — „р"!

Выйду на вуліцу,
туліцца гоман,
сьвет ліхтароў рассыпае чад.
Вечар суруліцца,
ў сьценах нардому
слухае ўважна даклад.

На небасхіле ценьню застылі
шапкі фабрычных труб.
Змоўклі машыны — гул бязупынны.
Вабіць песьнямі клюб.

Песьні вясёлыя сэрца радуюць,
песьні у сэрцы ўзьнялі карагод.
— Нас прызнаюць!
Сьмяецца радыё, —
другой тэлеграмай:
— Будуйце флёт!

Песьня сьціскае ціш алавяную,
песьня новага дню маяк.
песьня ў змаганьні працоўных сатканая,
песьня мяне ўзгадвала — Мая!

Мая песьня —
песьня фабрык!
Маё слова —
звон машын!
Мая песьня —
чырвань фарбаў,
Маё слова —
плынь душы.
Мая песьня —
веснавыя ўзоры,
гоман дня
ў рабочую пару.
Мая песьня —
Новы Горад,
Маладняк,
і
Беларусь!..

1925 г.

# Г О Р А Д

Горад заўсёды льле гоман, грукат,
топчаш заўсёды ты гоман па бруку.

А ўсё-ж такі горад мой родны бушуе.
Люблю я горад, сын родны яму я.

Песьні вучыў нас бурліва-чароўнай, —
горад вучыў жыць бурліва бунтоўна!

1925 г.

# СТАЛІЦА

Учора, як золак расою
бледныя зоры гасіў,
певень жыцьцё гарадзкое
прывычнаю песьняй будзіў.
У гонар сталетніх традыцый
з замкавых веж старыны — -
рэспублікі нашай сталіцу
ганьбілі звонам — званы.

Сёньня — мы пеўня ня чуем,
гудком сёньня сьцелецца дзень.
І песьню званоў векавую
ня чуем у лёце падзей.
Вагранка няспынна іскрыцца,
плавіць званы на мэталь.
Рэспублікі нашай сталіца
ў прыбоях творчых хваль.

Заўтра — чаруюча ўзойдзе
сонца разьлівам душы,
і новаю вуліцай пройдзе, -
рытмамі новых машын.
Зямлі тваёй межы-граніцы
зруйнуе магутны комбайн.
Рэспублікі нашай сталіца
ў Вялікае Заўтра — крыляй!

1930 г.

# ВУЛІЦА

Сягоньня я акінуў вокам
вуліцы вірлівае жыцьцё.
Па каменьнях-бруку,
цьвёрдым крокам
я іду,
        ўздымаю пыл высока,
топчучы мяшчанскае смяцьцё.
Вуліца...
Ой, спавіла мяне ты
гоманам аголена-глухім.
Квіта!
        Больш ня буду звонкаю монэтай
песьні разьліваць па кафэ-піўным.
Хай дурэюць, хай сваволяць,
валацугам —
                тротуар папас.
Я зьдзівіўся, як ніколі,
я зьдзівіўся ў першы раз:
                Гул гораду
                па бруку
                рыкошэтам,
                поэта
                грузна
                ў грудзі
                б‘е.
                Поэты
                чулі
                ў гэтым
                гуле —
                     разьлівам
                          вуліца пяе.

Кіно.
Тэатр.
Ізвозчык.
Простытутка.
Гарадзкога шуму
неўгамонны чад.
Віно
азарт
палошчыць.
І тут, як тут-ка,
піўная:
„Летні сад".
У „Летнім садзе"
шклянкамі ручэлі,
як-бы справа,
браткі, ня наш
народ.

А на эстрадзе,
на віолёнчэлі
мастак
„абнашываў"
фокстрот.
І тут падросткі,
спрытныя дзяўчаткі
кветкі ім падносяць —
цюльпаны, розы,
ландыш.

І проста-проста
сінь іх вачанятак
калосіць
ненавісьць
да нэпманскае
банды.

І, здаецца, вечар
добры, цёплы вечар,
зорны вечар,
слаўны

і чаго-ж?
Толькі мне тут, чалавеча,
мне ня быць у гэтым сьвеце.
Гэты гоман, крык забаўны
ў сэрца б‘е, як фінскі нож.
Усё-ж люблю,
а хто ня любіць
вуліцу-раўніну?
Ідучы зайшоў у клюб.
У клюбе —
акцябрыны.

Радасьць хвалямі крынічыць,
радасьць тут — о, не ў гасьцёх!

Толькі тут ў сям‘і фабрычнай —
тут сапраўднае жыцьцё.

24. VI. 25 г.

# МЕНСКІ РЫТМ

Тым кажу,
каму наша песьня чужая;
праводжу мяжу,
пачынаю.

1

Ныраймфабрычны дым,
у дрыжачую сонную сінь, —
вясёлы юнацкі уздым
пачуеш у песьнях машын.
Прыкры табе гэты дым?
Точыць сэрца тваё, як туман!
Ныраймфабрычны дым!
Рассьцілай свой дыван...
Зьвіні, сьпеў малады!
Завод, бі ў барабан!

Дым гэты нашых фабрык
праглыне далікатныя вочы.
Страшна?
Сэрца дрыгвою стукоча?
А як чорныя хворыя фарбы
ліжуць твар рабочых,
вам ня ці ава?
Што? Гэта зброд сьмяцьця?
Гудзіць, гудзіць навальніцай
аблава
        за паясьніцай
                жыцьця.

2

А вечар кадрыль адбівае,
пеніцца вуліцы звон.

Вечар прысеў і сьпявае
на рамах фабрычных вакон.

І гэтая песьня вам страшна?
Бі ў барабан, завод!
Дым выганяй на пашу —
на вольны прастор-небазвод.

Ёсьць такія, што ў бляску золата,
галава, як і грудзі, наўсыдяж,
І прыкра ім, што сьпеў молата
Беларусі Савецкай — наш!

Эх родная сталь-машыка,
беларускай рабочай зьвіні!
Песьня тваёй хвіліны
вылівае жалезныя дні.

1924 г.

# ВАРТАЎНІК

1

Ночанька цёмная голаву зьвесіла.
— Сумны ты, дружа?
Знаю, ня весела!

2

Шорах пачуецца, постаць падходзе,
думка адна: бязумоўна злодзей!
Хто-ж яго ведае, хто разгадае?
Кажупь, што ночанька гора стварае.
Крамы жалезныя. Сэрца слабое.
Страх неразлучны з імглістаю цьмою,

3

Часта ўначы валацугі праходзяць,
кедаеш, дружа, ня кожны з іх злодзей.
Часам, бывае, падыйдзе каторы,
дасьць закурыць, ад душы пагаворыць,
сядзе ля брамы, такі ўжо звычай,
сьмела, ня бойся іх брат-вартаўнічы.

4

Глуха на вуліцы. Скованы камень.
Зьзяе ліхтяр, нібы зорка ў тумане.
Гутарку з стрэхамі, страшна парою,
цемень заводзіць з сыпучай імглою.
Холадна. Жудасна. Ногі слабеюць.
Сэрца ў трывозе начной ледзянее.

5

Знаю, ня весела. Ночка цягучая
цемрай васеньняю так надакучыла.

. . . . . . . . . .. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... Толькі як дворнік старэнькі ўстане,
думкі абудзяцца — думкі сьвітаньня.

15. X. 26 г.

## ГАЗЭТЧЫК

Ад самай раніцы, застыўшы ўвесь ад сьцюжы,
стаіць з газэтамі ля крамы на рагу.
Па бруку носіцца, мяцеліцаю кружыць
грукат гораду, звычайны грукат-гул.

Вецер і мароз, ну, проста дух займаюць,
а ён крычыць, схапіўшы бляск навін:
— Чан-Кай-шы — нам здрадзіў у Кітаі!
— Кат-Пілсудзкі топіцца ў крыві!..

Над белым горадам зазьзяюць ясна зоркі,
На вуліцах дрйжыць вітрын электро-сьвет.
З „апошніх вестак" скруціць ён махоркі
і дамоў з астачаю газэт.

На печцы цёплай ён журналы разглядае,
у вочы сонныя залазіць чорны дым,
і векі мёрзлыя спакойна зачыняе:
заўецца сон вяночкам залатым.

А раніцаю зноў — няхай мароз, завея,
няхай трашчыць сівая галава:
у горад сунецца, і сэрца ледзянее,
і зноў за дзень — рубель, а можа два.

1926 г.

# ВЯНОК

Сумны сёньня дом дзіцячы,
ня зьвініць, крылаты.
І вось вецер быццам плача —
скрыўджаны утратай...

*

Бяспрытульная дзяўчынка
згінула, змарнела.
Хлеба чорнага скарынку
тыднямі ня мела.

Што-ж рабіць? Каму схіліцца?
Дзе знайсьці збавеньне?
Сохне твар, як жоўталісьце,
сохне ў сутарэньні.

На работу дзе наняцца, —
дый гадкоў-жа восем.
Хто там дасьць якую працу,
дый каго папросіш?

Як заўсёды, ой бадай іх,
дні бядой ляцелі
і, як баецца у байцы,
сірату сустрэлі.

Цяжка, цяжка і сьцюдзёна
і няма прыпынку:
ні матулі, ні знаёмых,
бедная дзяўчынка.

Горам лютым ветры выюць
асушаюць сьлёзы.

Сэрца плача, грудзі ныюць —
страх нясуць марозы.

У прытулак наш забралі
і лягчэй ёй стала,
Але вуліца бяз жалю
сілу падарвала.

Шанавалі, даглядалі
любаю сястрыцу.
Увечар песьні ёй сьпявалі,
толькі-б ня журыцца.

Толькі-б вось, каб сум закінуць
і ня ўспомніць гора.
Зьвіць дзяўчынцы-сірацынцы
радасьць ясных зорак.

Але сёньня цёмнай ночкай
сэрца замаўчала
і жыцьцё, як той лісточак,
з дрэва адарвала.

Над пагорбленай царквою
завывае вецер.
Апавітае імглою
зашумела вецьце.

Сумна-сумна над курганам
ставяць дамавіну.
Сэрца жудасьцю нязнанай
рвецца ў сьвет-даліну.

А наўкол крыжы, магілы,
помнікі, капліцы.
Ой, шкада дзяўчынкі мілай,
ой, шкада сястрыцы.

Ня сьціхае шум зялёны,
жаласьліва-хмурны;
у гэтым шуме засмучоным,
быццам звон хаўтурны.

Захісталіся бярозы,
як сіроты плачуць,
нібы сьвечы пры дарозе,
сьвечы, няіначай.

Разьвітаньнем дзеці-дружкі
боль ў вянок зьвівалі —
напісалі на істужцы:
— сірацінцы Галі.

12. IX 26 г.

## АБРАМ

У цёмным, сырым сутарэньні
жыве адзінокі Абрам.
Часта сьлёзы зьбіраў ён у жменю,
ня раз начаваў ён ля крам...

Да вечару, з самага ранку,
ў гарачы ліпнёвы час,
бутэлькай, а хочаш і шклянкай
прадае лімонны квас.

Паклічуць купцы з „ятак" —
на работу наймецца Абрам:
на пласе сячэ цяляты,
ня ходзіць тады ён ля крам.

Ня крычыць у бурлівым рынку:
— „Папера-сьмерць для мух"
і чэрствага хлеба скарынку
ня ходзіць выпрашваць у „Круг".

Вочы ўздымае Абрам
ў далёкую высь-небазвод
і просіць: сьвяты Аўраам
дай дажыць сваіх год без клапот.

А ў полі зьвінелі калосьсі,
як гораду песьня падпольля...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Цяжка, ой, цяжка жылося
Беларусі пад няволяй.

Польшчы рука
у Менску слаўным
панавала.

А Бяроза рака,
ўзбунтавана,
злавала.

Б‘е ў берагі,
уздымаючы гул,
скрыгоча:

Што, пан дарагі,
падстаўляе нагу
рабочы?

Дзяржыся!.
Бяроза кіпела
няволяй...

Гэй, расступіся! —
Гудзела
падпольле.

Панства выла:
— „Ламаюць
засовы!"

...Беларусь радзіла
Кастрычнік
Ліпнёвы!

На вуліцах сьцягі рдзеюць
над вокнамі ўзломаных крам...
Ня відаць Абрама, дзе ён?
Што цяпер робіць Абрам?

Яму справілі з блудам заручыны
ўцякаючы ўланы-зьвяры.
І Абрам ак-бы атручаны...

З ім ня хоча й жыцьцё гаварыць,
яго хваляй сваёю глынула —
пусьціўшы з пакатай гары...

Маліцца, адзеўшы талесы,
не хадзіў Абрам у школу,
і ламае, ламае пальцы,
час настаў невясёлы.

У Абрама ў грудзёх мільганула:
дачку каб сваю адшукаць...
...Дачка ў разгул нырнула,
ёй сорам Абрама знаць.

А сэрца дзявочае чуткае,
вочы — палаючы мак.
Прымушана быць простытуткай,
з гора прымушана, так...

Ня ведаць ёй песьні змаганьня,
не зразумець ёй завод.
Прыемна ёй там, дзе каханьне,
дзе перысты лоскат згод.

Дзе „романс мілагучны сопрано"
запяе пра вясновыя дні.
Сэрца, юнацтвам сатканае,
паліць каханьня агні.

Пашто ёй знаць бацьку Абрама? —
Цяпер ёй жывецца наўсьцяж...
Ёй знаёмымі сталі брамы,
ёй знаёмы стаў грубы марш...

Упомніла бацьку, вядома,
а позна, яго не спаткаць.
І ў завулках блукае бяздомкам
сэрца... сэрца за грошы мяняць.

Пра такіх, пра жыцьцё разгоннае
песьня з акраінных хат
цяпер разьліваецца звонам
на свой вясёлы лад:

> — „Ды ляцяць міскі ды з паліцы",
> немец ходзіць ля спадніцы.
> Ой, люлі, ой, люлі, —
> дзеўку замуж аддалі.

Дзеўка, немкаю як стала,
па-нямецку загуляла.
Ой, люлі, ой, люлі,
з Менску немцы ўцяклі.

Дзеўка ные, дзеўка плача:
— Прападзі ты, доля-кляча.

Ой люлі, ой, люлі, —
паны польскія прышлі.

Зноў жыцьцё і зноў забавы, —
дзеўка ІЙЫСЬЛІЦЬ аб Варшаве.

Ой люлі, ой, люлі, —
і палякі уцяклі.

Як знаёмы сталі брамы,
дык і ўспомніла Абрама.

Ой люлі, ой люлі, —
косьці бацькавы згнілі.

Дзеўка плача, сьлёзы роем:
— Эх, жыцьцё маё ліхое...

Дзяўчыны — сэрца чуткае,
вочы — палаючы мак.
Кожны знае — і гэта ня чуткі,
што Абрама дачка простытутка;
і сьмяяліся й проста так...

Толькі Менск выхравейны ірдзее,
зьмятае асколкі сьмяцьця.
Ён зьдзейсьніць заводаў ідэі
на крыгах старога жыцьця.

Менск, 1924 г.

# ЛЕПШ НЯ СУНЬСЯ

Сонца, ты любіш купацца па стрэхах,
любіш сесьці на згінуўшым крыжы.
Але ведай, кажу я ня сьмехам,
лепш ня сунься са мной на нажы!

лянь сам о: — ну, як мне не злавацца?
Абняло крыж, струхнелы, як пень...
Без сьвятла, бачыш, людзі за працай,-
горне іх бяспрытульны цень.

Мае грудзі сьціскаюцца туга,
злосьць скрыгоча цябе — разьбіць!
Я, як і ты, хай і я, валацуга, —
а працоўным — буду служыць!

І ты лепш сьвятла шчырай жменяй
кінь глыбей у жыцьцё, ня блудзі...
Скажа, „дзякуй" табе сутарэньне,
страхаючы вільгаць з грудзі...

Ганарыцца ня варта бляскам;
ёсьць-жа шляхта, — нашто адбіраць —
ты зірні толькі ў нашыя казкі,
прывітаеш плячмі гэту раць...

Дык пакінь ты лізаць фарбу стрэхаў,
кінь туліць да сябе крыжы.
Калі-ж не, дык кажу я ня сьмехам, —
лепш ня сунься са мной на нажы.

1924 г.

# НОВЫ МЕНСК

Вечны гул ня спыняе лізаць камяніцы,
вочы глытаюць рэклямы вітрын.
Гадзіньнік — спакойна на менскай званіцы
б‘е глухім звонам -дванаццаць гадзін.

Як зьвяры, песьняй сталі скрыгочуць машыны,
блудніцай бегае сонца ля сьцен.
Скрага — жыцьцё, каб ня страціць хвіліны,
конца імкнецца шукаць сабе зьмен.

Скрываўленай хваляй Менск складкі на твары
змыў з сябе, стаў ён вясёлы юнак.
Песьняй крынічыць! Разьлівам, як варам,
гудзіць у грудзёх яго Нёмнам вясна!

Спалоханы вецер шуршыцца на стрэхах,
за комін прысядзе, коса зірне.
Сонца сьвятла жменю кіне ў прарэху
волату Менску, а разам і... мне.

Баяцца яго, бо пад час бурапеніць;
рух яго повен запалу, агня.
Адстанеш — заменіць ён новаю зьменай!
О, Менск, ты і я — маладняк.

1923 г.

# ГУДКІ

1
Як толькі ноч суровая
за небасхіл зьбяжыць,
зарніца каляровая
над краем задрыжыць.
У поле шыр зьбіраюцца
колгасьнікаў палкі,
а ў горадзе ўзьвіваюцца
гудкі... гудкі...

2
Рабочыя адважныя
на фабрыку ідуць —
хутчэй, хутчэй сярмяжную
збыць спадчыну-бяду.
У колгасы з самажнейкамі
імчацца цягнікі.
Пачуюцца з жалейкамі
гудкі... гудкі...

3
Як глянеш, сэрца радуе, —
будуем новы лад:
У кожнай хаце радыё
і радасьць расьцьвіла.
Была дрыгва далінаю
праз цэлыя вякі, —
цяпер гудуць машынныя- —
гудкі... гудкі...

4
Была зіма... Праменьні нам
бядою ткалі сказ;

тады, мы помнім, Леніна
ня стала сярод нас, —
і змоўклі ўсёй краінаю
сякеры, малаткі:
заплакалі хвілінаю —
гудкі... гудкі...

5

З песьнямі агністымі
і крэпнем і расьцём.
Мы будзем камуністамі,
на зьмену мы ідзём!
Мы будзем абаронаю,
мы ўсе — франтавікі, —
хай клічаць нас чырвоныя
гудкі... гудкі...

1928 г.

# МЯСТЭЧКА

1

Пятніца...
Запалілі сьвечкі
ў кожнай хаце
цёмнага мястэчка.
На стале ля сьвечак
сьпечаная хала.
Ў талесах мястэчка
сівы талмуд чытала.
Сонейка пагасла.
Запалілі сьвечкі.
Пятніца.
Вечар.
Моліцца мястэчка.

2

Вечар жніўны ціха павявае,
рассыпае срэбра кроплямі расы.
Ходзіць задуменны местачковец Хаім,
месяц завіваўся ў сівыя валасы.

Моліцца на месяц, моліцца на неба,
просіць дапамогі: Борух, адэной.
Моліцца пакорны местачковец-рэбэ,
просіць неба яснае выслухаць адно.

Глянуў на старога: абадраны, голы,
талесамі роніць буйную сьлязу.
А калісьці Хаім езьдзіў балаголам,
а цяпер ад нечага — гадуе ён казу.

І кожны вечар ходзіць з хаты ў хату,
і ў кожнай хаце хэйдар, ну і „гут".

І як шчыры рэбэ горача, заўзята,
дзеткам убівае ў голавы талмуд.

І гандлюе, хочаш, бакалеем,
з камізэлькі, хочаш, кокаіну дасьць.
Моліцца на неба... Сьлязою грудзі рве ён,
спавіло яго няшчасьце і бяда.

І ламае рукі, і ламае пальцы,
і губляе сьлёзы на зялёны дол.
Родныя сыночкі адкідаюць талесы
і заместа школы — ідуць у комсамол.

Іх лаялі... Пракляцьці насылалі.
Праганялі з дому, голых праганялі.
Ім хоць-бы што, нібы сьцяна нямая —
замест талмуду „Арбэйтэр" чытаюць.

Багамольны крамнік, набажны гандляр —
злосьць яго спавіла, злосьць кідала ў жар.

3

Ноч мінула ў цемені дубровы,
пагасіўшы ветрам сонныя агні.
Ноч міне ў зьнямозе... Сьветлаю падковай
прывітае раніцу — прозалаць зарніц.

Над мястэчкам глуха, пахіліўшы вецьці,
шапацелі хвойкі, калыхалі ціш.
Талесы, як хмара, доўгія сталецьці
мутнымі вачыма чадзілі ў жыцьці.
І пад шум гешэфтаў беднае мястэчка
каратала буднем сонечныя дні!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ой, зусім нядаўна, запаліла сьвечкі
новая раніца — прозалаць зарніц.

1925, Хоцімск.

# КРЫК ГАЛОДНЫХ РЫКШ

Ці застогнуць жалем
ветры над страхой,
ці то гоман хваляў
бурнай Хуан-хо —
кожную хвіліну,
кожны рух і крок,
пальцы Чжа-о-ліна
труцца аб курок.
*

Сіл рабочых скарбы
зваў у люты бой.
Чжа-о-лін змагар быў
за Савецкі строй.
Горача расказваў
пра бальшавіцкі стан.
А вочы, як ля фанзы
агністы гаолян...
*

Павуціненьнем вуліц
гул глытае крык, —
крык галодных кулі,
крык галодных рыкш.
Песьцяць-даглядаюць
і хлеб, і рыс, і чай.
А ў голадзе канаюць,
а ў голадзе Кітай.
*

Гарэць, расьці, змагацца
і ні на крок назад.

У Манчжурыю дабрацца
компартыі загад.
Дарогаю няспынна,
што новы рух і крок —
пальцы Чжа-о-ліна
труцца аб курок.
*

Там... пад хмелем віскі
выйшлі ў поле-шквал —
генэрал расійскі,
кітайскі генэрал.
У гонар іх пагонаў
ім выдаў мандарын —
Нью-Ёркскія патроны,
ангельскі карабін.
*

Гарэць, расьці, змагацца
і ні на крок назад.
Бальшавікі за працай,
у кратах барыкад.
Ня кволаю, ня хмураю,
а песьняй баявой —
сьцяг Леніна Манчжурыя
здабудзе барацьбой!
*

Цярпець, трываць, карыцца,
кідае галыцьба!
Ідзе ўжо навальніца!
Ідзе ўжо барацьба!
Горы, хай грукочаць,
хай, стогне цаліна, —
за Кітай рабочы,
абвешчана вайна!..

1929 г.

## ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ

Сьмела ўперад
дружньш сьпевам!
Раз! Два! Левай!

Шлем, шынэль,
штых, патроны.
Дружна ўперад,
полк чырвоны!

Батальёнам, —
крок за крокам,
сьмела ўпераді
Фронт шырокі!

Гэй, разгонны,
полк чырвоны,
час прышоў!
Раўнуй колёны!..

Гэй-жа, левай!
Рушым!.. Дружна!
Хто супроць нас —
Зломім, здужым!

Сьмела ўперад
дружным сьпевам!..
Раз! Два! Левай!

1924 г.

# КОМСАМОЛ

Дні былі мяцежнае стыхіі.
Дні былі, але іх грукат змоўк.
Гартавалі буры агнявыя
нашы сілы маладыя —
гартавалі Комсамол.

*

Надрыўна так, — гудок гудзе:
— Канчай рабочы дзень!
І заклік новы:
— зноў на працу,
строй атрады-сотні!
Сёньня гвардыі юнацкай
чаргавы суботнік.

*

І па цаглінцы... Так з году ў год
разбураны край будавалі.
Пакутна-сьлязьлівая песьня яго
стала радасным звонам сталі.
Зноў загулі на заводах машыны.
Новае ёсьць, ня стала руінаў.
І ў гэтай працы дні і ночы
Комсамол — чорнарабочы.

*

Калісьці зналі: сутарэньне,
мазоль крывавы на руцэ.
Гарадавога, пана, цемень
і кастлявы Тэ-Бэ-Цэ.

А цяпер — жыцьцё ня зломяць!
Хай гудзе вірлівы вецер!
Комсамол — у фабзаўкоме!
Комсамол — у сельсавеце!

*

Комсамольцы люд вясёлы,
Смутак — вораг злосны наш.
Праца — радасьць Комсамолу,
рытм змаганьня, левы марш.
І стазвонна
неўгамонна
йдуць чырвоныя палкі.
Серп і Молат
наша школа
ў барацьбе за КІМ.

*

У Беларусі шмат курганоў:
ня зьлічыць, як у полі каменьняў.
За справу працоўных юнацкая кроў
арасіла шляхі вызваленьня.

У кожным кургане ў дубровах, у полі —
адзін, бязумоўна, ляжыць комсамолец.

*

Мяцеліца сьцелецца сьнежнай далінай,
зямля серабрысты паркаль.
Трывожка гудуць правады бязупынна,
ветры разносяць жаль.
Сэрца слабее
ў завеі
ўсьпененай.
Сьцюжай заўзятай
        мігае ў вачах.
— Таварышы, ўтрата!
— Ня стала Леніна!
        Леніна...
                ... Ільліча!

*

Беласьнежным праменьнем.
ліжа каменьні
мароз, рассыпаючы сьнег белай жменяй.

Сэрца ня змоўкла, не зьледзянела,
вуліцай белай
плача нясьмела.

Іскрамі смутку плача маўкліва
Сэрца юнацкае, сэрца вірлівае.

Сьцелецца сьцюжай сьнег на каменьні...
Гэй, комсамольцы,
шчыльней свае зьвеньні!

*

Сілу злучыўшы,
што-крок то і вышай
рушым колёнай
мільённай
сваёй.
Стой!
Моладзь заводаў
і зямляробы,
новы фронт —
— Учоба!

*

Сонца, распальвай стагодні сумёт!
Збавімся спадчыны катавай.
Гэй, комсамольцы,
культурны паход:
акопы культуры захватывай.
За школу,
за лазьню,
за клюб,
за журнал, —
энэргія, воля,
кроў,
запал!

За кнігаю помнім мы
кожнай хвілінай,
дзе і якая
супроць нас краіна.
Вінтоўку трымаем
штодня пры сабе:
Жыць рэволюцыі!
Жыць барацьбе!
*

Вялікі шлях прайшлі.
Цяпер вясьняна расьцьвілі
так слаўна, так багата — ўсёй краінай
на былых развалінах-руінах,
на зямлі здратованай каменьнем —
нашы дасягненьні!
*

Вялікі шлях прайшлі.
Былі ахвяры ў нас. Але перамаглі!
А колькі прыдзецца змагацца нам яшчэ,
каб вызваліць братоў з скляпеньняў беспрасьветных,
каб наш агонь, агонь ідэі зьзяў ярчэй,
шырокім зарывам, сусьветным.
*

Вялікі шлях прайшлі.
У паходах мы расьлі.
Сусьвет — айчына нам. Ня знаем межаў нацый,
Мы гартаваліся ў агнёх вялікай працы!
Гісторыю жыцьця, змаганьне, дасягненьні--
зброшуруем з сонечных праменьняў!

Менск, 1925

# ВІРАТЛІВЫ РАЗЬБЕГ

1

Бадзёрыя дні!
Сонцатканыя словы,
Як хваля, шумліва
ўзьвіваецца верш.

Сьцежкаю новай,
працай вірлівай
нязнаныя дні
спатыкаем цяпер.

Шчасьцем агністым,
вясьняна-ўрачыстым
думкі крыляццца віхрыста,
угрунь.

Радасьцю ветлай,
як сэрца поэта,
цьвіце сонцасьветлая
Беларусь!

2

— Чаму? Я ня знаю,
як ветліва гляне
сонейка тканае
ў вей-харастве, —

я ўспамінаю:
песьню й паданьне,
возера й замак, —
былы чорнацьвет.

Гнулі, ой, гнулі
народную сілу

няволяй паганай
да жвіру-зямлі.

Прайшло, прамінула!
Жыцьцё ўскаласіла
зернем румяным
прывольных хвілін.

І лютая сьцюжа,
і вецер расхрыстань,
ніколі ня здужаюць
сілы віхрыстай.

Словам мужычым,
як радасьць, свабодным,
словам гаручым,
як прозалаць зор,

дні акрынічым
расой жыцьцяводнай,
прымусім сугуччам
разьліцца прастор!

3

Часта ў надвечар,
вось быццам, як звычай,
думцы схілюся,
цалую жыцьцё.

І чую, як шэпча
пасёлак фабрычны:
— Для Беларусі
расьцём, расьцём.

Расьцём для краіны
такой невялікай,
якой мы павінны
ў лагчынах балот

заўтрае клікаць
сталёвай машынай,
узьняўшы няўпынны
дзён сьветлых узьлёг.

Ці-ж мы, маладыя,
ня любім даліну
муроў камяністых,
як гордых скал?

Дні баявыя
авеяць павінны
песьняй віхрастай —
фабрычны квартал!

У шэрым завулку,
разносіцца гулка
і ў цёмныя ночы,
і ў сонечны дзень —

скрогат суровы
машыны сталёвай,
як песьня рабочых
агнём з грудзей!

Машына — ня грудзі,
ня зморыцца ў працы,
колы — ня рукі,
ня будуць слабець.

Вечнасьцю будзе
пераліявацца
гоманам гулкім
машынны разьбег.

4

Часта ў надвечар,
вось быццам, як звычай,
зоранькам шустрым
схіляю паклон.

Сэрца мне шэпча,
таемна ў надзвычай, —
выйдзем насустрач
вялікіх дзён!

Выйдзем, няйначай,
як з песьняй прывольнай,

дружнай грамадай
ў бязьмежжа зямлі.

Многа патрачана,
знойдзена болей, —
знойдзена радасьць
нязнаных хвілін!

5

О, воля юнацтва —
пара захапленьняў;
Адвага, бадзёрасьць,
узьнятая кроў.

Віюцца за працай
мае лятуценьні,
як чайка над морам,
як сьмелы арол.

Думанькі рвуцца,
віюцца вяночкам,
часамі бурліва
ўзьнімаюць мяцеж.

Як быццам лісточкі
вясною віюцца,
юнацтвам шчасьлівым
зьвіваючы верш.

Сьнежань, 1926 г.

*

Зямля і хлеб! Сталецьці і зямля!
Зямля і барацьба!
Зямля і зграяй зайздрасьць!
Няроўны люд зямлі!
Зямлі няроўны шлях!
Жыцьцё супроць жыцьця!
Супроць самоты — радасьць!
Жыве народ,
а поруч з ім другі.
Зямля! І — зноў зямля —
нязьведных скарбаў сховы...
Ўладарства дужых шырыць берагі,
рвучы ў слабых і родную іх мову.
Бядак багатаму заўсёды быў слуга!
Бывала, так было,
бо зайздрасьць — там, дзе сіла!
Спрабуй ня быць слугой, — сібірская тайга,
калісь Сібір — зямля, калісь Сібір — магіла.

*

Работу катаву паставіць на вагу,
страшнейшай лютасьцю сучаснасьць пераважыць.
Зямля гудзіць!
Зямлі зазыўны гул
ня спутаць дротам меж!
Зямную моц ня зьвяжаш!
Трухлее слуп мяжы...
Гудзіць зямлёй абшар!
Хто думаць стаў
— на катарзе, ў засьценьнях.

З грудзей зямлі —
агнём прарвецца вар,
прарвецца вар зямлі!
Зямля дарогі зьменіць!
Была скрыжована вякамі Баларусь!
На Захадзе цяпер скрыжованы і дзеці!
Няшкодна ўспомніць даўнюю пару,
як мала розьніцы у помніках сталецьцяў.
*

Няроўны люд зямлі!
Зямлі няроўны шлях!
Жыцьцё супроць жыцьця!
Супроць самоты радасьць!
Як многа на зямлі
людзей на кастылях.
        Як многа на зямлі
ахвяр сусьветнай здрады...
Рашучасьць!
        Вера!
            Ўпартасьць!
                Буралом!

Даволі раны разьядае помста сольлю.
Ярмо жабрачае ахвачана агнём,
народжаным іскрой рабочага падпольля.
Уздрогнула зямля!
З зямлі прарваўся вар!
І ўжо ў астатняй,
але страшнай завірусе, —
як жылы,
                сьціснуліся межы карт, —
ўзышла зямля —
Савецкай Беларусі!
*

Краіна Саветаў, вялікая наша.
Зямля ўхарастве нязвычайным, інакшым.

Шчасьцем гучэў тэлеграфны дрот —
быў Новы Дзень,
быў Новы Год.

Воля ўзьвілася ў палёт сакаліны -
Радасьць рабочага і селяніна.
Сход сабіраўся, ўрачысты сход —
быў Новы Дзень,
быў Новы Год.

Гудзелі гудкі, ня сьціхалі дубровы, —
плылі маніфэста агнёвыя словы...
Сонца пашло ў свой вялікі паход —
быў Новы Дзень,
быў Новы Год.

*

Крыжуюцца шляхі праз балаты, узгор'і-
Зямля спалосана, як рысамі далонь.
Паявіцца іскра, з іскры шугне агонь, —
І гэта на зямлі — адвечны рух гісторыі.

І так хвілінай кожнаю, што-крок жыцьця людзкога —
гісторыя запіша — сьмерць і перамогу.

Нязгадныя гісторыі схаваны ў нетрах краю,
мы толькі помнім іх, яны зышлі ў нябыт.
У шугавейных выбухах адважнай барацьбы —
і полымя ад дыму колер свой губляе.

Што-крок праяў жыцьця — гісторыя людзкая,
адны народзяцца, другіх зямля прымае...

Вось так і Беларусь радзілася ў паўстаньні,
на касьцякох гісторыі былой.
Уздымам, творчасьцю нязломнаю сваёй
зямлю палоніць ростам рыштаваньняў.

Што-год, то больш, што-год шырэй і далей
мы гучна славім будучыню сталі.

Сталецьцяў спадчыну мы скрышым,
як скалы-горы ў дробны жвір.
Краіна —
        ўзброеная выйшла
            ў жыцьцё —
                нязьмерануную шыр!

Распалім горны,
моц разгорнем,
разбурым краты змрочных дзён.
І пойдзе сонца
        ў шлях прасторны
Напорам —
трактарных колён,

Хай сёньня пот,
няхай напружнасьць!
хай грудзі ў творчасьці —
гараць!

Мы пачалі
і скончыць здужым
комуне шлях цэмэнтаваць!

1928.

# ПЕРАД БУДУЧЫНАЙ

Ішлі гады. На хвалях мора шквалам
схіляў наш парус раззлаваны шторм.
За валам вал ляцеў на нашы скалы,
разьбіты кідаўся ў падножжа цёмных гор.

А вецер гнаў за вадам вал навалай,
схіляў наш парус раззлаваны шторм.

Ідуць гады. І бліжай з хваляў мора
агні віднеюцца далёкіх берагоў.
У зьзяньні тым, у залатым сузор‘і
ўзрастае будучына, радасьць новых слоў.

Зямля вялікая! Вялікія прасторы —
агні віднеюцца далёкіх берагоў!

1927 г.

# КРЫМ

Шумліва-чароўнае Чорнае мора
ўскідвае хвалі на ўзвышша скал.
Водгульлем гордым у пролазах горных
пераклікаюцца з валам вал.

Рабінавай ноччу разьюшацца ветры,
хмары нясунуцца цёмнай сьцяной.
Заліты халодныя грудзі Ай-Петры
гарачай татарскай сьлязой.

Век пад няволяю гнуўся татарын- —
у горах бязьлюдна жыцьцё каратаў.
Шторм! Навальніца! І, праз ахвяры,
вольным татарын стаў.

Ня знацца ўжо болей з той доляю горкай,
шчасьцем абвіў іх паўстаўшы Усход...
На небасхіле ясьнеецца зорка — -
савецкі плыве параход.

Зялёным агнём кіпарысы маўкліва,
радасна вабяць у цемень скал.
Чорнае мора, адвеку шумлівае,
волю тваю — гучнай песьняй спаткаў.

У сэрцы, ў грудзёх хараством каласілі,
білі паклоны, насілі дары.
Пазалотай поэзіі ласкава зьвілі
сонечна-казачны Крым.

Місхор, 1925 г.

## СЬМЕРЦЬ РЫБАКА

Што шуміш так, мора,
гулам нясьціханым,
гулам хвалі чорнай,
хвалі раззлаванай.

Ледзь відно, далёка,
там, на небасхіле —
парус адзінокі
ў хвалях абясьсілеў.

Дый вятры ганяюць...
Жудасна ў палоне.
Белай пенай грае
страшнае прадоньне.

Кончыцца бядою,
толькі так, няйначай.
Абвіе журбою
вецер кут рыбачы.

А каму па сілах
дужацца са штормам?
Вецер над магілай
хваляю прыгорне.

Шумна чайкі строем
спужана крыляцца:
сьмерць не за гарою,
страшна аглядацца.

І гудзіць-жа мора,
гулам нясьціханым,
гулам хвалі чорнай,
хвалі раззлаванай.

Жыў рыбак на сьвеце,
рыбака ня стала.
Гоніць злосны вецер
шквалам вал за валам.

Сімеіз, 1922 г.

# ВОСЕНЬ

Навальніцу, віхуру — люблю я,
але восень — чыстае гора:
кажуць, поле маўчыць, не хвалюе,
толькі стогны вятроў па-над борам.

Толькі стогны і крыкі — ў бясьсільлі мы,
каб прымусіць рассыпацца восень.
П‘яны вечар прыкрыў зямлю крыльлямі
і па стрэхах імглу разносіць.

І віхрыцца халоднымі хвалямі
ускудлачаны вецерам злосным...
Ой, ты, вецер, чаму цябе хвалім мы?
Не таму. што ня любіш ты восень?!

22. XI. 24 г.

# МЯЦЕЛІЦА

Мяцеліца. Сьцюжа.
Сьняжынкі кружаць...
Вецер галосіць,
разносіць
бель.

Сьцюжа,
мяцеліца
сьцелецца,
кружыць —
гульліва,
жартліва,
нібы карусэль.

*

Што нам мяцеліца?
Што завіруха?
Што маладосьць нашу
зможа стрымаць?

Сьнег весяліцца —
ліхой пацярухай?
Няхай весяліцца
на тое — зіма!
Люблю я на лыжах
асьнежнай далінай
імчацца ў прастор
срэбрашумных завей.
Што маладому
ў прывольнай краіне
як радасьць жыцьця —
даражэй?

Думанькі сьветлыя
ўсьмешкаю ветлаю
вейна віюцца,
ткуць радасьці ўзор.
Сьцюжа,
мяцеліца
сьцелецца,
кружыць.
Звонам
сьцюдзёным
заліты прастор...

1926 г.

# РАЗБОЙНІК БУЙТРА

1

Ня зьмерыць вокам беларускі лес,
як і ня зьмерыць зор у ноч праяў зімовых.
Бязьмежны лес! Разбойнічы начлег!
Таемны, як зямля і як зямля — суровы!

За лесам плесьняй стыне мыр балот,
шуршацца зарасьлі засохшае асокі.
І толькі чуцен гул адвеку вольных вод
усьпененай Бярэзіны шырокай.

О, гэты гул! Як шмат гаворыць ён!
Як шмат ён захлынаў харобрых армій войска.
І швэды гінулі, і тут Наполеон
зламаў сваю сусьветнай славы стойкасьць.

Гнуць ветры над Бярэзінай крутой
строй сосен, як над морам кіпарысы.
І тут, нібы жабрак, з цярплівасьцю людзкой
стаіць гісторыяй пакрыўджаны Барысаў.

2

Было таму год семдзесят назад,
той час жыве ўспамінамі на вуснах.
Разбойнік Буйтра жыў, ён вербаваў атрад,
атрад разбойнікаў яўрэяў беларускіх.

Прыняў іх лес, паіў сваёй расой,
захоўваў ад вачэй узброенай аблавы.
А ноччу Буйтра сам атрад выводзіў свой
з гушчару страшнага на страшную расправу.

Пальлюцца кроплі чалавечае крыві,
агонь змывае сьлед: гарыць сялянскі хутар.

Сваімі буйнымі набегамі Давід
здабыў імя сабе — яго празвалі — Буйтра.

І буйным быў. Жыцця не дараваў.
О, гора там, дзе быў налёт Давіда!
Калі папаў яўрэй — Давід яму даваў
хвіліны тры жыцьця на прачытаньне „Відуй".[1])-

А ў лесе жуць і страх. А лес шумеў, шумеў.
Праявы грудзі рвуць, як стогн вятроў заўзятых.
Разбойнікі ў кустох, здавалася ў турме, —
як сьцены — змрок лясны, а сосны быццам краты.

І банда меншыла: ў мястэчка беглі зноў.
Кідалі жудасьці гушчарнай цемры лесу.
За гандаль браліся, і зноў гішэфт пайшоў,
і кожны і цяпер -„а газлан он а мэссэр" [2])

За хвалямі ракі ляцелі ўсьлед і дні.
Застаўся Буйтра ў адзіноце, без атраду.
Адзін застаўся ён. Прысеў з журбой на пні, —
з сваімі думкамі дзяліў сваю дасаду.

Бязьмежны лес! Ня зьмерыць, не прайсьці!
Схаваўся Буйтра за зялёную завесу
ад сонца, ад жыцьця. Ён зубы сьцяўшы сьціх,
чытаючы што вечар- "Шмэйно-эсра".[3])

Ад сонца, ад жьтцьця, ад грамады ён зьбег.
Чытаючы малітву — чуе: едуць кары.
Маліцца ня спыніў. Спыніць малітву грэх,
хоць сэрца точыць жаль — шкада згубіць ахвяру...

Нібы нажамі сонечнымі — страх
пралазіў у жыцьцё тутэйшых балаголаў.
Ламала рукі Буйтрава сястра,
разбойніка кляла мальбой вячэрняй школа.

О, многа сьвежае, на могілках зямлі.
і што курган — то камень шэры, хмуры,

[1]) Прадсьмяротная малітва.
[2]) Разбойнік без нажа.
[3]) Вячэрняя малітва.

ён сьведка тых ахвяр, ён сьведка тых хвілін,
калі чало жыцьця кранаў разбойнік Буйтра.

О, гора там, дзе Буйтра пабываў,
прыносіў сьмерць, дзе толькі гляне вокам.
І з буйных рук сваіх людзкую кроў змываў
на беразе Бярэзіны шырокай.

3

Прышоў на хмарах восенскіх „эул",[1])
рассыпаўся халоднаю імглою.
Імглу прарэзываў лясны надрыўны гул —
абветранаю водгульнай стралою.

Разбойнік Буйтра з цемры лесу зьбег,
пярсьцёнкі-валасы рукамі злосьці рве ён.
У родным горадзе знайшоў сабе начлег,
начлег дала яму ў сваім прытоне Лэя.

Чураўся ён дзяўчат, хаваўся ад людзей.
А як напоены адстоенаю брагай —
дарма ня пройдзе ноч! Бываць ліхой бядзе!
Пакажа Буйтра моц разбойнічай адвагі!

Пад хмелем выйдзе ён, пад хмелем што яму?
Навостраныя зубы, нож па-за халявай.
А ноч стаяла цёмная... Забраўшыся ў карчму,
ён там пачаў сваю звычайную расправу.

З прасоньня гаспадарава дачка
„Давід" — трывогай бацьку свайго звала.
— Пазнала! — крыкнуў Буйтра і яго рука
каб сьцяць сьляды, — жыцьцё дзяўчынкі сьцяла.

У вечар пятніцы за сьвечкамі яўрэй
чытае на расьпеў мальбу, як сьвет, старую.
Угледзіць кожны ў цёмных зарасьлях брывей
вялікі сум, журботнасьць векавую:

— „Ня лёгка жыць і крыўдна, гэта горш,
разьня, пагром — няшчасны лёс народны.

[1]) Верасень,

Жыві, чакай, трывай — усадзіць востры нож
рука „аідэшэ"[1]) пагібельлю халоднай".,.

Пагасьлі сьвечкі. Завіваўся сон.
Адно Бярэзіна раскідывала хвалі...

Абход ураднікаў. Гурбой зайшлі ў прытон.
Разбойнік Буйтра тут. Яго арыштавалі.

— Якая навіна! Папаўся чортаў чмут!
Барысаў — гутаркамі радаснымі ўсеян...
І неўзабаве ў менскую турму
вязьлі закутага разбойніка яўрэя.

Менск, 1928 г.

[1]) Яўрэя.

## ЛЕГЕНДА

Стаяў палац... Панурай вежай
глядзеў сурова ў сінь далін.
Наўкола лес сьцяной бязьмежнай
ліў сьлёзы з стромкіх верхавін.

Стаяў палац .. Стагналі сёлы,
мястэчкі гнуліся ў бядзе...
Спрадвеку згорблены,
дарогай невясёлай
ішоў за днём нявольны кожны дзень.

У тым палацы, ў сьценах мураваных,
жыла Галіна — панская дачкі.
Яна таемна, вечарам румяным,
хадзіла ў лес пабачыць юнака.

Сьцяпанам зваўся той юнак прыгожы;
з мястэчка быў, ён з нашых сам, каваль.
Сустрэнуцца... Ля возера варожаць
і слухаюць жартлівы гоман хваль.

Зьлюбіліся, як зоркі з ночкай цёмнай,
як сонейка з калосьсямі палёў.
... Прышла аднойчы Галя засмучонай,
вочы поўныя гарачых буйных сьлёз.

Жыла агністым шчасьцем кожны вечар
і раптам змушана каханьне пакарыць...
— „Волі бацькачай ня можна супярэчыць, —
з другім загадана, з другім ыне трэба жыць!.

— Як на сьмерць паеду я да шлюбу,
не адну я ўжо сьлязінку праліла.
Даруй мне, мілы мой, даруй, саколік любы,
расстацца нам часіна надышла...

Сьцяпан устаў, зьвіліся вочы гневам,
сэрца сьціснулася, моўчкі адышоў.
Думкі носяцца — закінуць шнур на дрэва,
каб навек застыгла ў жылах кроў.

Ночку цэльную ў трывозе, ў задуменьні, —
ў цёмным лесе ноч правёў Сьцяпан.
Помста выклікала сьмелае імхненьне, —
помста горда выпрастала стан.

Галасіла ў роспачы Галіна,
плачам ночаньку за горы правяла.
Шкіда было Сьцяпана ёй пакінуць,
хоць ня „простае" крыві яна была.

*

Шлюбны дзень... Навезьлі падарункаў
ў панскі двор — шырокія вазы.
Баль кіпіць... Зьвіняць кандрылем струны,
льлецца пот з замучаных музык.

Слугі панскія збанамі носяць піва,
дый віна за збанам новы збан...
П‘яны гоман носіцца жахліва
над аголенымі хатамі сялян.

Баль кіпіць... Багатае вясельле.
Шалее паншчына на розныя лады...
Пасьцель пуховую ў пакоі слугі сьцелюць,
сабраўся йсыді з Галінай малады —

і раптам крык!.. Трывогай задрыжалі
госьці п‘яныя, запенілася кроў, —
Сьцяпан прышоў памсьціць паном за Галю.
Сьцяпан, а з ім грамада дзяцюкоў.

Крывёю сьвіснуў чэрап маладога,
і гаспадар... канаючы, ляжыць.
Галіна скручана халоднаю трывогай:
каханьне й ненавісьць ня могуць разам жыць!

А тут і варта ўзбройна падасьпела;
мячы крывавыя ад сьветачаў блішчаць...

Хвілінаю — Галіна анямела,
дый потым стала залівацца-рагатаць...

Сьцяпан пачуў — ня можа больш змагацца,
сілы трацяцца, ў вачох імжыць туман.
Прышла пара з жыцьцём яму расстацца;
ў прадоньне возера з вакна зьляцеў Сьцяпан.

І раптам возера ўздрыгнула, загручэла,
халодным гулам моцна ўдарыў гром.
І стала возера, як жвір закамянелы;
хвалі шумныя застыглі курганом...

А няпрытомная Галіна рагатала.
Шалёным віхрам вецер застагнаў...
Зямля затрэслася... Разьнёсься гул абвалу,
і зьнік палац — стварылася багна.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... Васеньнім вечарам засьвішча ў полі вецер,
застогне лес, пасыплецца імгла...
У мястэчку, ўспомніўшы, расказываюць дзецям:
— Было даўно... Тут быў палац...

1926 г.

## ПЕРШЫ РАЗ У ВЁСЦЫ

1

Нёман, поле, сенажаць...
Сонца ліжа ласкай.
Выйду ў поле пастаяць —
чую Нёмна казкі.

Б‘е навальна ў берагі,
бягучы ў дарогу.
— Гэй, ты, Нёман дарагі,
дай, памыю ногі.

Ты ў дарогу? Я — адтуль!
Ногі, як чужыя.
Спаласьнеце з іх вы муль
хвалі юравыя.

2

Ліпнёвая раніца... Поле туманнае
кропляй расы абмывае свой твар,
Рог пастуха будзіць сонца заспанае,
мякіш цішы праглынае гушчар.

Дзе Лоша цалуецца з хвалямі Вусы-
Неман-крыніца вірлівам гудзіць.
Сонца ён просіць: — сасна Беларусі
скутая дротам ляжыць на грудзі.

Глянеш на дно — аксамітная коўдра,
ледзьве гушкаецца ў хвалях трава.
Веерам ветрык праносіцца горда,
сасновая гнецца яму галава.

Ён зарасьлі-лісьце над хвалямі клоніць,
ён гоніць за гоні атруту-журбу.
Вяскоўцы ля берага косамі звоняць,
сена сухое дзяўчаты грабуць.

3

Пабуду сярод іх, я з імі на начлег
паеду шэраю васеньняй ноччу.
Я сын гораду, я малады рабочы, —
паеду разам слухаць, як хвалі ў ноч турочаць.
Пабуду сярод іх! Я з імі на начлег
паеду шэраю васеньняй ноччу...

Пясочня, 1923 г.

# ДЗЬВІНА

Добры дзень,
        зялёныя загоны-дываны,
        я прышоў паслухаць з вамі
гутарку Дзьвіны.

Сакалінай-пераліўнай
        прывітала песьняй даль,
        плынь, бурлівых, цёмна-сініх,
векапомных хваль.

Залаціцца-весяліцца
        звонка-струнная вясна.
        Добры дзень вам, палачане,
добры дзень, Дзьвіна!

*

Шустры ветрык жартаўліва
у кустох зашалясьціць.
Гоман хваль
Дзьвіны бурлівай
чую першы раз ў жыцьці.

Мілагучныя вясьнянкі
ў сэрцы туляцца ў мяне.
Ля ўзьбярэжжа
палачанкі
песьняй шлюць паклон вясьне.

Радасьць — іскрамі шугае,
ў полі — кветкамі гарыць.
Хвалі звонкія змываюць
бераг
        Замкавай гары.

Росная раніца.
Сонцам румяніцца,
нібы дзяўчына,
каліна.

Птушкі-вясьнянкі
пяюць спазаранку
ў сасоньніку,
як на гармоніку.

Смутку ня знае
вясна маладая,
ніколі
ў бязьмежным полі.

Хвалі, бывае,
журбу абуджаюць,
нявесела стане,
як глянеш...

Жыцьцю маладому вясной не астыць,
ня спыніць яго песьні стазвоннай.
Чарадою плывуць па Дзьвіне плыты,
мінаючы горы, лясы, балоты,
пад сьпеў маладых плытагонаў.

Як варта, плывуць за плытамі чаўны,
хістаюцца ў золаце хваляў.
Зазыўныя гксьні шырокай Дзьвіны,
ў сонечнай радасьці звонкай вясны,
чаму спавілі мяне жалем?

Жудасна. Крыўдна- Яшчэ вярста,
і гоман прывольля зьнікае.
Сьлёзы нядолі там льле бедната,
пазбаўлена ў роднае хаце кута —
мовы роднае там пазбаўляюць.

Сьцюдзёным туманаім на сэрцы іржа
балюча атручвае радасьць.
Дротам калючым сьціскае мяжа, —
а за мяжой кайданы бразжаць,
кучаравыя сохнуць прысады...

Вечарам ясна-вясеньнім
люблю рассыпаць лятуценьні.
Хочацца ціха, пакорна
туліцца да ночанькі зорнай,
забыцца аб дзеннай завеі
хвілінкай маленькай, аднэю...

Хочацца думкамі ўзьвіцца
над вольнаю ў сьвеце зямліцай!

Люблю прытуліць лятуценьні,
дый... цені, праклятыя цені,
носіць імглістая цемень...

*

Сказ пра Дзьвіну нам раскажа парою
лірнік, схіліўшысь пакорна журбе:
— „Бераг твой срэбны, дно залатое,
кроў працякала, Дзьвіна, праз цябе.

Шляхта, ксяндзы, езуіты зьвярына
глумілі бязьвінных тутэйшых людзей.
Набегам няволілі нашу краіну
хэўра разьюшаных рускіх князей.

Дый беларускай княжны Ефрасініі
сёньня стаіць не адзін манасгыр,
хоць змоўклі, заціхлі ў зарасьлях ціны
шумныя хвалі сівой Палаты...

Дзе ладанам чадзіў Францішак Скарына,--
чакалі стагодзьдзямі сонечны дзень!
Раней езуіты глумілі бясчынна —
дый пакаленьні праклятых князей..."

Нeяк думкі віюцца варожа,
глянь адно — за царквою царква.
Гэтым скарбам „падужацца" зможа
з перамогаю толькі Масква.

Пасінеўшы стаяць камяніцы;
бывала, пад бразганьне шпор
кадэты хадзілі маліцца
ў славуты Сафіскі сабор.

І многа, ой, многа было іх:
аплялі, як на пасецы мох.
Але край наш ў няволі устоіў —
захаваўшы хоць мову ў грудзёх!

Сёньня новымі ўзорамі звычаі
сталі наша жыцьцё аздабляць.
А чынушы „былого величия"
хоць за... ногі гатовы кусаць.

*

На вуліцах сьціхне ўвечары гоман,
„былое величие" — ў пролазах цьмы, —
песьню заводзіць пад хрып грамафона:
— ,,бывали дни — гуляли мы"!

Зьбяруцца суседзі зблізку, здалёку,
паслухаць „восточный цыганскнй романс",
вып‘юць па чарцы вішнёўкі салодкай,
пульку сыграюць адну ў прэфэранс...

Вістуюць ўсе... Азарт забірае...
Бяз козыра... Ў цёмную... Бубны-звон!
Жанкі падкіднога сабе падкідаюць,
хрыпіць, пацяшаючы іх, грамафон.

Анэкдот? Бясспрэчна! Жарт? — Бязумоўна,
Сьмех? — Ён-жа радасьць пары залатой.
... На вока папаў „Беларускі слоўнік" —
застыгла вясёласьць, зьмяніўся настрой

Скубуць намі ўзьнятае нашае слова,
расьцьвіўшае пышна, як сонца, як дзень.
Слову служілі грудзі аховай —
ня вытруціць вольна ўздыхнуўшых грудзей!

О, пакаленьне, — „пшаніца хрыстова",
было узьнялося, як вецер з-за гор.
Стрыножыць імкнуліся нашае слова,
што вызваліў наш Семнаццаты Год!

Ніколі ня сьцяць ім жыцьця маладога,
не зацямніць ім сонечных дзён!
Хай бы гулялі сабе ў падкіднога,
дый соладка слухалі-б свой грамафон.

О, спадчына лютая! Хто-бы забраў-бы?
(Жыцьцё не да смяку бяз розных прыкрас?)
З пагасам аддалі-б, з прыбыткам, сапраўды,
Адно, каб ня стала іх толькі ў нас..

Полацак, 1926 г.

# С Т Р У Н А

Крані струну ў грудзёх сваіх,
струна шматзвонная зайграе,
зазвоніць песьня маладая,
крані струну ў грудзёх сваіх.
Крыляцца думкі, як страі,
і ціха шэпчуць па-над краем:
крані струну ў грудзёх сваіх,
струна шматзвонная зайграе.

1925 г.

# ВЯСЬНЯНКА

Як песьні птушак раніцою
к жыцьцю ўздымаюць поле, гай-
так песьняй новаю наш край,
як песьні птушак раніцою,
жыцьцё працоўных уздымай!

9. VI. 23 г.

## ВЯСНА ІДЗЕ

Дзень чаканы,
дзень румяны,
дзень праменных струн,
дзень вясеньніх
лятуценьняў —
к нам імчыцца ўгрунь.
На спатканьне
звонкім раньнем
выйду ў сьвет-прастор.
Гляну, гляну,
дзень вясьняны
выплывае з-за гор.
Пры дарозе
тры бярозы,
тры бярозы ў рад
Дзень вясновы
шчырым словам
клічуць на пасад.
Цёмнасіняй
злоснай плыньню
мчыцца-рвецца лёд.
Сонца спаліць
і бяз жалю
срэбраны сумёт.
Дзень вясеньніх
лятуценьняў
к нам імчыцца ўгрунь
Выйду, гляну —
дзень жаданы,
дзень праменных струн,

5. IV. 27 г.

# ВЯСНА

Калышацца песьні-вясёлкі,
праменных цымбал перабор.
Вясна, як дзяўчына іголкай,
вышывае слуцкі ўзор.

Пералівамі, вецер сваволіць
як электра-ток абвіе, —
прыемна: ты сьпеў комсамоліш
стагодзьдзямі край што пяе!

І новыя песьні крыляцца —
яны — вобразы гораду ткуць —
няхай — за варштатам за працай,
ці ў клюбе ў політгуртку,

ці нават калі комсамолка
раскажа пра поле, жніво,
пра вясковыя песьні-вясёлкі —
я ўспамінаю завод.

І чую машынаў усплёскі
ў разьлівах юнацкай вясны.
Я ведаю: горад і вёска —
дарогі да шчасьця адны! .

Калышацца песьні-вясёлкі,
праменных цымбал перабор.
Вясна, вышывай-жа іголкай
ў баёх announced заваёваны ўзор!

1925 г.

* *
*

1

Сустрэліся ў вечар, авеены
шалясьценьнем нязнаных пяшчот.
Штосьці сэрца маё паланее,
нібы ўзбурана крыкам няўзгод.

Я ня знаю, аднойчы казалі,
што каханьне ўсёроўна, як дым,
узьвіецца пярсьцёнкамі ў далях,
і зараз-жа гінуць сьляды.

Я ня знаю, а мне вось даволі,
што блізіцца, што да таго?
Буду сэрцам гульліва сваволіць,
пакуль не астыне агонь.

Больш ня будзе, чым быць павінна.
Эх, моладасьць, нібы стацьцё,
цёмназорыя вочы дзяўчыны
і мне завязалі жыцьцё.

2

Сустрэліся ў вечар, авеены
шалясьценьнем нязнаных пяшчот?
Неба цёмнае зорамі ўсеена —
значыць пройдзе вясёласьцю год.

Так, здаецца, у нас выражалі
ў навагодную ночку калісь.
узьвіваліся радасьці крыльля
ў задуменную зорную высь.

А ўсёроўна, ці зоры мігаюць,
ці сьлязьлівыя хмары ляглі.

З нас ніхто і ня знаў і ня знае,
як жыцьцё варажбой атуліць.

Дый ці ростань стаіць перад намі,
каб аддацца ліхой варажбе?
Нашы дні — не маўклівы камень,
а шчасьлівы юнацкі разьбег!

3

Румянцам зара па-над садам
заіграла, як твар юнака.
 Я сустрэў цёмназорую радасьць,
 цёмназорую радасьць спаткаў.

Дык чаго маладому журыцца,
разьлівацца мілоснай сьлязой?
Ці-жа ня лепш разьлівацца крыніцай
гучных песень ггары веснавой?

А вось глянеш, усхліпваюць людзі,
і сьлюняваць вірлівыя дні.
Так бывае, калі хто заблудзіць
далінай жыцьцёвейных крыніц.

Можа ў сгарасьці сумна і стане,
а сёныш чаго сумаваць?
Забыцьцём атуляе каханьне,
рассыпаючы хмель хараства.

4

Сустрэліся ў вечар, авеены
шалясьценьнем нязнаных пяшчот-
 Ня прышоў-бы, падумала: дзе ён?
 З серца вырваўся-б думак ўзьлёт.

Ну, дзяўчынка — і сэрца ў дзяўчыны,
а ў сэрцы палаюць агні —
першых спатканьняў хвіліны,
каханьня юнацкага дні.

Сустрэліся! Хто-ж яго знае!
Я ня мог да яе ня прыйсьці.
Можа й дрэнна, што гэтак кахаю,
як нікога ніколі ў жыцьці!

Больш ня будзе — хоць можа й павінна;
Эх, моладасьць, нібы стацьцё,
Цёмназорыя вочы дзяўчыны
і мне завязалі жыцьцё.

6/XII-1926 г.

## АДГУКНІСЯ

Адгукніся слова слову,
вершам весела зайграй.
Залаціцца
сьвет-зарніца
    каляровая зара.

Адгукніся ліст лісточку
шалясьценьнем вецерка.
У прасторы
ясназорным
    я дзяўчынку напаткаў.

Адгукніся сэрца сэрцу
іскрай зорнаю ў глыбі.
Ой, выпадкам,
вачаняткі
    як вясьнянькі, палюбіў.

Адгукніся шчасьце шчасьцю
гучнай песьняй хараства.
З ёй пайду я
баявую
    сваю будучыню звацць!

1926 г.

# З А В Я З К А

Засьвістаў гудок фабрычны;
знача — кідай свой варштат.
— Першы раз, было й нязвычна,
я пайшлаў народны сад.

Вечар быў такі харошы,
як-жа сэрцайка ўтрымаць?
Я ішла... Якой дарожкай?
— Дый ня ведала сама.

Падышла да рэчкі шустрай.
Месяц хмурыцца ў вадзе.
Да мяне, якраз насустрач,
хлопец ветліва ідзе.

Стаў ля рэчкі, глянуў, глянуў,
усьміхнуўся раз, другі.

Я кідала кветкі ў хвалі, —
расплываліся кругі.

— Як цябе, дзяўчынка, клікаць?
Што-ж саромішся, скажы?

... Я сказала... неяк дзіка —
ён-жа мне зусім чужы.

Раптам страх спавіў дзявочы,
— ці застацца, ці ўцякаць?
Толькі вочы... Вочы... Вочы
так заманьліва гараць.

Проста дзіўнае спатканьне,
сэрца ў грудзях ня ўтрымаць,
Разыйшліся, як сьвітаньнем
слаўся ў зарасьлях туман.

Зараз кончыцца ў нас праца,
кіну я цябе варштат.
Пабягу хутчэй спаткацца,
— пабягу ў народны сад...

1926 г.

# О Й ,   Н А П Э Ў Н А   З А   В І Ш Н Ё В Ы М

(*З народных матываў).*

За садочкам, за вішнёвым,
ой, напэўна, за вішнёвым,
у сарочцы каляровай —

там каханы мой чакае,
ой, напэўна, ўжо чакае
і трывожна выглядае.

Як у верасень лісточкі,
Ой, напэўна, як лісточкі,
пахмурнелі яго вочкі.

Сэрца мусіць зазлавала,
ой, напэўна, зазлавала,
з-за даліны гнеў пазвала.

Але зараз, праз хвілінку
ой, напэўна, праз хвілінку
стрэне ён сваю дзяўчынку.

Я-ж ня вінна, ўсё бывае
ой, напэўна, ўсё бывае
І ніхто аб тым ня знае.

Хочаш так, але сумесьле,
ой. напэўна, ўжо сумесьле,
ўсё ня так, як твае мысьлі.

Але згіне гнеў, даруе,
ой, напэўна, мне даруе —
прыбягу і пацалую...

1927 г.

## Б У Д У   М Е Ц Ь   Ш Ч А С Ь Ц Е
(*З народнага).*

Восень прагнулася раніцай яснаю
золатакволымі
лісьцямі шастае.

Лісьцямі шастае, раніца насьцеж —
знойдзеным шляхам здалею прысьці, -
буду мець шчасьце,
шчацьце мець буду,
буду мець шчасьце
ў нашым жыцьці.

Золаку раніцы ўклон мой у пояс,
як сонца, з табою
жыцьцё маладое.

Жыцьцю маладому ня дай запрапасьці,
прыгрэй, прытулі, каб магло расьцьвісьці,-
буду мець шчасьце,
шчасьце мець буду,
буду мець шчасьце
ў нашым жыцьці.

Золак бадзёрыць, жыцьцё адмыкае
ключамі праменьняў
на небакраі.

О, каб на крыўду мне больш не напасьці,
а ў сіле, гартована, з песьняй ісьці, —
буду мець шчасьце,
шчасьце мець буду,
буду мець шчасьце
у нашым жыцьці,

1927 г.

# ПРАСТОР КАЗАЦКАЙ КОНЬНІЦЫ

Сонца
ў дзіўных скалах
славу нам снавала.

Арол
на небасхіле
ў праменьнях точыць крыльлі.
Горы
шлях арліны
цалуюць сінь вяршынай.

Даліны
ветравольніцы
прастор казацкай коньніцы.

*

Я схіліў чупрыну,
ўзышоўшы на скалу:
горам і далінам,
сонцу і арлу.

1926 г. Каўказ.

Змоўкні,.мора, як тое ўзвышша,
акуніся ты ў думкі мае...

З тэй пары прамінулі гады...
Ну, хутчэй, ну, хутчэй, параход!
Тут памёр наш пясьняр малады
у бясьсьмертны Семнаццаты Год.

3

Ой, за Ялтай, у полі,
        сярод Крымскіх гор —
шырокі курган магілы.
Сонца сваволінь,
        тчэ жоўты ўзор,
і вецер гуляе пылам.

Кіпарысы, каменьні,
        цыкады, крыжы, —
шырокі курган-магілы.
Навальніца калені
        сагне й пабяжыць,
і зноўку жыцьцё застыла.

Ой, неба муліць
        каўнер Крымскіх гор;
сонца Ай-Петры спавіла.
Ня чуе зязюлі,
        не яе перабор
над вялікай, забытай магілай.

4

Страшыць навальніцай
        з-за горных сьцен
            Крым.

Чорная табліца:
        „Студэнт
            Максім...”

5

Хвілінай, толькі хвілінай
заіржала сэрца жалем.
Ой, ня ласкай віталі Максіма
праменьні далёкай краіны.
Сьціскае яго суглінак,
ветры грудзі стапталі...
Хвілінай, толькі хвілінай
заіржала сэрца жалем.

19 жніўня 1924 г,
Ялта.

# П Е С Ь Н Я

І стаіць каліна,
за калінай лозы.
Новай пуцявінай
новыя палозы,

Сосен цёмнасініх
многа ў нашым краі.
Там, дзе багавіньне —
колас вырастае.

Там, дзе шыр балотаў,
вечных лоз драмучых, —
там кіпіць работа
радасьцю гаручай.

Сьцелецца пуцінай,
сьцелецца ня вузкай —
водгульле ў даліны
песень беларускіх.

1926 г.

# БЫЛІ ТАКІЯ ДНІ

Быў дзень — як вар, як важкі ўдар забою.
Быў дзень — апалены распаленай рудою
Быў дзень — як волат бурай гартаваны
Быў дзень — як думка творчасьці прызнанай
Быў дзень — народжаны ў агні.
Былі такія дні.

1929 г.

# МАЦІ РАСКАЗАЛА

Маці мая, матуля мая,
мінулае гора ў тваёй сівізьне...
Я, схіліўшыся ў думках,
пакорна стаяў;
за вокнамі слаўся сьнег.

Слаўся сьняжынкамі,
слаўся над краем,
слаўся, будзіўшы ўспаміны стацьцём.
Маці, матуля мая дарагая,
мне расказала
пра наша жыцьцё:

1

...— Студзень. Шосты год.
Дваццатае сталецьце.
Водзе ў карагод
голад свае сеці.

Холадна. Мароз.
Узор на вокнах віўся.
Добра-б толькі рос, —
ты, сынок, радзіўся...

2

— Помню той вечар,
вецер ня выў.
Шукалі за печчу
„святое травы"...

Малілася хата, —
ў пашане Спас...
— Будзе багаты,
ў шчасьлівы час!..

Больлю затросься
бацькавы твар, —
цяжка жылося,
мацнеў цяжар.

Высахлі грудзі,
хата, як склеп...
Добрыя людзі
прынесьлі на хлеб.

3

І ў гэты вечар
і вецер ня выў,
і сьнег карцеччу
у вочы ня біў.

У горадзе звонка,
вітрыны, агні;
гудуць беспрасонку
і ночы і дні.

Са сьвістам ізвозчык
імчыцца з гары.
Вярбуюць на плошчы
кіно-ліхтары.

Оркестра склікае
ў кафэ-рэсторан.
Тракцір забаўляе
песьняй цыган.

4

І ў гэты вечар
і вецер ня выў...
Меў вочы, як сьвечы,
гарадавы.

Глуха ў завулках, —
бяднота, гальлё.
Лахмоцьце прытулак
падпольлю дало!

Ні хлеба, ні сала,
галодная сьмерць.
Рабочы ў падвалах
выкоўвае сьмерч.

І рвецца з падпольля:
„Далоў царскі стан!"
Ня будзе Менск болей
кафэ-шантан.

5

Вясна прыляцела з надзеяй —
можа ўдасца работу знайсьці.
Але, дзе заработак, дзе ён,
да каго і куды ісьці?

І нявесела ў згорбленай хаце,
грудзі точыць бяда, як іржа.
Хто-ж за горкія сьлёзы заплаціць?
Камень сьмерці на сэрцы ляжаў.

Бацька ў тракціры з сябрамі
прапівае сваё паліто.
Бывае, сваімі рукамі
задушыць быў цябе гатоў.

Цярпелі нядолевы кпіны,
жылі кропляю бруднай расы.
Дачакалі вальнейшай хвіліны
сівыя мае валасы.

6

Заўсёды клумкі клопатаў,
сьлёзы, бой, грызьня.
Жыцьцё мінала з грохатам,
як пыл ды з-пад каня.

Вадой... І сталі-б сьвежымі
І вуліцы і шлях.
Жыцьцё такое-б — з вежаў мы,-
ўгнаілася-б зямля!

Але ціскала гора нас, —
тупой сякеры сталь.
І так, жыцьём заморана,
гібела бедната.

Але за што? За што гэта —
адны ў сухотах мруць,
другія сытным рогатам
дукаты ў банк кладуць?

**7**

Задуменны, нібы вучоны,
на вуліцы бацька блукае.
А на рынку тракцір разгонны
разгулам яго заклікае.

Не працуе, праца — нічога,
дзе мага яго вочы лезуць.
Раз п‘яны страсануў гарадавога,
трасануў, пяючы марсэльезу.

Гаварылі яшчэ, што азартам
аб калена зламаў „селядзец".
Прыляцела суседняя варта...
Так вісела бяда на бядзе.

Судзілі. Сядзеў. Выйшаў.
А ў сэрцы кіпіць непагода...
Кароткія-ж ніткі зацішша
ўвосені шостага году.

8

Гора з бядою халоднай навалай
грудзі сьціскалі, як змрочныя дні.
Ой-жа ня лёгка жыцьцё каратала,
сьлёзы сушыла ня раз на агні.

Ня мала бялізны сьцірала па людзям,
вечна на пальцах былі вадыры.
Сілы губляла, атручвала грудзі
флёркай, крахмалам... дый што гаварыць!

Помню, стаяла праклятая восень.
Хто-ж гэта знае, дзе стрэнеш бяду.
Табе ўжо сабралася месяцаў восем;
вецер няшчасьцем над намі падуў:

бацька, як вып‘е, — вар‘ятам рабіўся,
і так вось п‘яныя ў загрудкі ўзяліся, —
ведама, што і нажы ў іх з сабой…
Бацькі ня стала... Заліўся крывёй.

9

Ворагу толькі і болей нікому
долю такую жадаю.
Бегчы часамі хацелася з дому.
Як пражыла? Ня знаю...

Кідацца мне давялося ня мала, —
да цёмнага змроку ад раньніх зарніц.
Я ўжо казала, халоднай навалай
грудзі слабелі, як сталь на агні.

Дзе-ж я магла хоць падумаць часамі,
што ўсё-ткі сапраўды лягчэй зажыву:
ведала толькі, — на сэрцы камень,
ведала толькі, — палын-траву.

Ой-жа, з мінулым ня лёгка расстацца,
ой-жа, ня лёгка вось так расказаць...
Дваццаць гадоў праляцела... Дваццаць...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Матчыны скроні прамыла сьляза.

# ГАДЫ ДЗІЦЯЧЫЯ

10

На Пярэсьпе[1]) нарачыта
сабіралася дзятва.
І ня раз і ня два
мне была мая разьбіта
за лаптою галава.

На магілках Старажоўскіх[2])
праз крыжы і курганы,
лазіў я па каштаны,
і кожны раз і нeяк лоўка
рваў картовыя штаны.

Галубоў ганяў са сьвістам.
Часта — выстраімся ў рад
і цішком, праз плот, у сад,
здымем яблыкі дачыста
і за грыўню Шлёму ў — склад!

І гулялі кожны вечар
У „вайну" супроць паноў.
І вакно і не адно
ў гэты вечар пакалечым.
Ну, а заўтра? — заўтра зноў...

---

[1]) Прадмесьце Менску.
[2]) Могільнік на Пярэсьпе.

11

Прывучаць мяне сталі да працы,
за шавецкі ўсадзілі варштат.
Стаў я корчыцца, клеіць абсацы,
шнураваць памаленечку стаў.

Незадоўга паслалі вучыцца, —
купіў з пераплётам „букварь" —
стала „молнией" мне „бліскавіца",
і „хозяином" стаў „гаспадар"...

Весялей і на сэрцы ў матулі,
як-ні-як, не байдосую больш.
Харашэй прыадзелі, абулі,
і ў кішэні зароблены грош.

Меў яшчэ і другі заработак,
быў прыслужнік царквы — панамар.
З папіросай, у лакавых ботах,
па нядзелям хадзіў на бульвар

і валондаўся цэлымі днямі;
слухаў сьпевы катрынкі заўжды,
і разглядваў сябе ў панараме
за капейку — усе гарады.

З тэй пары, як відаць, палюбіў я
родных вуліц і гоман і крык...
Эх, зялёныя дні, дарагія,
бястурботнай дзіцячай пары.

12

Былі часы! Разносіў вецер іскры!
Матуля добрая,
успомні тыя дні!
І ўноч і ўдзень
прыносіў нам вятрыска
і страх, і дым,
і голад,
і агні...

Я помню:
раніца ліпнёвая стаяла,
разрываліся
гарматы, нібы гром.

А ў горадзе
шалёнаю навалай
разносіў плач
разьюшаны пагром.

Як расы зарою на байдане,
так на бруку выбітага шкла.
Крамы ўзломаны
ваякамі Пазнані;
сіла чорная па гораду прайшла.

Маці, бедная,
старэнькая матуля,
перахрысьцілася,
ўзяла з камоды хлеб;
а ў сьцены стукалі
сьвінцом гарачым кулі...

Мы паціханьку
паўзьлі
хавацца ў склеп.

Мінула ноч...
Замоўклі кулямёты...
Над пажарышчамі
віўся дымны чад.
З склепу вылезьлі,
на плошчу зноў я зьлётаў:
— Прышлі Чырвоныя!
Чырвоныя!
... Парад!

13

Холадна. Застыў
шумлівых вуліц гул.
Бягу ў каператыў
раней заняць чаргу.

Поўна галава
радасьці, надзей, —
будуць выдаваць
воблу і алей...

*

Вогнішча расклалі.
Холадна. Мароз.
Рана паўставалі.
Выцягнуўся „хвост".

Чую нараканьні
дзе ні закрані:
— „Трэба чвэрць, а глянеш,-
толькі залатнік".

Бабы ўсё скавычуць:
— „абіраюць голь, —
выдаюць сярнічкі,
а хаваюць соль"...

*

Пішуць, для парадку,
крэйдай, як па норме, —
на грудзёх, на латках,
кожнаму свой номер.

У мяне дзесяты,
а прыйшоў другім,
Хочацца да хаты —
сьцеражэш чаргі...

*

Сонца разбудзіла
прозалаць-зара,
І мяне зьмяніла
замярзаць сястра.

15

Сонца адно у ваконца вакно
пастукае, нехаця скажа:
— Настала жыцьцё,
сваё лахмацьцё
вязі —
па гразі,
— распрадажа!
Галодны час.. Старасьвецкі абраз
для глянсу алеем абмажуць.
— Мацьтваю так!
Самога хрыста
нясі —
галасі,
— распрадажа!

Шаўды-бедната паходны варштат
паставяць, начыньне разьвяжуць.
— Да вечару й што-ж,
без работы нож
і зноў —
адно,
— распрадажа!

Вясёлы заўжды карчмар малады
сёньня нявесела кажа:
— Цяжка цяпер,
трэба цярпець:
вязу —
казу,
— распрадажа!

Так тваю маць!.. Дзе-ж хлеба дастаць?
Трупам на вуліцы ляжаш.
Ой, галыцьбе,
дык самога сябе,
              сябе, —
                  за рубель,
                    — рас-пра-дажа!

16

Інакшыя дні,
інакшыя словы
разьлівам прадвесьні зьвіваюць жыцьцё...
Сьцелюцца думкі сузорнай падковай,
вясёлкавы ў сэрцы пылае касьцёр

Пазвала жыцьцё
за напружную працу,
бо ў спадчыну нам ад прышэльцаў былых-
на фабрыках нашых разьбітае, братцы,
разьбітае ўсё —
варштаты, катлы,

  і сьцены ўзарваны,
  і толькі руіны
  раскінуты цэглай
  Як-жа тут быць?
  — Пазвала жыцьцё
  адбудоўваць краіну,
  пасьля перамогі,
  пасьля барацьбы.

17

І гады мінулі, ой, гады цяжкія.
дый прышлі дзянёчкі, толькі ўжо другія.

І дзянёчкі сьцелюцца новай пуцявінай,
дый гукае-кліча маладосьць краіна

І зьбірала-звала гулам віратлізым
дый мяне пазвала, — знача я шчасьлівы!

І забудзем гора, што было заўчора,
дый збудуем горад, пролетарскі горад.

І зазвоняць фабрыкі, і ўзрасьце над краем
дый крылатай гордасьцю доля залатая.

І гады мінулі — не вярнуць ніколі.
Стаў я ўжо інакшым, стаў я комсамолец!..

18

Сёньня дваццаць мне!
Яшчэ ня мала жыць,
Відаць, прыходзіцца
адкінуць лятуценьні..
Калісьці йшоў я —
з сонцам на нажы,
любіў часамі
крышку бурапеніць.

(І выпіць чарачку...
Была такая справа).
Ляцела зоранька мая за небасхіл.
І сонца ветлы сьвет,
і сонца сьвет яскравы
зацямнялі чорныя грахі.

І не адзін я быў,
з таварышамі разам,
з таварышамі, дружнай грамадой
байдосавалі сілу і ні разу
пачалавечаму ня выйшлі мы з піўной.

Але выпадкам,
дзівішся ў надзвычай,
выпадкам вынырнуў
з атручаных богэм.
І новае жыцьцё
стварыла новы звычай,
а ён прынёс
бязьмежжа новых зьмен.

Пазнаў жыцьцё
праз цемень дзён разгулу;
як страшыа ўспомніць
хмельна-п‘яны год.
Але мінулае
застыла-патанула
ў цёмна-сіняй зарасьлі балот!

19

Вось часамі ўвечары, ў даўгія вечары,
аб мінулым хочацца думаць, гаварыць.

Сьцежкі палыновыя замучанай зямлі
кветкамі вясновымі зайгралі, расьцьвілі.

Сёньня ня сустрэну я ні сьлёзаў, ні журбы, —
радасьць сонцам сьцелецца, шчасьце барацьбы!

Звонам разьліваецца, гоманам крыніц,
бяявая будучына — бронзавыя дні.

*

Казалі многа нам і markup рознае заўсёды,
ў каго і чым набіта галава:
Ці-ж вы народ, вось як і ўсе народы,
падобна нацыі з культураю прыгоднай?
І што ў вас ёсьць, — адвечная дрыгва?

Казалі многа нам і... несьлі нам нямала,
бяда за бедамі імчалася угрунь.
Глумілі нас накінуўшыся шквалам, —
За што? Хіба за тое што, як кажуць, нас злучала
адно — нацыянальнае — калтун?!

За тое, што выносьлівых і цёмных
і многа так патрэбных дужых сіл...
Душылі змораных, скрываўленых, палонных,
за працай чорнаю, на панскіх на загонах —
іх сьлед раскінуты мільёнамі магіл.

Казалі многа нам... Ці-ж ветры не навеюць? —
Мужык і хам, і гад, і галыцьба,

І чым ня лаялі прыблудныя зладзеі
краіну, дзе спрадвек пакутнасьці завеі,
дзе ня ўгледзіш чалавека без гарба.

Казалі нам... А мы ў адказ ня многа...
Паўстаў прыгнечаны працоўнай стараны!
Жыцьцё зьмянілася! Ня будзе больш вастрогам!
Вякі над кручаю! Сьвяткуем перамогу!
Заплакалі разьбітыя званы...

Пайшоў і я дарогай камяністай,
пайшоў з рабочымі пад сьвіст ліхіх зіхур!
Пайшоў бадзёры я, з прыпеўнасьцю агністай.
І сёньня разам я з грамадай комуністаў
за цэглай цэгліну ўкладаю ў новы мур...

*

Сьцежкі палыновыя замучанай зямлі
кветкамі вясновымі зайгралі, расьцьвіль

Сёньня ня сустрэну я ні сьлёзаў, ні журбы,
радасьць сонцам сьцелецца, шчасьце барацьбы.

Буйнымі калосьсямі зацьвіла дрыгва, —
Беларусь працоўная — краіна хараства!

Звонам разьліваецца, гоманам крыніц —
баявая будучына — бронзавыя дні.

20

Сонца спаліла асьнежны сумёт...
— Дваццаць першая йдзе вясна!
Эх, любая моладасьць! Дваццаць год!
— Вып‘ем, таварыш, да дна...

Дваццаць першая йдзе вясна,
не адна зазвоніць струна.
Абуджу ў сэрцы тысячы струн —
у бязьмежны ў сусьвет — угрунь!
Рукі ў гору, а грудзі наўсьцяж,
і ў дарогу, на крыльлях жыцьця.

Пазнаў я і радасьць і ўздым
ў сьвеце новым, інакшым, другім...

Дваццаць першая йдзе вясна —
не адна зазвоніць струна!..

Менск. XII. 1926

# ПАЎСТАНЦЫ

Польшча сёньня -
як царская Расія -
краіна сьмерці,
краіна цёмных
крат
•

Андрэй Александровіч

Дзея адбываецца ў Заходняй Беларусі. Малады сасоньнік. Ноч. Чуецца бадзёры голас-кліч:

Б‘юць званы новых дзён,
гэй, бедната, слухай!

Надыходзе час помсты,
паўстаць надыходзе час!
Помсту шрапнэляю вострай
кідай паном з пляча.

Ня плач сьлязою цноты,
ня згінайся ў пояс бядзе.
Беларусь — не стаячае балота!
ў Беларусі — ня ў ціхай вадзе!

Выходзь з падвалаў, падпольле,
на вольны, здабыты шлях.
Уздыхне размахам прывольля
Беларусі Заходняй зямля.

Селянін — выходзь з сякерай,
рабочы — молат бяры!
Узламайце скаваныя дзьверы —
гэм чырвань новай зары.

Уздымайце агнём завіруху —
у полымі згіне прыгон.
Гай, бедната, слухай!
— Б‘юць званы новых дзён!

Голас змаўкае. Паяуляецца сьвет. Унізе палае вогнішча-касьцёр. Сасоньнік. На ўзгорку сядзяць вясковыя хлопцы. Высокі стройны хлапец— Ігнат, з чорствым, але выразным тварам — ён атаман моладзі.

**І**гнат
І так, хлопцы, толькі сьмела,
празьвініць і наш удар.
Панаваньне банды белай
зьнясе агонь — нібы вада.

Ня вечна плакаць за сахою,
ня вечна нам цярпець прыгон.
Ім не зраўняцца з сілай маладою, —
а гэтай сілы — не адзін мільён!

**2-**гі хлапец
Ты працуеш, пот ліецца,
пан — здаволены, сьмяецца.
Раптам штось не спадабае
і цябе ён — сьгаа працы,
зазаве ў свае палацы,
бізуном цябе зьбівае, —
сябе і жонку забаўляе. .

**І**гнат
Так, браты, крывавыя забавы,
такіх забаў даўно ня бачыў сьвет...
Услухайся, гудуць сталетнія дубравы,
дый маладняк гудзіць — да барацьбы заве!
Не! Не ўстаяць ім перад сілай працы!
Не абароніць іх „усемагутны бог".
Прыгнечаны, ўставай, — выходзяць на шлях, змагацца!
Паўстань, — краіна кліча ў бой!

**3-**ці хлапец
Прыдзе к нам дзень новага жыцьця,
і ўтворыць новую вялікую пару,
ўзьвіецца наш — чырвоны сыіяг,
і аб‘яднае Беларусь!

**І**гнат
Ты, Якім, уладзь з аружжам,
заўтра ўздрогнецца зямля!

**4-**ты хлапец
Калі праца пойдзе дружна

**3-**ці хлапец
Барацьбе шырокі шлях!

**І**гнат
Заўтра па ўсёй Беларусі
ўсе, як адзін атрад.

**2-**гі хлапец
Пачынаюць!

**І**гнат
І ў гэтай завірусе
нам, браточкі, прыклад трэба даць!

**4-**ты хлапец
Калі дружыны ў час зьбяруцца —

**2-**гі хлапец
Зьбяруцца ў час!

Галасы
Зьбяруцца, зможам!

**4-**ты хлапец
Няхай жыве чырвоны сьцяг!

**3-**ці хлапец
Беларусь Ім ня стрыножыць!

**4-**ты хлапец
Выйдзем

**2-**гі хлапец
На бальшавіцкі шлях!

**3-**ці хлапец
У нас яшчэ адно пытаньне,
дзе назначыць заўтра збор?

**І**гнат
Заўтра збор у нас ня ў тайне,
дык спаткацца ля Трох Гор.

І адтуль, злучыўшы сілу, —
Толькі смела!

**3-** ці хлапец
Ня спужаць!

**4-**ты хлапец
Возьмем пана мы на вілы...

**2-**гі хлапец
Нам ня страшна ваяваць!
(Сьвет зьнікае...)

* *

Той-жа сасоньнік. Сонца кідаецца ўвечар. На ўзгорку сядзіць панскі пастух Тадэуш, а ля яго ў зеляніне спіць няпрытомны селянін. Тадэуш абвешаны пастуховымі прыладамі.

**Т**адэуш (глядзіць на селяніна).
Сьпіць бядняк.., Такая наша доля...
Ня змог ліхой бяды стрываць.
„Канаркі" яго сына шомпалам паролі,
язык скрывавілі і
змусілі сьпяваць.

Пасьля паапякалі маладыя пяты:
— Ну, танцуй, хлапчына, — той раве ў іспуг...
Ой, ня раз жандар той дый прыкладам катнуў,
ня стрымаў — ня вынес, — выпусьціў свой дух.
Бацька змучаны, ну вось і стаў вар‘ятам,
як лясун блукае ў гэтым вось ляску.
Жалю ня было-б, каб быў ёп пан багаты —
але, адна-ж галота,
вецер у таку.

Селянін (спрасоньня)
О, не-не-не! Яго вы не забілі,
ён сам, ён сам-памерці захацеў!..

**Т**адэуш
Заўчора і каваль ад панскае прынукі
пабіты, змучаны у хату ледзь прыдбаў.
А ўвечары злажыў худыя рукі — -
і дужы быў, і ўсё-ткі ня стрымаў.
Адно вось моладзь з чырвані істужкі
ўзьдзене, кажучы — для новага жыцьця...
Паніч аднойчы мне: — „лаві ты іх, што птушак,
і станеш мне, як роднае дзіця".
Але стары я ўжо, а ўсё-ткі сэрца маю,
і здраднікам з пракон вякоў ня быў...
Цяпер ужо і песень не сьпяваю,
ня любы мне і крык маёй трубы...
(Паглядае на Захад)

Э-э... тут ужо і сонца за гору сядае...
(Устае)
Паганю скаціну... хай паўзе дамоў...
А ў вёсцы, пэўна, навіна чакае,
ня было і дня, каб ня лілася кроў.
О, крывавыя паны разводзяць штукі,
каб расказаць — ня стане ў сэрцы слоў:
гарачае жалеза суне табе ў рукі,
тут табе дзяўчына, і гуляй ў любоў...
(Ківаючы галавой, ідзе на выган)

* *
*

Трымаючыся за рукі, увяходзяць паніч Людовік і яго паненка Марына.

**Л**юдовік
Вось толькі тут,
вось толькі тут з табою
я чую, як ніколі, спакайней сябе...
Прыгожы кут!
У вечным супакоі,
нявольна забываешся аб дзікай барацьбе.

**М** а р ы н а
Якое хараство, павольна дзень зьнікае,
Людовік, глянь, які цудоўны ўзор.

**Л**юдовік (нібы злосна)
Заўсёды ўвечары на зоры паглядае
хамства адзічэлае, выходзячы на двор.
Хадзем, Марына, сядзем тут на ўзгорку,
будзем выглядаць, як месяц усплыве...
Разам адшукаем свайго шчасьця зорку.

**М**арына
Разам будзем слухаць, як маладняк пяе...

**Л**юдовік
Разам, толькі разам, праз усе хвіліны
нашых дзён

**М**арына
Ці будзе толькі час?

**Л**юдовік
Будзе і вялікі! О, мая Марына,
слугі верныя дадуць нам, праца іх для нас.

**М**арына
Ты надзвычайна дзіўны, пэўны ўжо праз меру.

**Л**юдовік
Думаеш, што шчасьце разаб‘юць нам басякі?

**М**арына
Ня думаю, але... я веру і ня веру...

**Л**юдовік
Разьбіць жыцьцё? Па-твойму што — разьбіць вякі?
Марына, не чакаў... Мы будзем жыць шчасьліва!
Ты глянь кругом — гэта-ж усё тваё!

**М**арына
Заўсёды, дзень у дзень будзе бурлівым,
а знача, так і праз усё жыцьцё...

**Л**юдовік
Цяпер я зразумеў... Марына, у дзень шлюбу
прымушу я сваіх прысягу табе даць.

Ты думаеш, што я дрыжу, баюся згубы,
Марына, я гатоў хоць сёньня ваяваць!
Салдаты — слугі мне, і толькі адно слова —
сьмерць лютую гльшуць бунтаўшчыкі!
І гэты будзе дзень, рашучы дзень, суровы,
ня будуць больш парогі біць і енчыць мужыкі...
Марына, бачу я — ты не даеш мне веры?
Вось зараз ніцма ляжа вёска пад табой.
Даволі ўжо цярпеў, даволі ўжо, праз меру,
адна хвіліна. І толькі я з табой.

**М**арына
Чакай... Хадзем адсюль зусім мы,
туды, дзе возера палошча берагі.
Настрой такі ў мяне, я толькі так, любімы,
да сьмерці будзем разам, Людвік, дарагі...
(Прытуліліся і галубяцца)

* *
 *
Селянін, прэбудзіўшыся, узьняў галаву і баязьлівым голасам нібы просіцца.
О, не-не-не... яго вы не забілі,
ён, сам, ён сам памерці захацеў...

**М**арына (спалохаўшыся)
Хто ён? Адкуль?
(Чуецца ціхі сьпеў дзяўчат)
**С**елянін
А глуха бор шумеў...

**М**арына
Цудоўны чалавек...

**Л**юдовік
Пакіньма, бачыш, звар‘яцеў.
А там ужо, вось чуеш,
песьні хоць праз сьлёзы.
Не! Я ня стрываю, мушу іх спыніць!

**М**арына,
Пойдзем.
Там ля возера шапочуць вербалозы,
будзем там за месячыкам, зоркамі сачыць.

(Пашлі)

Селянін (павольна становячыся на ногі)
Русалачкі вадзілі...
Ножкі цалаваў іх...
Надмагільны сьпеў..
... Нажамі...

(Баязьліва спыняецца)

Не, ён сам,
ён сам памерці захацеў...
А шалясьцела сенажаць...
Дождж біў градам...
Во... званы хаўтурныя зьвіняць...
Паны зьбіраюцца... Нарада...
...Народ ідзе... павесялеў...
Нажамі...
Не, ён сам,
ён сам памерці захацеў...

* *
*

Пяючы сумную песьню, павольна ўваходзяць чатыры дзяўчыны, але ўгледзеўшы селяніна, зараз-жа перастаюць пяяць.

**1-**ая дзяўчына
Бедны, як любіў ён, як любіў ён сына,
працаваў, вучыцца можнасьць яму даў..

**2-**ая дзяўчына
Быў такі прыгожы... і адна хвіліна,
ад рукі няволі цяжка так сканаў.
(Падыходзіць да селяніна, прыгладжвае яму галаву, папраўляе вопратку. Селянін баязьліва адмахваецца рукамі з словамі: „Не, ён сам, ён сам..." Дзяўчына яго супакойвае і неўзабаве разам з ім выхадзіць)

**3-** я дзяўчына
Эх, ты, доля-доля!..

**1-**я дзяўчына
(глядзіць на селяніна, якога 2-я дзяўчына выводзіць)
Помста за цябе — затопіць у крыві.

**3-** я дзяўчына
Цяжкі крыжі.. Прыдзі, прыдзі, ты, воля,
прыдзі, і хоць хвілінку з намі пажыві...

**4-**я дзяўчына
Калі на Ўсход уцёк Васіль Пятроў з Рыгорам,
па іх сьлядох хацела бегчы я...
Дле пашла-б, у хаце ‘шчэ больш гора.
Я засталася... а віна ж чыя?

**3-** я дзяўчына
У той-жа дзень Сымонаву Ганулю
прыехаўшы салдаты згубілі.. на век ..
О, цяжкі крыж!..

**1-**я дзяўчына
У ланцугі закулі,
жывёлай стаў няшчасны чалавек.
Ня веру я, каб так і засталося,
сягоньня, заўтра, згіне гэты дым.

**3-**я дзяўчына
Жыві і спадзявайся...

**4-**я дзяўчына
Няўжо так давялося
нявольнікамі быць?

**1-**я дзяўчына
О, прыдзе воля ўсім!

**3-** я дзяўчына
Хадзем, дзяўчаты, вечарам блукацца,
хто ведае... а дома працы шмат.

**1-**я дзяўчына
Навошта жыць, калі яго баяцца,

**3**-я дзяўчына
Ты сьмелая, а вось угледзіць кат?

**4**-я дзяўчына
Аксана пашла з Янам,
бедная дзяўчына, разьбілі шчасьце...

**3**-я дзяўчына
Як ён яе любіў...
Жыцьцё, жыцьцё адна толькі хвіліна.

**1**-я дзяўчына
Улан той чорнамазы, ці аднаго згубіў?
І хлопцы нашы бедныя, дазваньня
з сіл выбіліся ..
Што цяпер пачаць?

**1**-я дзяўчына
Вялікае паставілі заданьне!

**3**-я дзяўчына
Ці хопіць толькі сіл?

**1**-я дзяўчына
Даволі ўжо трываць!

**3**-я дзяўчына
Хадзем...

**1**-я дзяўчына
Чаго? Як і заўсёды ён і ў хаце знойдзе,
як захоча, тут лёпш пасядзім.
А тады праз поплаў, валам ціха пройдзем.

**4**-я дзяўчына
Эт, давайце песьню,
сумна штось адным...
(Павольна пяюць песьню-трыё, адчуваецца глыбокі сум-няволя)
За жнівом у полі,
праца сьлёзы лье.
А мая няволя

песьню мне пяе.
Эх, сьпявай, няволя,
весялей сьпявай.
Мо‘ убачыць волю
наш забраны край.
Ой, гудзі, дубрава,
вечар ты сьпявай.
Церпіць баль крывавы
наш забраны край.
Эх, няволя пане,
Ты, пакінь мяне.
Новы дзень настане
ў нашай старане
(Раптам чуецца далекі гоман-выкрыкі).

**3**-я дзяўчына
Чакайце, што гэта за крык?

**1**-я дзяўчына
Бяжыць, здаецца, хтосьці?

**3**-я дзяўчына (перапалохаўшыся
Слуга! Дзяўчаты, уцякаць.

4-я дзяўчына
Горай будзе...

**3**-я дзяўчына
Горай... паломіць нашы косьці...
Як хочаце...
(Мкнецца бегчы, але яе затрымлівае панскі слуга, які прыбег, каб папярэдзіць Людовіка)

**П**анскі слуга (да дзяўчат)
Чаго, за панствам выглядаць?
Дык дзе, ў якім баку?..
Тут справа не да кпінаў.
Хутчэй кажэце!
(Трасе бізуном)

Дзяўчаты
Ня бачылі, мы толькі тут хвіліну...

**П**анскі слуга (гронічна)
Ня бачылі... Хвіліну...
(Сурова)
Ён тут даўно гуляе.
Кажэце! Бо зараз кінеце свой кут,
і ў сьвет шырокі з торбамі...
(Да 1-й дзяўчыны)
Дзе пан, цябе пытаю?
(Імкнецца яе ўдарыць бізуном)

* *
*

(Убягае Ігнат, ён гнаўся за ім)

**І**гнат (да панскага слугі)
Наважыўся ўцякаць?
(Гукае ў той бок, адкуль прыбег)
Гэй, хлопцы, ці-вун тут!..
(Да панскага слугі)
Ты што надумаў, да пана іх?
Скаціна!
Апошні раз зірні на шумны сьвет...
Агонь палац глытае, табе трэба дзяўчына?
Да споведзі мо‘ хочаш?

**С**луга (хапаецца за рукі Ігната)
Пусьці, браток...

**І**гнат (злосна)
Ні слова, гад...

**Д**зяўчаты
Што здарылася?

**І**гнат (цьвёрда)
Воля загуляла!
(Убягае грамада паўстанцаў)

**1**-шы хлапец (паказваючы на панскага слугу)
Давай яго сюды, мы зладзім самі з ім!

**2**-гі хлапец
Хоць і муры, а полымя гуляе!...

**3-**ці хлапец
Як хмара, сунецца навалай чорны дым.

**І**гнат (да панскага слугі)
Дзе пан?

**П**анскі слуга (мякка)
Ня ведаю, куды яго загнала...

**Х**лопцы
Забіць прыхвосьніка! Забіць!
(Уваходзяць стрывожаныя Людовік і Марына)

**Л**юдовік
Што тут за дзікі крык?

**П**анскі слуга
(схаваўся за Людовіка і з-за сьпіны яго)
О, пан, та псярня ўзбунтавала.

**І**гнат
Паўстаў нявольнік твой, мужык!

**Л**юдовік
Салдаты дзе?

**П**анскі слуга
Ня ведаю...

**І**гнат (паказаў хлапцом на панскага слугу)
Бяры яго!

**Л**юдовік
(даў крок уперад і яшчэ захацеў пакарыстацца сваім загадам)
Дамоў!.. Хутчэй!

**І**гнат
(падышоўшы да Людовіка)
Над намі ты ўжо не ўладар!
(Хлопцы хватаюць Людовіка і Марыну)

**І**гнат
Пусьці яго, хай гляне, як агонь гуляе.
Вы — слугі мне, і як?

**І**гнат

Я — твой слуга і на цябе вайною,
хадзем, хто зможа!
(Ігнат цягне яго на сярэдзіну)

**М**арына

О, божа, зьлітуйся!

**Х**лопцы

— Забіць яго! — Чаго там! — Э-эй!..
— Забіць! У агонь!
— У балота!
— Сьмерць!
З шумам гоманам хватаюць. паноў. Гасьне сьвет. Ціш. Зноў чуцен голас-кліч.

Б‘юць званы новых дзён!
Гэй, бедната, слухай!

Праз верхавіньне відаць палосы вогнішча: гарыць палац. Чуецца баявая, што раз то ўсё больш гучна, родная песьня працоўных — „Паўстань пракляцьцем катаваны!."

1924 г.

# БАЛЬШАВІК БАХРЫМ

Бежать в бою с поста —
позор для коммуниста!
Но стоит говорить
и о чужой вине.
Что тут произошло?

А. Безыменский



АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

1
Мароз, як звон! Як шчоз — калючы сівер!
Бракуе сонцу сіл зямлю каб абагрэць.
Праменьні валяцца, як быццам зьліткам медзь,
пад час калоцяцца, як цені, палахліва.

Як сіні лёд, халодны неба колер.
(Ды неба скована, як скован сьцюжай дол...)
З высокіх дымароў, бы ў моры ледакол,
фабрычны дым сабе дарогу коле.

Шугай! Плыві! Сьмялей! Умей змагацца!
Чым большы дым, тым радасьць агнявей.
Шугае дым? — Фабрычны штурм жыве!
Жыве фабрычны штурм? — Жызе краіна працы!

Зіма... Зіма!.. А рух такі руплівы!
Штурзуе кроў, нібы электраток.
Жыцьцё людзкое ня стрымае ні на крок, —
мароз, як звон! Як шчоз — калючы сівер!

А маладым — хоць што!.. Асьнежаныя ўзоры...
На лыжах — гонка! Звонка-гучны ўздым!
Глядзіць Лявон Рыгоравіч Бахрым
і процілегласьць фарб у думках ставіць поруч.

Ён непадобным стаў. Якая пераменаі
Ня так стары, як старыць сівізна.
Няўжо бяда? Няўжо адна яна
змушае стаць прад сьмерцю на калена?

Прад сьмерцю, так! Бо хто таму дасьць веры,
каб барацьбіт, выдатны комуніст,
згніваў, бы ўвосень жоўты ліст,
заплёваны прахожымі на сквэры?

Прычына ёсьць. Яна, як цьверды камень,
што лёг на сэрца мёрзлае зямлі...
Як птушкі ў вырай, думкі так плылі,
і твар каробіуся ў абоймах разважаньняў...

— Краіна Беларусь, — была яна нязнанай
стагодзьдзі доўгія ў гісторыі людзкой.
Як водгульле лясоў, уздыме голас свой
і гінуў ён, заглушаны, загнаны!..

Цяпер — рэспубліка. Гарыць жыцьцём інакшым,
сягае ўперад з славай заваёў!
З якою радасьцю сагнем жыцьцё сваё
ў імя вялікай будучыні нашай...

Такой развагаю захопліваўся часта
Лявон Рыгоравіч (выдатны чалавек!),
Каб атрымаць вясёлкавы эфэкт,
ён карыстаўся мэтодам контрасту.

Захоўваў веру ў будучыню гэту,
і ён спаткаў яе. Галоўнае адно,
што ён заўсёды дум сваіх старно
не пакідаў бяз ясна-ўпартай мэты.

2

— Відаць абрыдзела табе мая гаворка?
А добра, што спаткаліся з табой.
Душу адвёў... На сэрцы гэтак горка...
Дасада чортава... Хадзіў, як сам ня свой.

Пытаньні часта ставіў я бывала:
За што? Прычына дзе? Адкуль уся навала?

Ідзеш. Зьнішчаеш перашкоды.
Каб дасягнуць свайго, жыцьцё гатоў аддаць.
Над кручаю стаяў... Прайшлі змаганьня годы.
І раптам так бясспраўна дагараць.

Няма падстаў зьбіваць мяне каменьнем.
Маё, як вока, чыстае сумленьне.

Ты малады яшчэ. Табе мая парада:
ніколі ня злучай каханьня з барацьбой.

Страшнейшай крыўдаю бывае — толькі здрада.
Прысуд падобны сьмерці — быць не з грамадой.

Заблытаны клубок. Прыблізіцца разьвязка
і будзе вораг наш зубамі сьмерці ляскаць...

— Лявон Рыгоравіч, ня будзе так ніколі!
Ня можа гэтак быць. Патрэбны вы для нас!...
— Ня шкодны я, то праўда. Нават болей,
я чую, што змагу карысным быць ня раз.

Каб толькі партыю, каб толькі ўсю краіну
пераканаць, — што я ня хцівец, не злачынец.

— Ну, вышла так. А вывад тут выразны:
ваш абавязак, як бальшавіка,
спакойна і выключна падрабязна
заяву напісаць, пасланы у ЦКК,

— Я думаў сам. Пісаў было аднойчы.
Але дванаццать год, як я ўжо не рабочы...

— „Заяву там — разгледзяць як найбліжай.
Зьмяняе ўсё жыцьця нястрымны бег...
Лявон Рыгоравіч, хадзем сягаць на лыжах!
Мароз — агонь. А сьнег, прывабны сьнег!

— Не. Дзякую. Хіба друтім мо‘ разам...
— Бывай, Рыгоравіч. Заява — абавязак!

## Ліст у ЦКК

Патрэбных некалькі даведак дам спачатку,
каб не варочацца да дробных фактаў зноў.
Пачну традыцыяй анкетнага парадку:
адкуль я, хто, становішча бацькоў...[1])

Сам віленчанін я. Цяпер мне трыццаць пяты.
Бацька мой — сталяр. У Вільні і цяпер.
Жылося нам? Што-дня над нашай хатай
зубамі ляскаў голад, быццам зьвер.

[1]) Дакуманты пацьвердзяць праўду гэтых слоў.

Заробак бацькі быў, мо‘ аднаму хапала-б.
Сям‘я-ж вялікая. Што чалавек — то рот.
І маці без пары здароўе падрывала
ў тлуме вечна-злыбедных клапот.

Вось гэтак беглі дні. Павырасталі дзеці, —
лягчэй бацьком і дзецям весялей.
На страшным стаў зімой халодны вецер,
альбо набег разьюшаных завей.

Цяжэй было на працу дзе прабіцца.
Прайшло і тут: монцёрам стаў мой брат.
Служыць і я пайшоў. За звычай стаў — хіліцца
і потым абліваць халодны свой варштат.

Ня буду гаварыць наконт жыцьця рабочых,
пра ўціск, эксплёатацыю, правы.
Было адно: служы, трывай. Ня хочаш? —
вышэй травы — ня ўздымеш галавы.

*

Працуй, трывай... І раптам рух шалёны.
Як гулам падзямельным — навіна.
Мобілізацыя. Формуюць эшалёны.
На фронт.
Вайна.

І мой прызваны год. Пакінуў жонку Ванду.
(Сярод чужых з дзіцём малым адна).
Малебен, а затым пад выкрыкі команды —
на палігон.
Вайна.

Агонь і дым. Равуць-гручаць гарматы.
Сьвіргочуць кулі, стогне цаліна.
І веру і цара скубаць акопным матам
салдата ўшчуньвала —
вайна.

Сьціхае бой. Прытуліць сэрца крыўду,
як маладых салдат пяшчаная труна.

Заціхне бой, адслужыць паніхіду
губамі наймітаў —
вайна.

і выюць зноў атрутныя гарматы,
як-бы няспынныя раскаты пяруна.
І часта нам: — За што? Таварышы! Салдаты!
Пытаньне ставіла —
вайна.

За што, таварышы! Пара спынідь навалу!
Якая танная людзкой крыві цана!
„Салдацкай праўдаю" на новы шлях гукала
салдат замучаных —
вайна.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшла пара сьвінца.
Яшчэ скажу — прытым
з пачатку й да канца
быў толькі радавым.

*

Прышоў дамоў... Інакшай стала Вільня.
Запанаваў нямецкі гарнізон.
Жыцьцё сям‘ю спаткала няпрыхільна...
Памёр мой сын. Лягло адразу шчыльна
на грудзі гора мне, як люты чорназгон.

Але стрываў усё, хоць данімала гора.
Прадаць — няма чаго, апроч уласных рук.
Бяз працы прападаў. Пры бровары ў конторы
дастала службу жонка. А ўжо скора, скора
чакалі зьмен і ў нас. Сьмялеў рабочы рух.

На Ўсходзе сонца ўсход ніколі не заслоніш!
Пасьля дажджу заўжды растуць грыбы...
Наведваць стаў рабочы клюб на Вроні.
Падзеі рэволюцыі ўсё больш і болып палоняць,
я стаў удзельнікам падпольнай барацьбы.

Ускалыхнуўся люд. Займае Вільню Воля!..
... Старно гісторыі зьвярнула ад крыві.
Мяне таварышы пакінулі ў падпольлі.
І канчаткова я у гэтай цяжкай школе
загартаваў сябе, як цьвёрды бальшавік.

Дваццаты год. І Вільня зноў вітае
пару легальнага жыцьця бальшавіка.
— Даёш Варшаву! Уперад. Наступаем!
Па згодзе партыі пайшоў я ў корпус Гая,
з вінтоўкай трохлінейнаю ў руках...

З тых пор у арміі служыў я пяць з паловай,
быў ваянкомам Н-скага палка.
У дваццаць шостым годзе дэмобілізован.
Прыехаў повен сіл для нрацы творчай, новай —
пад загад ЦК.

*

Я на новым месцы, ў новым атачэньні,
хоць адны задачы, хоць адны імкненьні.
Першым што зрабіў я — напісаў загад:
скараціць распухшы канцэлярскі штат,
зьменшыць лік комісій, еходаў, пасяджэньняў,
разам з тым і лішні папяровы чад[1]).

І адразу крута
гутаркі пад бокам:
— „Палка перагнута"...
Пачалася склока.

Не для ўвасхваленьня, а скажу сумленна,
я дабіўся ў трэсьце поўнай перамены.
Кроў байца заўсёды — баявая кроў.
Што здабыта — квіта! Не саступіць зноўі
І трымаў фронт моцна. Поруч з тым штодзенна
вывучаў дарогі новых заваёў,..

-------------
Не хацеў, прасіўся, але як ні лез там,
быў накіраваны старшынёю трэсту.

Жонка за мяжою,
і было між намі
тое, што парою
зьменімся лістамі.

Выйшла і цяпер так: паштальлён прынёс там
ліст ад жонкі з Вільні, і, як праўда, просты:
— „Гаравала, думала, пройдзе ўсё... Дарма.
У Менск хачу, ратунку іншага няма.
Данімае голад, захлынае ростань.
Ня стрываю, цяжка. Ня жыцьцё — турма".

Не цягнуў я доўга,
ў той-жа дзень адразу
выслаў на дарогу.
— Папрацуем разам.

Так спаткаў яе, і думаў — хай спачне,
азнаёміцца з савецкаю краінай.
Погляд хай акрэпне, выбера мішэнь,
а затым нагрузку — за наступны дзень.
Зараз, як успомню, кроў у жылах — стыне.
Крыўда, сілай здрады, сэрца мне грызе...

Дзе ні ступіш крокам, —
тчэ сабе, варушыць
павуціньне склокі
павучок — чынуша.

Помню, сход партыйны. Білі адмыслова
па акопах склокі жорстка так, сурова.
Дырэктыва сходу — для мяне загад:
скараціць нягодных, скласьці новы штат...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ідучы з ячэйкі я быў... арыштован.
З павуціньня склокі ў павуціньне крат

Служба? — Усё ў парадку.
Дома? Ну, тым болей.
Разьвязаць загадку
сам — ня змог ніколі.

Так ня знаў прычыны, толькo ўжо на нарах
добра я дазнаўся, чым тлумачыць арышт.
Мой партфэль укралі... Там лісты ЦК,
узаконены сакрэт бальшавіка.
— Што? Партфэль быў дома... Як-жа так, таварыш?
Што? Няўжо тут жонка? Жончына рука?

Так, работы Ванды.
О, спакуснасьць грошай.
— Не адна, тут банда
пад камандай Польшчы.

З партыяй — разлучаны.
Цяжкая разлука!
З тых часоў атручаны,
сам ня свой.
О, няўжо, сапраўды гэткі блізарукі,
што ня змог варожы адгадаць настрой?

*

Пятнаццаць дзён сядзеў. Жыцьцёвы зьверыў шлях там
і пройдзены мой шлях заве гарэць ярчэй!
Няхай трагэдыя... Але трымайся шляхта,
за пераможны залп — спаткаемся яшчэ!

Адно прыемна мне, што прэмію за здраду
не атрымала провокатара рука.
Перастраляла ўсіх савецкая засада
сіплым выкрыкам ударніка-курка.

Балюча... Выйшла так, што я больш ня прыгодны
для будаўніцтва, ўпартай барацьбы.
Вось год мінуў... Снуюся, як бязродны,
хоць добра ведаю — так не павінна быць.

Ня злоснай воляю... А шляхам провокацый.
я выкінут сучаснасьцю за плот.
Няўжо здабытак шматгадовай працы
здалеў згубіць за гэты глумны год?

Я не з такіх — „мая, бач, хата з краю",
я не растраціў сілі Хоць часам і кране,
глыбока так, за сэрца боль глухая
і моцна крыўдаю ударыць па струне...

Не пашкадуйце час... Прашу разгледзець справу,
забраць назад мяне ў партыйныя рады.
Прашу настойліва, канчаючы заяву, —
вярнуць мне зноў ранейшы мой уздым.

P. S. І заадно скажу, каб разьвязаць вузлы,
пакарчаваць няяснасьцяў карэньні,
ці ў будучым змагу папасьці пад уплыў
маёй радні, што ў панскім атачэньні?

Кар‘ера жончына — вядома. А далей,
памерла маці... Адыйшла дачасна...
А што пад старасьць атрымала ад дзяцей?
— Павырасталі, кінулі няшчаснай.

Мой брат? Скруціў яго іржавы дрот бяды,
на катарзе ў бязьлітаснай Пазнані.
Ён старшынёю быў раённай „Грамады",
а раз грамадавец — напэўна катаржанін.

Застаўся толькі бацька. Гне сваю сьпіну.
Габлюе труны, час свой дажывае...
Але сабе яшчэ — ну хоць адну труну,
ў якой ён шляхціча дачасна пахавае!

3

Мароз, як звон. Як шчоз — калючы сівер!
Бракуе сонцу сіл зямлю каб абагрэць.
Праменьні валяцца, як быццам зьліткам медзь,
дрыжаць-калоцяцца, як цені, палахліва.

Зіма, зіма! Суровая такая!
Але ня страшны рост заледзянелых крат;
усьлед за шахам — блізіцца і мат,
замкі зімы — прадвесьня адмыкае.

Пакуль вясна, дык маразы сягоньня
пад сорак градусаў, прытым яшчэ вятры...
Бяжыць Лявон Рыгоравіч Бахрым,
ці то ад холаду, ці нехта яго гоніць...

— Лявон Рыгоравіч, куды-ж вы так рухава?
Здароў. Ну, што чутно? Мо‘ добра, што спаткаў?
— „Ня дрэнна. Атрымаў я позву з ЦКК,
у партколегіі сягоньня мая справа.

Сьпяшаюся. Пайду. Мар-роз... І рупна гэтак,
стаптаны сьнег нэрвова так хрушчыць.
А ў сэрцы цепліцца і глуха шалясьціць
надзея сьветлая — вярнуцца з партбілетам.

———

Злачынец ён, ці не? Ці праўда гэтых слоў?
Ці шкодны ён? Ці мае права зноў
вярнуцца ў шэрагі ваяк-бальшавікоў.

Люты, 1929 г.

# Цені
# на
# сонцы

Это очень плевое дело,
если-б революция захотела
со счетов особых отделов
э т у м е л о ч ь
списать в расход
В. Маяковский

Андрэй Александровіч

## У С Т У П

Як ня славіць песьняй сакалінай,
Беларусь — рэспубліку сваю!
Краіна, родная, Савецкая краіна, —
табе я ў песьнях сэрца аддаю.
Ты красуеш ростам рыштаваньняў,
творчай працай гартаваных сіл.
Ты ў агні шчасьлівага сьвітаньня
быццам раніцай
                на ўсходзе небасхіл.

Краіна, родная! Савецкая краіна!
Б‘юць паклон табе, як сонцу, нашы дні, —
б‘юць паклон і славу ткуць машыны
непарарыўнай працай шасьцярні!
О, сонца, зьвязывай у моцны вузел хмары!
Красуй, жыцьцё рунеючай зямлі!
Сусьвет ахвачан сонечным пажарам
хоць і пад сонца
                        цені падпаўзьлі...

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### 1

Адзін быў з Меншчыны,
качаўся тут, узрос,
і тут узгадаваў свае імкненьні.
Ня раз, на беразе прылёгшы ў вербалоз,
пярсьцёнкамі ўзьвіваў ён лятуценьні.
Гады імчаліся,
як хвалі на рацэ.
Прышла вайна.
Забралі.
Абучылі.
Глядзі — ўслужыўся ён,
стаў унтэр-афіцэр
і брыль на сонцы,
нос на небасхіле!
А кліч разносіцца:
— Таварыш, кідай фронт!
— Далоў вайну!
— Далоў людзкое гора!
...Уцёк на Поўдзень ён,
і генэрал-барон
яму даў новы чын,
даў пару новых шпораў...
Цяпер... паголены.
І тут ня сонца-жар.
Жыве, як спэц.
Так водзіцца ўжо гэтак:
учора —
        генэрал-барона сэкратар,
а сёньня —
        консультантам у Саветаў...

2

Другі гэрой...
Няма тае дарогі,
дзе не рассыпаў-бы імкненьні ён свае.
— „Ну, што зрабіць, каб стаць бліжэй да бога?
Маліцца? — Мала, часу не стае"...
Але рашыў. І, змрочнасьцю пакрыты,
у манастыр пайшоў, схіліўшы галаву:
— „Быць ня быць! Дадуць архімандрыта,
не, ідрытваю, іначай зажыву..."
І не далі. І ён зажыў іначай.
І не спазнаць праз тыдзень альбо два:
мову вывучыў; стаў езьдзіць, як дакладчык,
рваць карані, пусьціла што царква.
Калісьці сам быў старастам царкоўным.
(Ці-ж мала пуцявін у наш дваццаты век?)
Ён знае, дзе й каму зьняць шапку, —
бязумоўна —
ён бывалы, спрытны чалавек!
Барада адна — архімандрыта варта,
таму мо‘ й вылучэнцам стаў, як на бяду.
І гляньце — сёньня ён дырэктар не на жарты...
— Фрэнч далоў! Падайце мне сурдут!

3

Лагодна жыць! Як ня любіць сваяцтва?
Адным ён сват, другім шаноўны кум.
А зяць яго! О, зяць —
мастацтва для мастацтва,
збавеньне ў пекнаце,
цудоўны персьцень дум.
Сваяцтву гімн.
Яно гняздо зьвівае,
гняздо прытульнае,
як птушанькам вясна.
І кум і зяць і ўсіх знаёмых зграя —
орыентацыя, даходная, адна.
Славуты кум, дарогай камяністай
да славы ідучы, ня раз зьмяняў свой грым;
ён земгусарам быў,
чыноўнікам,
міністрам
у Скарападзкага па справам нутраным.
Прагналі з Кіева, і зяць зазваў у Прагу.
Бяз дзейнасьці — ніяк ня можа быць:
зьявіўся ў Вільню ўжо, і там, нібы з адвагай,
ён прагнуў памагчы ў хвіліны барацьбы.
І першы крок:
— Браты!
(здымае акуляры...)
— Гатоў вагонамі вам кнігі дастаўляць,
але мне дайце тысяч сто доляраў —
пасунем справу! Будзем працаваць!
І не далі. Зьдзівіліся — і толькі!
Пануры ў Прагу выехаў назад...

Міргнуў у полі явар адзінокі,
і засьмяялася ля возера лаза.
Абодва ў нас цяпер,
на „бальшавіцкіх крэсах",
зьмянілі гальштукі, дый што далей казаць:
чудэсны кум чырвоны стаў профэсар,
портфэль выдатнасьці набыў цудоўны зяць.

4

І пяты друг: адкормлены случак.
Вочы вострыя, як быццам, гіцлі ў шафе.
Сваяцтва зноў:
дырэктару — сваяк,
кум — куму,
а консультанту — шафер.
Біць паклон
прывык ён з даўных дзён.
І знаць ні знаць,
а слухаць пад дзьвярыма.
Было ён першы рынуўся на фронт,
на абарону —
„Единой неделимой".
і незадоўга Карскага портфэль
і рэчы іншыя усьлед за Карскім носіць.
... Зайшлася-закруціла карусэль —
здаць позыцыі бяз бою давялося!
Зьмяніўся час!...
О, доля перамені
Дый што зрабіць, прышлося пагадзіцца!
Сёньня ўжо, дзівіцца, ён доцэнт!
Сваятцтву гімн!
Няма чаму дзівіцца!

5

Ня ў гэтым рэч, што сын ён іерэя,
ня ў гэтым рэч, што сам абшарнік быў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Папаў зьнянацку ён пад посьвісты завеяў,
зьнянацку сьціснуты ў абоймы барацьбы!
А высунуўся — (ўласная упартасьць!)
З людзкое гушчы ў страшную часіну
і стаў, як сын пакорлівы, на варту
бараніць — фальварак і краіну.
Бунтаўшчыкоў ён
(першы нункт програмы)
растрэльваў
з кайзаравай зброі.
Пра вернасьць Кайзару
аддана
тэлеграму
падпісываў крываваю рукою.
Трымаўся сам,
трымаўся і фальварак.
(Краіна змучана іржою крат і нар...)
Як слаўна роль ішла прэм‘ер-вэтэрынара,
у вернасьць слова — бой-вэтэрынар!

Ня ў гэтым рэч, што часта так гасьціла
яснавяльможная княгіня Радзівіла
і гаспадар, — прэм‘ер-вэтэрынар,
у бляску гонара вітаў княгіню мар.
Яна-ж дапамагла і „праўдаю і верай"
вэтэрынару выбрацца ў прэм‘еры.

Былі часы, былі законы.
Была і рада, быў і ўрад.
Кайзар думае,  вэтэрынар з паклонам:
— Мала сродкаў? Дамо загад!

І ўсё-ж ня ў гэтым рэч.
— Было?
— Зьвялося!
Няхай гісторыкі-марксысты разьбяруць.
А ветры лютыя...
Імглой стагнала восень.
Як чэрві, твар зямлі
калыбы хмар грызуць.

Сука шызая княгіні Радзівілы —
радзіла шызых трох шчанят.
Сялянка іх дагледжвала, туліла,
хоць сэрца плакала,
як плача поле ў град.

Сваё дзіцё ад недагляду сохла,
удзень дзіцё сваё і ўгледзіць не магла,
а тут шчанят глядзі...
        Адно назаўтра здохла, —
і сьмерць шчанка,
жанчыне сьмерць зьвіла.

— „О, рукі хамскія. Ніжэй схіляйце карак!..."
Княгіня выгнала сялянку у бядзе,
адразу вызваўшы прэм‘ер-вэтэрынара
за шчанятамі і сучкай даглядзець.

— „О, ня прымаць яе! Хто прыме — прэч за ёю!".
А ноч сьцюдзёная... Яна і не адна,
з дачкой маленькаю, гаротнай сіратою.
Ім сьвет цяпер? — Пяшчаная труна!

Бясьсільлем кроў пакрыўджаная стыне.
— ...Ідзеце ножанькі жабрачыць пад царкву...
Бо хто асьмеліцца ўладарніцы-княгіні
ня схіліць з пакорай галаву?

Шчанё аплакалі і блізка ля тэрасы
вырас кветкамі асыпаны курган...
А ў полі восеньскім крылаўся-віўся ласа —
над уміраючай сялянкаю груган.

Наступным днём прэм‘ер праездам бачыў,
як маці мёртвую хацела ажывіць —
і пацалункамі, і ласкамі, і плачам
сірата сялянскае крыві.

Падбегла ўбачыўшы жывога чалавека,
як ліст калоціцца, працягвае руку.
Ён адагнаў яе адным ударам стэка,
як кат, скрывавіўшы дзяціную шчаку...

6

Капейку да капейкі,
глядзіш — сабраў рубель.
Ня скрыпку ці жалейку
купляем мы сабе.

Імкнемся ў родным краі
старое сьцяць ушчэнт.
Начыньне мы купляем,
купляем мы цэмэнт!

Мы ўводзім рыштаваньні-
працоўнай сілы шмат.
Але адно, як глянеш, —
ці-ж мала ў нас растрат?

А колькі хлебаедаў,
на карку ў нас сядзяць?
— А ўсе свае патрэбы
мы самі зможам сьцяць?

Эх, людзі, людзі-п‘яўкі, —
іх спэцыяльны штат.
Даем мы ім спэцстаўкі,
узвышаны аклад.

— Таварышы, браточкі,
сястрыцы вы мае!
Яшчэ-ж нам на сарочкі
паркалю не стае.

Капейкі дарагія
зьбіраем мы адны,
а з іх жывуць былыя
праклятыя чыны.

І хочацца часьценька
каб ценяў гэтых — жуць —
узяць і колкім венікам
страхнуць-бы, страсануць!

7

Ідзем наперад мы, і цені з намі йдуць.
Мы карчуем пні —
яны ў кустох прылеглі.
Ну, а дай спаткаць нам ворага-бяду,
адыйшлі-б адразу.
Ой, адразу-б зьбеглі!..

І як хораша было-б яно цяпер!
О, як хораша было-б краіне нашай!
Я ад сэрца, шчыра, напісаў-бы верш,
яго назваўшы скромна —
урачыстым маршам.

Руку таварыша, як любы свой багнэт,
сьціснуў моцна! Радасьцю я зрушан!
— Наіўнасьць шчырая,
яны —
        жывуць як сьлед,
жывуць, прыкрыўшыся
савецкім дабрадушшам..

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### 1

Рынуўся лёд. Затрашчэлі масты.
Крыга за крыгай — навала.
Рушыцца-крышыцца бераг круты,
быццам прыморскія скалы.
Сонца сваім прамяністым ключом
радасьць зямлі адамкнула.
Рвуцца ручайкі, імчацца наўзлом-
красавіковым гулам.

2

У браме, ад зор і да зор,
сядзіць чорнамазы айсор,
і чотка
на скрынцы, „чачотку"
пе-ра-бі-ра-е
                шчоткай:
— час кароткі
мы жывём.
Падыходзь, не эканом!
Гэй, таварыш, за два злоты
бліснуць боты
пазалотай.

Гэй, прахожы,
блізкі, дальні —
глянс наводжу
дасканальна.
Даваеннай
аксаміткай, —
проф-саюзам
                скідка!

3

Шырокая вуліца, гоман вясновы.
Зьвіняць на каменьнях
праменьняў
падковы.

Сыплюцца іскры, як быццам з ракеты,
бульвары аздобіўшы срэбраным цьветам.

А вецер напружана зрэбнаю хусткай —
трэ няпісьменнасьць рэклям беларускіх.

Шырокая вуліца... Колькі народу!
Рэкордная схватка разьюшанай моды...

Народу нэбралася — проста ня зьлічыш,
сэзон перадімайскі, фасон заграні́чны.

Купаецца ў хвалях жывой акварэлі
між кепак савецкіх — замежных капэлюш.

4

І да айсора пачысьціць камашы
з фотографам-другам
поэт падышоў.
(Ідэолёгія — ваша і наша,
нашы і вашы фарбы слоў).
Замежны капэлюш — поэт няпрызнаны,
знатнага дзеяча — хвалены зяць.
З фотографам-другам, другам адданым,
любіў сустракацца, любіў сэймаваць.
Аднойчы казаў ён, — радзіма краіна
марудна расьце, як і сам беларус.
Фотограф даводзіў, — што мы — бязупынна
ўзьбіраемся вышай, што крок — у гару!
Наша краіна ідзе з перамогай,
яе не пазнаеш праз год альбо два.
О, гэта ўяўленьне! Ня хутка бярлогам
прыдуць на зьмену часы хараства.
І толькі збавеньне ў цудоўных пякнотах!..
Па-мойму, дык іншае зьменіць прастор.
І іншае гэта — індустрыі ўзьлёты;
паверце, я-ж рэпорцёр!
Паверце і мне, гэта толькі крык
і прывабкы такі, як вясеньні.
Ня веру я ў сілу савецкіх пазык,
гэта толькі адно захапленьне...
Паглядвае скоса, дый зьдзіўлена гэтак,
за працай сваёй чорнамазы айсор.
Паглядвае скоса айсор на поэта,
усьмешку ў айсора будзіў рэпорцёр.

5

І тут-жа ў браме
звоніць нажамі
вітае прадвесьню
вытворчая песьня:
— Сып, бяжы,
ўгару,
угрунь.
Вастру
нажы.
Нажы вастру.
Гэй, жар, брусок,
яшчэ разок,
яшчэ разок, —
блішчыць лязо!
Ўгару,
угрунь
бяжы,
ляці,
— Чые нажы?
Плаці!

6

І зяць надумаў свой сьцізорык навастрыць,
ажно заўважыў — ля цукерні —
цесьць яго стаіць.

Праменьні ўюцца ў цёмна-рыжай барадзе...
Стаіць захоплены, на дзіва для людзей,
ля вітрын цукерні,
расчыніўшы рот,
дый гадае-думае,
які тут лепшы торт?

Поэт з фотографам
да цесьця падыйшлі,
у трох стаяць; мяркуюцца
і спрэчку завялі;
адным фруктовы торт,
цукровы для другіх,
стаяць каля цукерні,
спрачаюцца ўтраіх.

І тут-жа песьню ціхую
заводзіць комэрсант,
яго вясна ня радуе,
ня радуе краса:

— Дый на сто адсоткаў
мы жывем дарма.
Згінуў заработак,
ой, няма. няма

Усяго патроху
ўсё-ткі магазын.

Гальштук ці панчоху
збыць-бы на пачын.

Хоць рубля на цуда
мела-бы рука.
Як ні глянь, усюды —
толькі ЦРК.

Што-ж, браточкі, будзе?
Што гэта рабіць?
Пэўна мы ня людзі,
і ня трэ нам жыць?

Узрывай, паводка,
гэткі лёс тарчма!
Згінуў заработак,
ой, няма, няма...

А горад крынічыць
абуджаным гулам.
Народу ня зьлічыш,
ня злічыш прагулаў.

О, як цудоўна!.. Поэзія славы!
Портфэль у левай,
а торт у правай...

На спацары з цесьцем
і зяць
І фотограф,
пад сонцам,
па бруку.
Як вольна,
як добра!

7

Былі-жылі на сьвеце два браты,
жылі ня ў роскашы, ня ў веях пекнаты.
Як дзень і ноч, зьнікаў за годам год,
адзін разумны стаў, другі наадварот.

Адзін да працы звык і ў тыя злыя дні
ён з першых раздуваў рэвалюцыйны зьніч.
І не шкадуючы юнацкай галавы,
дабраахвотна стаў армейцам радавым.
Цяпер на фабрыцы, каля варштату зноў...

Другі — валондаўся што-вечар па кіно,
і стаў пажарным (каб у армію ня йсьці,
адно выгоднае знайшлося што ў жыцьці!)

А там і фотографіяй займацца ён пачаў,
калі сьціхалі буры, віхор калі сьціхаў.
Але жыцьцё мяняецца, і ўжо ня так даўно
фотограф шле нататкі ў газэту пра кіно.
Пашла пісаць губэрнія! Выдатны рэпорцёр...
„Голубая кофточка, веселый разговор"...

І дзівіць дзіва дзіўнае, як піша Ясакар, —
нізкая якасьць, высокі гонорар.

Кар‘ера на дыбы! Залічаны у штат:
будзь знаём радактару — падвысіцца разрад!

8

Этнограф, — (О, бедная краіна!..)
Па профэсіі, між іншага, хірург...
Ён сёньня змораны —
ну, проста сілы гінуць,
ну, проста ён бяз сіл наводзіць манікюр.
Гады ляцяць, сівеюць бровы.
Калісь было —
бурліла ў жылах кроў.
Калісь было —
адным гарачым словам
ён замяняў звычайных сотню слоў.
Калісь было... Стагналі ў завірусе,
стагнаў народ, як поле ў буйны град.
Калі вазёры сьлёз
расьлі на Беларусі
ён на Украіне быў,
там быў ён — дыплёмат.
І там-жа кума ён сустрэў аднойчы.
Пасяброваліся. І з тых часоў былых,
адным агнём у іх пылаюць вочы,
адным імкненьнем б‘ецца сэрца ў іх.

Цяпер этнограф досьледы праводзіць
над нашай глебаю, над скарбам таямніц,
а ўсё яшчэ і сьледу не знаходзіць
багацьця нашага захованых крыніц.
Але, рэч ведама,
як спэц, амаль адзіны,
ён атрымоўвае з нагрузкаю аклад.
І на‘т яшчэ ўзбагачан новым чынам —

у акадэмікі чацьверты кандыдат.
Казаў начальству ён:
— Вайна хай загрукоча
Чырвонай арміі мы верныя сыны.
І ў грудзі б'е сябе, і хітра жмурыць вочы,
бо ў камізэльцы схована „отсрочка
на два месяца в случае войны"...

Эх, дыплёмат! Эх, бедная краіна,
калі этнографам становіцца хірург...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ён сёньня зморены,
ну, проста сіла гінуць,
ну, проста ён бяз сіл наводзіць манікюр.

9

Над горадам сьцелецца змрочаны шаль,
красавіковы вечар.
Доцэнт і дырэктар да кума на баль
з дамамі едуць, бясспрэчна.

Вязуць падарункі: доцэнт — сэрвіз,
дырэктар — торт ананасны...
На вышку антэны месяц узьвіс,
месяц, як лысіна, ясны...

На выдутых шынах рамізьнік па бруку,
мчыць консультанта да кума.
Ў жонкі ў руках дарагіх падарункаў —
арыгінальны клумак.

Пэнснэ праціраючы вэтэрынар
тузіну нёс пірожных —
і ўсё праклінаў гарадзкі тротуар:
— хадзіць абсолютна няможна!

Запрошан фотограф. Долю сваю
аддаць ён надумаў на дзіва:
узяўшы ў профэсара інтэрв‘ю, —
зьмясьціўшы ў газэце курсывам.

Аванс атрымаўшы пад свой гонорар,
зяць (бязумоўна!) з пашанай
цесьцю нясе залаты парцыгар
з надпісам вершаваным.

А доктар імкнецца пабіць рэкорд:
другу свайму дарагому
вязе ў падарунак сэрвіз і торт
і гульні хлопцу малому.

Сьцішыцца ў горадзе змораны тлум,
трэба й яму адпачынак...
Сёньня профэсар, чудэсны кум,
праўляе свае імяніны.

10

Полымем зор
небасхіл ахвачан.
На вуліцы —
полымя буйных рэклям.
Шчупленькі крытык,
(„Марксысты" няйначай!)
стаіць задуменны
пад шыльдамі крам.
Стаіць і любуецца шыкам вітрыны,
ў вачох праз пэнснэ прабіваецца сум:
ён не запрошаны
на імяніны,
ня ўспомніў пра крытыка хвалены кум.
Стаіць задуменны, ўспаміны крыляцца.
Упёрся плячмі ў тэлеграфны слуп,
і чуе ён словы, чуе зьнянацку,
з дзявочых фарбована-змучаных губ.
Адна падышла:
— Чаго-ж ты самотны?
Пад ручку ўзяла...
Падміргнула...
Пайшоў...
І —
няпрыкметна
ў цьму падваротні
яго прывяла
ўзбунтаваная кроў...

— Ну, ня сьлюняйся, плаці і ня тузай,
чаго заікаешся, печаны гад!
— Мне, б‘ачце, скідку,

я-ж член профсаюзу,
б‘ачце, галёўна, выдаткаў шмат...
— Эх, ты!..
За гальштук хапіла са сьвістам,
сарвала пэнснэ, растаптала шкло.
Ён тупаў, кідаўся, затросься, як ліст той,
Пахаладзеў
і —
ўсё прайшло.

Маланкай да дому прыбег ён сярдзіты,
а ў галаве навальніччы шум.
Скрыўджаны сёньня праслаўлены крытык,
мутная помста зьвівае душу.

Ён не запрошан... А славіў у друку
і лектара-кума, і зяця яго.
Малітву чытаць стаў,
сагнуўшыся крукам,
усхліпвае цьмяны лампадны агонь...

Расіец заўзяты ў расійскім парадзе
выходзіў палякам на польскі парад.
Цяпер беларус пры Савецкай уладзе,
які дабрадушны Савецкі урад.

Крытыкам стаў пролетарскай культуры,
чужы хто — ён „крые", бярэ гонорар.
Знаёмаму — славуў рэспубліцы бурна
стварае філёзоф-ліхвяр.

Час прабягаў... Злосьцю паколаты,
каб забясьпечыць спакойны сон —
дастаў ён з-пад прыпека
скрыначку золата
і любаваў даваенны звон.

Затым падлічыў ён запасы доляраў,
і не вячэраў, бо заўтра на звод —
трэба патраціцца на акуляры:
— Ба‘чце, зусім непрадб‘ачны расход!

Лёг у пярыну і помстаю лютай
рашыў ён за гэткі няведамы зьдзек,
кума пакрыць па традыцыі крута,
каб помніў што крытык —
бой-чалавек!

А не, калі справа ня гэтак паверне,
грошы сабраў, дык чаго бедаваць? —
— Паеду дамоў у Цьвярскую губэрню,
плёвая справа дыяканам стаць!..

11

Асабняк. Закрыты вакяніцы.
Наўкол цьвіце вішнёвы маладняк.
Сюды сабраліся на радасыдь весяліцца,
сюды на радасьці сабралася радня.
Пакоі сьветлыя, прасторныя пакоі...
Радні сабралася дзесяткі, мабыць, тры.
Жанкі вясёлыя з „узвышаным" настроем,
у кожнай кроў румянцамі гарыць.

І ўжо, як водзіцца, заўсёды ў кожным доме
жанкі зьбіраюцца, і кожная, як сьлед,
перабірае фотографіі ў альбоме —
захапляюцца, сустрэўшы свой портрэт.
Гадзіньнік стрэлкі ўгору падганяе,
ударыў „поўнач" звонкі малаток.
Мужчыны ў прэфэранс захоплена іграюць,
другія цешацца ў спакойнае лото.

Сястра доцэнта йграе на роялі.
Прад ёй поэт пакорна стан сагнуў.
У гуках музыкі абодва ўспаміналі
пару юнацкую, шчасьлівую вясну.

Яна спыталася і ціха так, таемна:
— Ты помніш Крым? Цыкады там пяюць...
— Я помню, любая...
— Калі табе прыемна,
твой верш, ён праўда — мой,
табе я прапяю:

На беразе Чорнага мора
Рассыпаў я думкі сузор‘ем.

І як не маліцца прасторам
На беразе Чорнага мора?

Рассыпаў я думкі сузор'ем
І моўчкі стаю ў задуменьні.
Гатоў нават стаць на калені
На беразе Чорнага мора.

І як не маліцца прасторам
Вольніцы сілы і славы?
Штось раптам крыляцца праявы
На беразе Чорнага мора...

А вечар запальвае зоры
У горах высокіх, каменных.
Люблю я стаяць задуменным
На беразе Чорнага мора...

І грамада да поэта адразу:
— Просім вас,
просім,
мы просім вас
разам:

— Продэклямуйце!
— Урывак з поэмы!
— Любім поэзію!
— Ёю жывем мы!

Прыемна гарэць у агні характва...
Поэт бляск вачэй апускае.
Адкашляўся — раз,
Адкашляўся — два
Вынуў blok-not
чытае:

— Жывем мы сям'ёю нязрушнай,
пярсьцёнкам дзівоснага шчасьця.
А ў шчасьце сьвятым дабрадушшам
дзьверы адчынены насьцеж.

Мы — дзеці багатых традыцый,
пакаленьне найлепшага ў сьвеце,

шчасьце агнём бліскавіцы
ўзьвіваецца зайздрасьцю ў сьвеце.

О, мы недаступны, як скалы,
мы ў хвалях сваіх лятуценьняў.
Сагнём-жа, пад звоны бокалаў,
хараство жыцьця на калені!

Ніякай рукою брыдотнай
наша ня сьцяць існаваньне...
Чаму-ж не маліцца пяшчотам —
вянку залатога каханьня?..

— О, як цудоўна!
— Дзівосна!
— Браво!
Абступілі яго навакол...
А імяніньнік, узрушаны славай,
гасьцей
запрашае
за стол.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

1

На небакраі, глыбока-глыбока,
зара-зараніца прыпдюшчыла вока,
скрытнасьцю хітрай, іскрой залатою —
глядзіць на жыцьцё гарадзкое.

Хай гэта вобраз контролю, надзора...
На зьмену зары загараюцца зоры
і бляскам сваім з недасяжнага ўзгор‘я-
сочаць за ходам гісторыі...

Завулкам зялёным
студэнцкая моладзь
раскідвае гоман
вясёлы.

Гуртам-аравай
з песьняю бравай
праходзяць бадзёра —
на славу! —

— Мо‘ пачуеце доцэнта
з неахлюйнасьцю акцэнта?
Ня дзівецеся! Ня трэба!
Ня шукайце слоў ганебных!
Првідзе час — удасканаліць,
як-ні-як і тэрмін далі.

Тэрмін пройдзе ў цьмянай славе,
глянь — доцэнт як трэба стаў,
і ня скажа больш — „панздравіў"
прыгажэй за — „прывітаў".

Многа ў нас такіх зьбярэцца.
Што-ж ты зробіш? Як бяз спэцаў

абыйсьціся?.. Пачакаем.
Спэц, як хлеб. Пара такая.
А доцэнт? Ну, хто ня знае, —
спэц такі, як я кітаец.

З нашай мовы скажа слова...
Брызгне ўхмылкай ішака.
Пару слоў з другое мовы...
...Звоніць — звон без языка.

Як каромысла, на носе
шкло для важнасьці ён носіць.
Па абмылцы, часам, прэса
клічку дасьць яму профэсар.
Раз — профэсар? — Ясна, з мовай
знацца не абавязкова.

Шэсьць казырных — выйгрыш мірны,
а на сем — рыскне і трус.
І доцэнт, як туз казырны,
— Чым паб‘еш казырны туз?

І раптам песьню абарвала,
як струну цымбалаў,
сырэна аўто.

— Хто-ж гэта, хто?
Машына стала.
ЁН пайшоў у асабняк.

— Пэўна куму сваяк?
Аднак
шофэр „зачыніў Fiat",
закурыў замежную цыгару
і даў знак
мінай важнасьці на твары,
што ЁН ледзь-ледзь не дыплёмат.

Сярод гурмы юнацкай
пазнаў адзін, аж надта.
(Калісьці быў на працы
з ледзь-ледзь не дыплёматам).

І расказваў злосна,
злосна і стракатa,
пра прыгоды-дзеі
ледзь не дыплёмата:

— Слухайце!
Сам ён шляхецкай пароды.
Мужыцкаю працай
жыў доўгія годы.
Цягаўся за межамі
ў часе змаганьня.
Супроць нас трымаў,
як сьмерць нашу, камень.
Толку ўсё-ж мала:
заводзіць ён гандаль,
організуючы штаб
                    контрабанды.

Праз час, незадоўга,
ён тут, сярод нас —
пераніцованы
ў нашынскі бляск.
Сьпярша —
              рэгістратар.
Затым —
          дзелавод.
Дав-вай,
               кар‘ера,
               поўны ход!

*

Раён, затым акруга...
Ледзь-ледзь не дыплёмат —
на курсы выяжджае
ў славуты Ленінград.

Вярнуўся ён, як крытык,
а крытык — чорта два.
Што чалавек — то плечы,
на плечах — галава,

Расьце, расьце поэзія,
а крытыкі няма.
Таму і хлеб харошы,
і слава задарма.

Поэта-раманіста
(пайшла такая мода!)
аблае мешчанінам,
злачынцам зробіць шкодным...

...Зірнула сонца яснае
ў ягонае акенца,
і — ён пралез у шэрагі
савецкіх вылучэнцаў.

Амэрыкан-кар‘ера!
Партмаксымум!
Fiat!

І выкшталцоны шляхціц
ледзь-ледзь не дыплёмат.
А ўсё-ткі
і портфэль,
    і тон,
    і партбілет, —
пралаза, ветрам шыты,
спрытны прайдзісьвет!

А ў кума імяніны,
і слухае зямля —
грузінскую лезгінку,
малітву Шаміля.

Стаіць Fiat-машына,
і слухае шофэр,
а ў сэрцы гнеў бунтуецца,
нібы палонны зьвер!

— Лілі мы кроў, змагаліся,
за што? — І сам ня знае.
— Буржуазію выгналі,
дык новая ўзрастае?..

А з вечарынкі чуецца:
— Будуем новы быт!
„Лявоніху" — „Лявоніху"-
мясцовы колёрыт...
А зоры,
зоры,
зоры,
і месяц
заадно —
шофэра угаварваюць
у бок зьвярнуць старно.
І кіраваць машынаю
гартованай рукой —
у новы, і рашучы,
І хай астатні
бой!

2

Двурогі месяц зваў на сход
брыгады зор ударных.
Парадак дню: праверыць ход
спаборніцтва ў надхмар‘і.

А шустры зорны маладняк
у хвалях змроку мутных
на „вус матае" асабняк,
усіх яго прысутных.

Ліюцца песьні, і „кадрыль"
„Лявоніху" зьмяняе.
Працьвітай уласны стыль —
самабытнасьць краю!

Зор атрад свой сьмех ліе,
іскрыцца над шофэрам:
— Табе, таварыш, мы свае —
мы з лёгкай кавалерыі...

І раптам, ценьню ля аўто,
да кума ў двор стралой,
схаваўшы твар у паліто —
яшчэ адзін герой.

Чакай, герой, ты будзеш наш.
Таемнасьць мы разьвяжам...
— О!. гэта ты, падхалімаж,
ці падхалім, як кажуць.

3

Туманнымі пальцамі хмар
восень лісьце пажоўклае рвала.
Вецер біўся, як хвалі аб скалы,
і імглою бурліўся, як вар.

Няветліва восень прыйшла.
Як краты, сьціскаюць туманы.
Фурманкі дзьве золакам-рана
крануліся разам з сяла.

Паперадзе ўхутаны поп
ў гімназію сына завозіць.
Вучыць, але сэрца ў трывозе:
сына вязе й земляроб.

І ён за свае за правы
трывогу ня мог не расьсеяць.
Тутэйшая наша Расея, —
поп і... гарадавы!

Папоўскі сынок, як друг,
залічаны быў, вядома.
А мусіў вярнуцца дадому
сын земляроба — пастух.

Прыдушаны грудзі зямлі.
Бязьлітасна гойсае восень.
Дарога даўгая... Галосяць
прысады галінамі ліп.

4

Зазвычай, як году ня стане,
з надзеяй вітаюць другі.
Туга ішло навучаньне —
розум нікчэмнай вагі.

Жыцьцё мае тысячы шчылін...
Папоўскаму сыну, як сьлед,
дзьверы шырэй адчынілі
ў сталічны ўнівэрсытэт.

Маліся за здравых і мёртвых,
дзе трэба — схіліся, падмаж,
Выйдзеш у людзі! — Разгортвай
плянавы падхалімаж.

І ён — дзе падмажа, дзе зьліжа,
дзе пройдзе, а дзе падбяжыць.
Да мэты ўсё-ж блізіцца бліжай.
...Кожнаму хочацца жыць!?

Сягаючы „праўдай і верай",
у лютаўскіх выбухах бур
стаў ён расійскім эсэрам,
здатным тварцом авантур.

Чыннасьць грамадзкая вабіць —
у Беларусі прыстаў.
І ў павятовым маштабе
дзеячам слаўленым стаў.

5

Окупаваны
край
наш!
Знай:
каля пана
падхалімаж.

Артыкул друкуе
ажыўлена-палкі:
вітае сьвятую
нагу маршалка.
У горад і ў вёску
шле вязку слоў:
— „Смерць
войску
бальшавікоў.
Шляхта, ў касьцёлы,
у цэрквы з дарамі.
Радасьці золак
іскрыцца над намі.
Нам край належыць,
пакуль зьзяюць зоры.
Успомніце межы
ад мора да мора"...

За гэту прысягу,
за гэты артыкул,

служба і ўвага —
і... морда ня біта.
Дзе трэба — лі сьлёзы.
дзе трэба — падмаж.
        Помніць свой лёзунг —
падхалімаж.

6

Нацполітыка маршала
Беларусьсю панавала.
    Мова, школы, песьні, клюбы
    ахвяраваны на згубу.
А для ўцехі ад дасады
працу вынайшлі для „Рады" —
    „Радзе" даў маршал правы —
    абеларушваньне царквы.
На царкоўны гэты звон
зброд ляцеў з усіх старон.
    Новы курс, „віват! Ідэя!..
    Павятовы вырас дзеяч.
Хоць і новыя турботы,
дый ня ўшкодзіць заработак:
    „Сьвяты божа", — „Ойча наш"
    пераклаў падхалімаж...
Веру ў бога, веру ў маць
пусьціць ён, каб праканаць, —
    што ідзе і блізка мусіць
    адраджэньне Беларусі.

7

Злоты надбавяць, —
ён возьме нагрузку
ўгаварваць
маліцца
па-беларуску.
Едзе ў раёны.
Ля цэрквы мясцовай
перад сялянствам
разводзіць прамову:
— „Выхаваньня
моральнага
быць ня можа
без выкладаньня
закону божага.
А каб лягчэй
успрыймалі галовы,
мальбу пераложым
на матчыну мову".

Новая праца
і новыя людзі.
Расійскі эсэр
у навінах ня блудзіць.

Стаў неадменным
сябром дэфэнзывы.

Знаёмства заводзіць
з мясцовым актывам.

А неўзабаве
на сходзе...
з закускай

з эсэра
расійскага
стаў
беларускім.

8

Усё пайшло на злом, на свалку.
Патрывожылі маршалка.
Давялося легіёнам
пад напорам войск чырвоных
уцячы, хоць руйнаваўшы
на шляху заводы нашы.

А з завулку гулка-конны
фланг прарваўшы- ўзвод чырвоных.
І эсэр ня траціць розум —
ён знайшоў савецкі лёзунг:

— З сэрцам чулым
ў нашым краі
вас, таварышы, вітаю!
З нашых плеч зышла гара.
Ура!
Таварышы!
Ур-р-ра!

9

Працоўныя гораду воляй авіты,
выйшлі на вуліцу,
выйшлі на мітынг.
Выбухам шчасьця
краіну клічуць —
змагацца-гарэць
за сусьветны Кастрычнік!

Паводкай прадвесьні
з песьняй
мільёнаў
праходзілі
            поступам
                  гордым
                        колёны.

Праменьні, як дзеці,
на вуліцу лезуць,
з рабочымі разам
пяюць „марсэльезу".

На мітынг
з колёнай
узьвітай,
рабочай
падхалімаж
па бруку крочыць.

10

Кожны шукае
пражытку сабе —
і ён пралязае
ў рады КПБ.

Тут лёгка дазнацца,
забраць партбілет, —
ён едзе на працу
у іншы павет.

Як ліст той асеньні,
дрыжэў ля гнязда:
„Мне отмщение
и аз воздам".

І хітра, як-небудзь,
праз шчыліны сьцен,
з падходцам, дзе трэба,
ён блізіцца ў цэнтр.
Дзе трэба — лі сьлёзы,
дзе трэба — падмаж.
Помніць свой лёзунг-
падхалімаж.

Вось так і чырвоным
профэсарам стаў,
і роль камэртона
марксызму ўзяў!

11

Як людзі, мінаюць
за годам год.
Мы выступаем,
у новы паход

Зрух Беларусі
рыхтуе наш стан.
Выканаць мусім
гіганцкі плян.

Праца ўзяла бальшавіцкі ход!
У спаборніцтва выйшаў
працоўны народ!..

А сэрца
балюча парой зашчыміць,
калі, як хрыстос,
на будоўлі стаіць
і брудзіць стан
бальшавіцкі
наш, —
плянавы падхалімаж.

ЭПІЛЁГ

Разьлівам
          паводкі
               за —
                    пяцігодку,-
ў бой навальніччы
партыя кліча!

Фабрыка — полк.
Цэх — узвод.
За крокам крок
 — паход!

На межы
          разьбежна!
               На хутар —
                    гуртам!
У бой навальніччы
цартыя кліча!

Фабрыка — полк.
Цэх — узвод.
За крокам крок
 — паход!

Тварцоў
          пакаленьне —
               на здраду,
                    на цені!
У бой навальніччы
партыя кліча!
Фабрыка — полк.
Цэх — узвод.
За крокам крок
 — паход!

За сьпеў
многаструнны,
за шчасьце
комуны, —
ў бой навальніччы
партыя кліча!

Крык
варштата —
штык,
граната!

Нетраў
сок —
электра —
ток!

Рух
машыны —
плуг
далінам!

Поле,
нівы —
Коле-
ктыву!

Ў добры час,
красуй, колгас!
Рунь.
Рань.
— Угрунь!
— Паўстань!
Працуй, краіна,
бесьперапынна!

1927 — 30 г., г. Менск.

# П О Э М А
# і м я ВЫЗВАЛЕНЬНЯ

**А** г л я д п а ч ы н а ю
з а д з е с я ц ь г о д ,
т а к з в а н а г а ,
К Р А Ю
л я с о ў і б а л о т
•

А Н Д Р Э Й А Л Е К С А Н Д Р О В І Ч

1

Лёзунгаў мітынг
у акопы
бег —
з візай кульпропа
ЦК КПБ.

Лёзунг —
грозны
кліч-плякат.
Лёзунгамі пачынаю
генэральны агляд.

Шчыльней пролетарскія рады,
даеш пяцігодку ў чатыры гады.

Узброім трактарамі колгасы,
ліквідуем кулацтва як клясу.

На лом заржавелыя краты
гора-тэорыяў нац-дэмократаў.

Будаўніцтва жывыя лічбы
складзены, як Ільліч быў.
Штодзень над краем кліч бег —
жыве Ільліч
у жывой лічбе!

2

Бяз схватак сэнсацый,
бяз сіплых слоў
бюро рэгістрацый
гісторыі чало
аздобіла датай
надзвычайнага сьвята:
Вызваленньня год дзесяты.

3

Урачыстасьць
        стальлю сочыцца,
каб над краем .
        датай выліцца —
каму хочацца,
і ня хочацца,
і лацінікай,
і кірыліцай,
і на Захад,
І на Усход —
        Будаўніцтва дзесяць год!

4

На рыштаваньнях
сонцаўсход
віталі,
штораньне —
          — Дзесяць год.
А ў 10 год
закон —
3600
дзён.

5

Беларусь у Янкі Купалы
безназоўнаю векавала.

А ў Якуба Коласа
і пазбаўленая права голасу.

У Бядулі — бядой бядавала.
У Гартнага — ледзь бунтавала.

А выйшла —
        безназоўная і безгалосая
па Чароту на вогнішча босая.

Па Александровічу Андрэю
ахрысьцілася ў завеях
                і цяпер завецца
                Беларусьсю Савецкай.

6

Было-бывала...
(Вока
глыбе́й кінь).
На кожным кроку:
цымбалы,
дудкі
і жалейкі.

Песьні жальбы,
гусьдяры...
Край пакутуе.

Жах —
жаль быў.
Земляры:
пот
працы
лютае.

Гне з берагоў гнеў —
і ў завірусе, —
радзіў новы сьпеў
новай Беларусі.

7

Беларусь была арэнай
векапомных схватак.

Пілсудзкага выгналі
                    каленам
                    пролетарыята.

І яшчэ ня мала
быў стан біты:
панавала
банда
наймітаў-бандытаў.

Беларусь была экранам,
дзе наплывам,
буйным плянам
паплывала ўся жахліваь ць
панаваньня пана.

Сьцяўшы вякоў пятлю —
убачыла краіна:
рабочыя рукі,
зямлю
і на зямлі
руіны.

8

Было-бывала
градам
протэставала
Рада:
О, божа, як пасьмелі
пасады
і портфэлі
браць
на штыкі —
бальшавікі.

Самі
хоць з вусамі
толькі
мала толку.

Разьбітыя пагрозай
што Рады
біты
козар —
давай лізаць аравай
Пілсудзкага халявы,

Кайзеравы пяткі, —
каб навёў парадкі.

9

Напорам войск чырвоных
павыганялі вон іх.

Змоўклі крыкі, рэхам стрэла,
бела-чырвань-белых

Бывае
хмара асядае,
як заслона дымавая —
іх краіна ўспамінае,

Хоць яны далёка і
з міністраў
сталі
лёкаі.

10

Ня ўсе, што з Рады
зьбеглі за мяжу.
Дзеля праўды
даскажу.

Іх і ў нас —
не пералічыць.

Як сычы
якраз,
глядзяць на нас.

І знойдуць момант
выйсьці з дому
на вуліцу —
на барыкады —
супроць Савецкае ўлады.
Адным словам
 ідэолёгія рады
 і савецкія чырвонцы.
Мая парада:
 прачытайце
 „Цені на сонцы".

11

Белых арлоў страі
стрыножвалі гарады:
душыў на вуліцах дым —
стогн гарадзкіх руін.

Братоў і сясьцёр зьбяром мы
ахвяры жандарскіх пагромаў.

Плачуць, як дзеці, хвалі
на развалінах мастоў.
Забінтоўвае нас зноў
упартасьць — упорысьцей сталі!

Руін у крыві камень,
— будзем бальшавікамі!

Пад сьцяг барацьбы аднаўленьня
выйшлі рабочыя сотні.
Першым на першы суботнік
выйшаў таварыш Ленін.

І сэрца фабрычных кварталаў
песьняй машын ажывала.

12

Іржавы бінт
з ран машын
зьняты
пролетарыятам.

Засьпявалі
стальлю
зьмеі —
магістралі
рэек.

Быў завод
зруйнован.
Пусьцілі ў ход
два
новых!

Уздыхнулі
ў бальшавіцкім
гуле
камяніцы
вуліц.

Больш апалу,
больш запалу

Кожны рух,
як у двух!

Дум агонь,
як страі —
ў аднаго,
за траіх!

Мазалі
ня плылі
на руку
рухавіку.

Рух
        руш
            ток сонца.

Высячы
        тысячы,
            ратацыёнка:

                — Адзяецца
                Беларусь —
                Беларусь
                Савецкая!

13

Галаву павісла
высахшая Сьвіслач.

Ход
        вод
            дзе ён?
Сталіца чырванее.

Бяроза гулам
вод —
адамкнула
сход.

Дняпро віхрыста ўсьпенены
ўрачыста
славіў Леніна.

Дзьвіны віталі
хвалі нас
палітыкаю Сталіна.

Плаўнакрылы
Сож прыбег
уславіць сілы
КПБ.

Прыбег на пераклічку
і Нёман прыгранічны.

Змагла краіна сьлед знайсьці —
сьвяткуе сьвята еднасьці.

14

Мільёнам заяўляю
сёньня я:
была-б векавая
Беларусь-калёнія.

Каб ня ўздыблены наш гарт
мела-бы губэрскі пашпарт.

Савецкага Саюзу ня былб каб
была-б заплесьненай затокай.

І славілася-б на Эўропу
сэльтэрскай вадой з сіропам.

Але сёньня —
выроўнівай стан ты.
Мы маем
      імя ім —
            гіганты!

І чаго было-б варта,
каб ня было
ў Беларусі компартыі?

15

Супраць —
        прарываў,
        прагулаў,
        і браку.

За —
        прамфінплян
        і высокую якасьць.

Таварыш рабочы,
Таварыш араты,
з заводу,
з колгасу
        гані бюрократа!

Мільёны краіне дае
                без замінкі —
савецкая бесьперапынка!

16

Яшчэ ўчора танулі
ў раскопаных пятах вуліц.

Давялося зямлі расьці
на вуснах сталічнай цярплівасьці.

Горад, як труп быў:
клалі-пераkладвалі трубы...

Зьдзекваліся нават і дзеці:
— Выкідваюць грошы
ў зямлю,
калі трзба
на вецер!

І лаялі іх за
гэтую каналіза...

Засыпалі трубы ў ямы.
Пусьцілі па вуліцы
электро-трамы.

І рэйкі і трубы рух загулі
і пад зямлёй і на зямлі.

17

Разьлівала
песьні
шыр балот Палескіх,
зазывала
зьдзейсьніць
песьні
хваль Арэсы.
Зазывала-звала
пракапаць каналы.

Як нідзе на сьвеце
ў ленінскім сталецьці:

балоты, што акопы,
капаюць землякопы,

Закасаўшы ногі —
за новыя дарогі!

Рукі закасаўшы
за перамогі нашы!

Штурмуюць аграномы...
— Ваду ў канал зьбяром мы!

Досыць суму сейбіты —
прыдзецца за сей біцца!

Ня зьвісай чало ніцам,
ураджай паклоніцца.

18

Па самакату
бервяно
ідзе пад нож
варштата.

З лесапілкі —
веерам
апілкі.

Па конвэеру
з парылкі
зноў альховыя
кражы
кладуць
пад новыя
нажы.

Істужкай шэрай,
як тканіна,
йдзе фанера
праз мышыну.

Роўнамерна
б‘е вал люта:
— не фанэра,
а валюта.

Працы бег
не адстае:
суседні цэх
сваё пяе...

Быстрагонам
пад вагоны
груз падвёз
аўтавоз.

Машыністаму нарад
даў
Бабруйскі
камбінат.

19

Змрок гісторыі
штовечар
запальваў сузор‘е,
як сьвечы.
Закурылася краіна
і ад звычайкае лучыны.

Чалавека вякамі
працы нялюдзкае пот
скручваў,
як ланцугамі —
калючы
дрот.

Поступам шквала
ўсім краем
паўстала
навала
людзкая.
Завё, каб
чалавекам
і ў дрыгве
стаў чалавек.

І пайшло так...
У балотах
загула-была
работа.

І праз год
сярод
балот —

пе-
    ра-
        ва-
            рот!

Тысяча дзевяцьсот
трыццаты год.
З балот
у гады
пабеглі правады.
Загудзелі поуным ходам
гмахі фабрык і заводаў.

І ў селяніна
замест лучыны
і карча —
лямпачка Ільліча..

Абвязаў краіне стан
правадамі —
Асінстан.

20

Іграйце
маршы
заўтрашняму дню.

Жыцьцё
наша
агнявей агню.

Нашакіўцы
і ў сьне ня сьнілі,
што мы ў Беларусі
зрабілі.

Зналі
адно —
ткалі
валакно.
А час прышоў —
мы робім шоўк.

Роспачным крыкам
магілы
рыла —
рылам
саха-матыка.

Цяпер над краем
крыляе
звонам —
гонар
трактарнай колёны.

І пяе наўсьцяж
наш
Сель-
маш.

На небе хмаркі,
што фальваркі,
з бандай зор
вялі згавор:
  — жыцьця разьбег
  скарыць сабе.

І хутары
да гэтых пор
на зямлі
вялі
згавор.

Зьвязаўшы моц сваю вузлом —
бліскавіца,
быццам
нож,
нанесла ўдар
па зграі хмар —
    і грымнуў гром,
    і грануў дождж.

Сабе
хутары
ў барацьбе
пакарыў,
  і ў нас —
  кол-
  гас.

21

1900 і 17 зім
краіна была
няпісьменнай зусім!

Тры крыжыкі — спадчына
з даўных вякоў.
(Таму і так многа
ў краіне крыжоў!)
Прывязалі
дні на палях
і ў навале
далі,
бой.
Забінтавалі
стальлю
стыннай
стан краіны
маладой.

Пакарылі,
як на крыльлях,
дзён нязьлічаныя мілі.
Уздыхнулі
гулкім вульлем.
Дасягнулі
сілай рук —
ад вяскова-пачатковай
да Акадэміі Навук!

22

На біржах працы ў нас няма
майстроў, якіх варштат баіцца.
Рабочых рук, як быццам, шмат,
а не стае ў завеі будаўніцтва!

Крыляйся рух!
Мы ўдаль ідзем...
Адзін за двух —
ударны тэмп.
Перамога
ў грудзі б‘ецца:
з бальшавіцкім
зьліцца
            сэрцам!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Агляд закончу праз адну
найболей дзьве ўрачыстых песьні.
Міжнароднае становішча — крануць-
чаму
      жаданьне гэтае
            ня зьдзейсьніць?

23

23 гадзіны..
Сілай нястрыманай,
як ветрарэз,
крануўся ў даль
экспрэс.

...Увага!
Будучыня вабіць.
Падзея ў планетным маштабе.
Зьвяжамся поясам рэек —
аднэю пад сонцаы ідэяй.

Але праз гадзіну
ў 24-
касьцьмі ляглі пасажыры.
Выбух!
        Крушэньне!
                Экспрэс у попел!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Таварышы, ціха!
                Крушэньне ў Эўропе!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Крушэньня (на жаль!) ня было.
Гэта толькі... паніка слоў.
Яшчэ ня было...
Але-ж будзе яно —
рэволюцыя зьменіць
жыцьця старно.
Раскатамі чуюцца зрухі

гісторыі Заўтрага...
Слухай!

Паясьніцу
краю
разьядае
як іржа —
вераніцаю
мяжа.
Казэматы,
зьдзекі,
плаха.
Векі
катам
жмурыць Захад.

Б е р а ж ы
замок мяжы!
І хрыстос
вайной
на нас —
мобілізованы
ў процівагаз!
Эўропа
ў акопах!
Што дзень, — так і
блізяцца схваткі атакі.

...Зьзяе сонцам Сталінстан
там,
над краем катаржан.

24

Краіна набыла
жалезную закалку.
Расла прымежная
ў разьбежнай барацьбе.

Ухваляем
поўнасьцю і цалкам
генэральную
                    лінію
                              КПБ.

Не любавацца
тым —
што маем.
Нашай працы
наш уздым
гады пераступаеі
                    Увысь, галава!
                    Раз, два!
Будзе садам расьці,
песьня радасьці!

І, як бор, расьці,
песьня гордасьці!.

25

На варту дні ліпнёвыя
к нам новыя прыйшлі.
Мінулыя, суровыя
падмуркамі ляглі.

Жыцьцё агнём завеена,
як зарывам усход.
Сягоньня жыць заве яно
на ўсе на дзесяць год.

Жылі мы бедна, ў горы — і
змаглі залом зламаць.

Калісь была ў гісторыі
расійская турма...

Жыцьця законы зьменены,
турмы прайшла пара.
Пад гордым сьцягам Леніна
у людзі выйшаў край!

Была няхай крываваю
і не адна вярста —
Саведкаю дзяржаваю —
край вызвалены стаў.

Узьвіцеся, імкненьні!
Зерні шчасьця сей —
Поэма Вызваленьня
Беларускай
ССР.

Май-чэрвень
1930 г.

# З Ь М Е С Т

*Стар.*

1

2



3